МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ПЕДАГАГІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ імя МАКСІМА ТАНКА

# РУСКА-БЕЛАРУСКІ ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК ПА ФІЗІЯЛОГІІ ЧАЛАВЕКА І ЖЫВЁЛ

МІНСК 1997

ББК 28.903
Р 88

Друкуецца па рашэнню рэдакцыйна-выдавецкага савета
БДПУ імя М. Танка

*Складальнікі:* А.Р. Александровіч, С.П. Амуросьева, Л.М.Байцоў, Я.У. Гаеўскі, Н.П.Лобань, Т.А.Міклуш, В.А.Новік

Слоўнік з'яўляецца сістэматызаваным выданнем, у якім укладзены ў алфавітным парадку 826 найбольш пашыраных паняццяў і тэрмінаў па фізіялогіі чалавека і жывёл.

Прызначаецца для фізіёлагаў, выкладчыкаў і студэнтаў біялагічных факультэтаў універсітэтаў.

# ПРАДМОВА

Фізіялогія чалавека і жывёл - комплексная навука, якая з'яўляецца падмуркам для вырашэння разнастайных медыка-біялагічных, псіхолага-педагагічных, сацыяльна-гігіенічных праблемаў. Грунтоўныя веды па фізіялогіі абсалютна неабходны сучаснаму настаўніку, практычнаму псіхолагу, сацыяльнаму педагогу, валеолагу.

Слоўнік фізіялагічных тэрмінаў прапануецца для карыстання студэнтам, якія вывучаюць фізіялогію чалавека і жывёл, фізіялогію чалавека, узроставую фізіялогію чалавека.

У слоўнік укладзена 826 тэрмінаў, якія найбольш ужываюцца ў сучаснай навуковай і навучальнай літаратуры.

Слоўнік падрыхтаваны ў адпаведнасці з праграмамі вышэйшых і сярэдніх педагагічных навучальных устаноў.

Тэрміны ў слоўніке ідуць ў алфавітным парадку, кожны з іх спачатку даецца на рускай мове, потым ідзе яго пераклад і тлумачэнне па беларуску. У выпадках, калі тэрмін складаецца з некалькіх словаў, яны даюцца згодна існуючай традыцыі ў фізіялагічнай навуковай літаратуры. Калі тэрмін складаецца з уласнага імя і фізіялагічнага тэрміна, ужываецца інверсія (Боумена-Цимлянскага капсула). У некаторых выпадках ужываецца ланцужок тэрмінаў, дзе першым ідзе галоўны: напрыклад - Гормон: Г. ...........

Пры ўкладанні слоўніка ўжывалі тэрміны і паняцці з сучаснай навучальнай і даведачнай літаратуры (Биологический энциклопедический словарь,1982; Костюк,1985; Газенко,1987; Ноздрачев,1992; Санюкевич,1992; Фениш,1996; Эккерт и др.,1992).

Беларускія тэрміны сабраны з старых і сучасных слоўнікавых выданняў (Ластоўскі,1924; Байкоў, Некрашевіч,1926; Руска-беларускі слоўнік,1991-1992; Стасевіч, Варыёцкі,1993; Ятусевіч, Капліч,1993). У выпадках супярэчнасці старых і сучасных тэрмінаў перавага аддавалася гістарычнаму прыярытэту.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

ВНД - вышэйшая нярвовая дзейнасць
УПСП- узрушальны постсінаптычны патэнцыял
ХАК - хвілінны аб'ём крывазвароту
МП - мембранны патэнцыял
ПД - патэнцыял дзеяння
ТПСП- тармазны постсінаптычны патэнцыял
ЦНС - цэнтральная нервовая сістэма
ЭКГ - электракардыяграма
ЭЭГ - электраэнцэфалаграма

АБСОРБЦИЯ -- *абсорбцыя (пагльнанне, усмоктване):* пагльнанне газу ці раствораната рэчыва вадкасцю або цвёрдым целам.

АВИТАМИНОЗ -- *авітаміноз:* хвароба, якую выклікаюць недахоп вітамінаў у прадуктах харчавання або парушэнні ў іх усваенні.

АВТОМАТИЗМ (АВТОМАТИЯ) -- *аўтаматызм (аўтаматыя):* уласцівасць уэрушлівых утварэнняў выконваць рытмічную актыўнасць пад уплывам імпульсаў, якія ўзнікаюць у іх саміх.

АГЛЮТИНАЦИЯ -- *аглютынацыя:* склейванне і выпадзенне ў асадак антыгенных часцак (бактэрый, формавых элементаў крыві і інш.) пад уплывам спецыфічных антыцелаў. Выкарыстоўваецца для вызначэння групаў крыві.

АГЛЮТИНИНЫ -- *аглютыніны:* антыцелы, якія аглютынуюць элементы крыві.

АГЛЮТИНОГЕНЫ -- *аглютынагены:* антыгены, якія адсарбуюцца формавымі элементамі крыві.

АГРАНУЛОЦИТ (ЛЕЙКОЦИТ НЕЗЕРНИСТЫЙ) -- *агранулацыт (лейкацыт незярністы):* лейкацыт, цытаплазма якога не мае зярністасці.

АДАПТАЦИЯ -- *адаптацыя (прыстасаванне, прызвычаенне):* прыстасаванне арганізма да пераменных умоў асяроддзя і органаў да выканання пэўных функцыяў. Забяспечвае адноснае пастаянства ўнутранага асяроддзя - гомеастаз.

АДЕНОГИПОФИЗ -- *адэнагіпофіз:* пярэдняя доля гіпофіза, якая мае залозістую будову і функцыянуе як залоза нутраной сакрэцыі. А. выдзяляе самататрапін, які ўплывае на рост, абмен рэчываў, а таксама гармоны, якія стымулююць развіццё і функцыі іншых залоз нутранай сакрэцыі (пралактын, кортыкатрапін, цырэятрапін, ганадатрапін).

АДЕНОГИПОФИЗАРНЫЕ ВЕЩЕСТВА -- *адэнагіпафізарныя рэчывы:* біялагічна актыўныя рэчывы, якія выдзяляюцца гіпаталамусам. Да іх адносяцца гіпаталамічныя статыны і ліберыны.

АДРЕНАЛИН (ЭПИНЕФРИН) -- *адрэналін (эпінефрын):* гармон мозгу надныркавіцы і пазанадныркавай храмафіннай тканкі. Фізіялагічнае дзеянне а. аналагічна эфекту пацьвядення сімпатычных нерваў. А. актывізуе выдзяленне рылізінггармонаў гіпаталамусам, узмацняе і пачашчае сардэчныя скарачэнні, пашырае каранарныя судзіны, звужвае артэрыёлы і капіляры скуры, чараўных органаў і шкілетных мускулаў, якія знаходзяцца ў спакоі; павышае сісталічны артэрыяльны ціск, тармозіць маторыку страўніка-кішачнага тракту і павы-

шае працаздольнасць шкілетных мускулаў і інш.

АДРЕНОГЛОМЕРУЛОТРОПИН -- *адрэнагламерулатрапін:* біялагічна актыўнае рэчыва, якое выдзяляецца з прамежкавага мозгу і гіпофізу. Утвараецца пры аднаўленні мелатаніна, стымулюе сакрэцыю альдастэрона.

АДРЕНОРЕЦЕПТОР (-Ы) -- *адрэнарэцэптар (-ы):* спецыялізаваныя бялковыя рацэптарныя малекулы клеткі, размешчаныя на постсінаптычнай мембране адрэнэргічных сінапсаў, якія змяняюць іх функцыянальны стан.

АДСОРБЦИЯ -- *адсорбцыя:* паглынанне газу ці растворанага рэчыва паверхняю цвёрдага цела ці вадкасці. Напрыклад, адсорбцыя амінакісляў крыві эрытрацытамі, якія пераносяць іх да тканак.

АККОМОДАЦИЯ -- *акамадацыя:* прыстасаванне ўзрушлівых тканкаў (мускульнай, нервовай) да дзеяння сілы пацьвялялыника, якая павольна нарастае.

АКРОМЕГАЛИЯ -- *акрамегалія:* захворванне пры гіперфункцыі гіпофіза. Пры гэтым павялічваюцца памеры косці, ступняў, ніжняй сківіцы, нутраных органаў і адбываецца парушэнне абмену рэчываў.

АКСЕЛЕРАЦИЯ -- *акселерацыя:* паскарэнне тэмпаў фізічнага, псіхічнага і плоцевага (палавога) развіцця дзяцей і падлеткаў.

АКСОЛЕММА -- *аксалема:* частка клетачнай абалонкі нейрона, якая пакрывае аксон.

АКСОН (НЕЙРИТ) -- *аксон (нейрыт):* доўгі выраст цытаплазмы нейрона, які ўтварае калатэралі і тэрміналі.

АКСОН-РЕФЛЕКС -- *аксон-рэфлекс:* рэфлекс, які адбываецца на разгалінаванні аксона без удзелу цела нейрона.

АКСОННЫЙ ХОЛМИК (ОСНОВАНИЕ АКСОНА) -- *аксонны грудок (аснова аксона):* канічна пашыраная частка аксона паміж целам нейрона і першым сегментам аксона. Тут узнікае патэнцыял дзеяння.

АКСОПЛАЗМА -- *аксаплазма:* цытаплазма аксона, у якой знаходзяцца нейрафібрылі, нейрафіляменты, мікратрубачкі, мітахондрыі і інш.

АКТИВНЫЕ ЗОНЫ СИНАПСА -- *актыўныя зоны сінапса:* скопішча пухірыкаў з медыятарам на прэсінаптычнай мембране.

АКТИН -- *актын:* бялок мускульных валокнаў.

АКТОМИОЗИН -- *актаміязін:* комплексны бялок мускульных валокнаў, які бярэ ўдзел у іх скарачэнні.

АКЦЕПТОР РЕЗУЛЬТАТА ДЕЙСТВИЯ -- *акцэптар выніку дзеяння:* тэрмін, які прапанаваў П.К.Анохін, каб абазначыць апарат прагра-

мавання, прадбачання ацэнкі вынікаў даення.

АЛКАЛОЗ -- *алкалоз:* форма парушэння кіслінна-шчолачнай (кіслінна-лужнай) раўнавагі ў арганізме ў шчолачны (лужны) бок.

АЛЛЕРГИЯ -- *алергія:* форма імуналагічнага адказу на павышэнне чуйнасці арганізма да алергена пры паўторным уздзеянні.

АЛЬБУМИН СЫВОРОТОЧНЫЙ -- *альбумін сываратачны:* бялок плазмы крыві (50-60%). Раствараецца ў вадзе, сінтэзуецца ў печані.

АЛЬВЕОЛА ЛЁГКОГО -- *альвеола (пухірык) лёгкага:* канцавы элемент паветраносных шляхоў; мае адзін пласт плоскага эпітэлію, забяспечвае газаабмен.

АЛЬВЕОЛЯРНЫЙ ВОЗДУХ -- *альвеалярнае (пухірыкавае) паветра:* паветра, якое знаходзіцца ў альвеолах лёгкіх і непасрэдна ўдзельнічае ў газаабмене з крывёю.

АЛЬДОСТЕРОН -- *альдастэрон:* гармон наднырkавіцы; адносіцца да мінералакартыкоідаў.

АЛЬФА-МОТОНЕЙРОН (-Ы) -- *альфа-матанейрон (-ы):* нервовыя клеткі пярэдніх рагоў спінных мазгоў, пакрытыя мноствам сінапсаў. Аксон а.-м. пасылае нервы да экстрафузальных мускулаў.

АНАЛИЗАТОР -- *аналізатар:* анатама-фізіялагічная сістэма, якая забяспечвае ўспрыманне і аналіз розных відаў энергіі вонкавага або нутранага асяроддзя і фармавання спецыфічнага адчування. Распазнаюць наступныя аналізатары: балявы, вестыбулярны, смакавы, рухальны, зрокавы, інтэрацэптыўны, скуравы, нюхавы, пропрыяцэптыўны, маўленча-рухальны, слыхавы.

АНИЗОТРОПНЫЙ ДИСК -- *анізатропны дыск:* міяфібрылярны дыск, які мае двайную праменезаламляльнасць; ён мае тоўстыя міяфіламенты.

АНТИГЕНЫ -- *антыгены:* чужародныя для арганізма макрамалекулы, пры парэнтэральным увядзенні якіх у арганізме ідзе імунная рэакцыя.

АНТИГОРМОНЫ -- *антыгармоны:* біялагічна актыўныя рэчывы, якія прыгнятаюць гарманальную актыўнасць. Змяшчаюцца ў глабулінавай фракцыі крыві. З'яўленне а. гаворыць аб імуналагічнай рэакцыі арганізма.

АНТИТЕЛА -- *антыцелы:* бялковыя рэчывы, што ўтвараюцца ў адказ на ўвядзенне розных антыгенаў, з якімі яны спецыфічна злучаны.

АНТРОПОМЕТРИЯ -- *антрапаметрыя:* сукупнасць метадаў вывучэння чалавека, заснаваных на вымярэнні яго марфалагічных і функцыя-

нальных пакаэчыкаў.

АНЭЛЕКТРОТОН ФИЗИОЛОГИЧЕСКИЙ -- *анэлектратон фізіялагічны:* паніжэнне ўзрушлівасці, праводнасць узрушання тканкі пад анодам пры ўздзеянні на тканку пастаяннага току.

АОРТА -- *аорта:* буйная эластычная крывяносная судзіна вялікага кола кровазвароту, які адыходзіць ад левага шлуначка сэрца і забяспечвае крывёю ўсе тканкі і органы цела.

АРТЕРИАЛЬНОЕ ДАВЛЕНИЕ (КРОВЯНОЕ ДАВЛЕНИЕ) -- *артэрыяльны ціск (крывяны ціск):* ціск крыві на сценкі артэрыяльных судзінаў. А.ц. бывае базальны, дыясталічны (мінімальны), рэшткавы, пульсавы, сісталічны (максімальны), выпадковы, сярэдні.

АРТЕРИАЛЬНЫЙ ПРОТОК (БОТАЛЛОВ ПРОТОК) -- *артэрыяльная пратока (баталава пратока):* крывяносная судзіна, якая злучае лёгачную артэрыю з аортай.

АРТЕРИАЛЬНЫЙ ПУЛЬС -- *артэрыяльны пульс:* рытмічныя калыханні сценак артэрыі, абумоўленыя выштурхоўваннем крыві з сэрца ў час сісталы.

АРХИТЕКТОНИКА КОРЫ БОЛЬШИХ ПОЛУШАРИЙ ГОЛОВНОГО МОЗГА -- *архітэктоніка кары (шкарупы) вялікіх паўсфераў галаўных мазгоў:* раздзел неўралогіі, які вывучае прасторавае размяшчэнне нервовых структураў у кары (шкарупе) вялікіх паўсфераў.

АССИМЕТРИЯ ПОЛУШАРИЙ ФУНКЦИОНАЛЬНАЯ -- *асіметрыя паўсфераў функцыянальная:* неаднолькавае размеркаванне функцыяў у левай і правай паўсферах галаўных мазгоў.

АССИМИЛЯЦИЯ -- *асіміляцыя:* сукупнасць хімічных працэсаў, скіраваных на ўтварэнне і ўзнаўленне структурных частак клетак і тканак.

АССОЦИАТИВНЫЕ ВОЛОКНА -- *асацыятыўныя валокны:* нервовыя валокны, якія злучаюць нервовыя клеткі розных аддзелаў кары (шкарупы) галаўных мазгоў у межах адной паўсферы.

АССОЦИАТИВНЫЕ ЗОНЫ КОРЫ -- *асацыятыўныя зоны кары:* сенсорныя зоны кары, клеткі якіх атрымліваюць імпульсы ад праекцыйных зон і забяспечваюць аналіз і сінтэз рознамадальных узрушанняў.

АСТАЗИЯ -- *астазія:* парушэнне руху, якое праяўляецца як страта здольнасці стаяць і хадзіць без падтрымкі.

АТАКСИЯ -- *атаксія:* парушэнне руху, якое ўзнікае ў выніку неадпаведнасці паміж скарачэннем мускулаў пры выкананні рухаў.

АТИПИЧЕСКИЙ -- *атыпічны:* нетыповы, няверны, неадпаведны тыпу.

АТОНИЯ -- *атанія:* адсутнасць мускульнага тонусу.

АТРИОВЕНТРИКУЛЯРНАЯ ЗАДЕРЖКА -- *атрыёвентрыкулярная затрымка:* замаруджванне праводу ўзрушання ў праваднiковай сiстэме сэрца пры пераходзе з мускулаў прысенняў на валокны атрыявентрыкулярнага вузла.

АТРИОВЕНТРИКУЛЯРНЫЙ УЗЕЛ (ПРЕДСЕРДНО-ЖЕЛУДОЧКОВЫЙ УЗЕЛ, АШОФА-ТАВАРА УЗЕЛ) -- *атрыёвентрыкулярны вузел (прысенна-шлуначкавы вузел, Ашофа-Тавара вузел):* пачатковы аддзел праваднiковай сiстэмы шлуначкаў сэрца, размешчаны ў тканцы памiжшлуначкавай перагародцы на мяжы прысеняў i шлуначкаў. Генеруе iмпульс з частасцю 40-60 разоў ў хвiлiну.

АФФЕРЕНТАЦИЯ -- *аферэнтацыя (цэнтрамкненне):* серыя нервовых iмпульсаў, якiя паступаюць у ЦНС ад розных экстра- i iнтэрарэцэптараў. А. (паводле П.К.Анохiна) бывае зваротная, сiтуацыйная, пускавая.

АФФЕРЕНТНЫЙ -- *аферэнтны:* цэнтрамклiвы (iмкнецца да цэнтра).

АХИЛЛОВ РЕФЛЕКС -- *ахiлаў рэфлекс:* сухажыльны рэфлекс, якi праяўляецца ў разгiнаннi стапы ў галенастопным суставе пры пацьвяленнi ахiлава сухажылля.

АЦЕТИЛХОЛИН -- *ацэтылхалiн:* медыятар нервовых iмпульсаў у сiнапсах парасiмпацыйнай нервовай сiстэмы, некаторых сiнапсах ЦНС, у саматычных рухальных i прэгангалiянарных сiмпацыйных нервовых заканчэннях.

АЦИДОЗ -- *ацыдоз:* парушэнне кiслiнна-шчолачнай раўнавагi ў арганiзме ў бок павялiчвання $H^+$ iонаў.

БАЗЕДОВА БОЛЕЗНЬ -- *базедава хвароба:* захворванне, звязанае з гiперфункцыяй шчытавiцы. Праяўляецца як парушэнне абмену рэчываў. Прыкметы: пучывок, схудненне, пачашчэнне сардэчных скарачэнняў i iнш.

БАЗОФИЛ -- *базафiл:* адзiн з вiдаў лейкацытаў, якi ўтрымлiвае гранулы. Сiнтэзуе гепарын i гiстамiн, бярэ ўдзел у алергiчных рэакцыях, бо мае медыятар гiперчуйнасцi.

БАЛАНС АЗОТИСТЫЙ -- *баланс азоцiсты:* рознiца колькасцi азоту, уваднога з ежай, i колькасцi азоту, выведнога з мачой, калам i потам. Бывае дадатны (станоўчы) i адмоўны азоцiсты баланс.

БАНУНГ -- *банунг:* "пратарэнне шляху" пры з'явах сумацыi ў ЦНС.

БАРАБАННАЯ ЛЕСТНИЦА -- *бубенныя сходы (барабанная лесвiца):* нiжнi канал скрутка, якi адкрываецца ў бубенную (барабанную) па-

ражніну круглым акном. Б.л. запоўненая перылімфай, ад перапончатага канала скрутка аддзяляецца базальнай мембранай і праз гелікатрэму спалучаецца з вестыбулярнымі сходамі.

БАРАБАННАЯ ПЕРЕПОНКА -- *барабанная перапонка (бубенная балона):* тонкая злучанатканкавая мембрана, якая аддзяляе вонкавае вуха ад бубеннай (барабаннай) паражніны.

БАРАБАННАЯ ПЕРЕПОНКА ВТОРИЧНАЯ (МЕМБРАНА КРУГЛОГО ОКНА) -- *барабанная перапонка другасная (мембрана круглага акна) (бубенная балона другасная):* тонкая злучанатканкавая пластка, якая закрывае акно скрутка. Б.п.д. гасіць калыханне перылімфы бубенных (барабанных) сходаў.

БАРОРЕЦЕПТОР (-Ы); (ПРЕССОРЕЦЕПТОР) -- *барарэцэптар (-ы); (прэсарэцэптар):* інтэрарэцэптары, якія рэагуюць на расцягванне крывяносных судзінаў пры крыванапаўненні. Размешчаныя ў скуры, у сценках крывяносных судзінаў нутраных органаў.

БАСОВА ФИСТУЛА -- *Басава фістула:* штучна створаны свішч у страўніку сабакі для вывучэння сакрэцыйнай і маторнай (рухавай) функцыяў ва ўмовах хранічнага эксперыменту.

БЕКЕШИ ТЕОРИЯ СЛУХА (ГИДРОСТАТИЧЕСКАЯ ТЕОРИЯ СЛУХА, ТЕОРИЯ БЕГУЩЕЙ ВОЛНЫ) -- *Бекешы тэорыя слыху (гідрастатычная тэорыя слыху, тэорыя бягучай хвалі):* тэорыя, якая тлумачыць аналіз гукаў у скрутку з рухам перы- і эндалімфы і дэфармацыяў базальнай мембраны пры калыханні асновы стрямяна. Пры гэтым бягучая хваля ідзе да верхавіны скрутка.

БЕЛКИ (ПРОТЕИНЫ) -- *бялкі (пратэіны):* высокамалекулярныя арганічныя злучэнні, якія складаюцца з амінакісляў. Пры расшчапленні 1 г бялку вызваляецца 17-18 кДж цяпла. Патрэба чалавека на суткі складае 80-100 г. Перыяд поўнага абнаўлення бялкоў ў арганізме - 80 дзён.

БЕЛЛА-МАЖАНДИ ЗАКОН -- *Бела-Мажандзі закон:* чуйныя валокны заходзяць у спінныя мазгі ў складзе задніх карэньчыкаў, а эфекцыйныя валокны выходзяць са спінных мазгоў ў складзе пярэдніх карэньчыкаў.

БЕРИ-БЕРИ (ПОЛИНЕВРИТ) -- *беры-беры (палінеўрыт):* хвароба, якая развіваецца ў арганізме пры недахопе ў ежы тыяміна (вітаміна $B_1$).

БЕРНШТЕЙНА МЕМБРАННАЯ ТЕОРИЯ -- *Бернштэйна мембранная тэорыя:* тэорыя, якая тлумачыць паходжанне электрычных патэнцыялаў ў жывых клетках праз здольнасць паўпранікальных мембран выбіральна

размяркоўваць іоны паміж вонкавым асяроддзем клеткі і яе цытаплазмай.

БИНОКУЛЯРНОЕ ЗРЕНИЕ -- *бінакулярны зрок:* зрок абодвума вачыма. Граніца ўспрымальнасці ў б.з. паніжаецца на 8-10%, вастрыня зроку павышаецца на 5%.

БИОЛОГИЧЕСКАЯ МЕМБРАНА -- *біялагічная мембрана:* супольнасць функцыянальна актыўных паверхневых структураў клетак, якія маюць складаную будову.

БИОЛОГИЧЕСКАЯ ЦЕННОСТЬ ПИЩИ (ПИЩЕВАЯ ЦЕННОСТЬ) -- *біялагічная каштоўнасць ежы (харчовая каштоўнасць):* ступень адпаведнасці складу ежы патрэбам арганізма ў амінакіслях, бялках, тлушчах.

БИОЛОГИЧЕСКИ АКТИВНЫЕ ВЕЩЕСТВА -- *біялагічна актыўныя рэчывы:* арганічныя спалучэнні, здольныя рэгуляваць фізіялагічныя функцыі ў арганізме, якія маюць высокую спецыфічнасць уздзеяння. Да іх адносяцца гармоны, вітаміны, ферменты і інш.

БИОЛОГИЧЕСКИЕ ПОТЕНЦИАЛЫ (БИОПОТЕНЦИАЛЫ) -- *біялагічныя патэнцыялы (біяпатэнцыялы):* электрычныя патэнцыялы, якія ўзнікаюць у жывых сістэмах у выніку фізіка-хімічных працэсаў раздзялення станоўчых і адмоўных электрычных зарадаў па абодва бакі мембраны. Вызначаюць патэнцыялы спакою, дзеяння, узрушальныя і тармазныя, постсінаптычныя, генератарныя.

БЛЕДНЫЙ ШАР -- *бледны шар:* падкоркавае ядро, якое рэгулюе складаныя рухальныя рэфлекцыйныя акты (дапаможныя рухі рук, мімічныя рухі і інш.), арыентацыйныя і абарончыя рэфлексы. Уваходзіць у склад экстрапірамідная сістэмы.

БЛИЖНЯЯ ТОЧКА ЯСНОГО ВИДЕНИЯ -- *найбліжэйшы пункт выразнага бачання:* пункт зрокавай восі на адлегласці, з якой аб'екты разглядання выразна праектуюцца на светачуйныя рэцэптары сеткавіцы пры максімальным напружанні акамадацыі.

БЛИЗОРУКОСТЬ (МИОПИЯ) -- *панікліца, блізарукасць (міопія):* парушэнне рэфракцыі вока, пры якім фокус аптычнай сістэмы вока знаходзіцца паміж сеткавіцай і крышталікам. Панікліца уласціва падоўжанаму воку.

БОРОЗДЫ КОРЫ ГОЛОВНОГО МОЗГА -- *разоры кары (шкарупы) галаўных мазгоў:* паглыбленні, размешчаныя на паверхні паўсфераў і пакрытыя мяккай мазгавой абалонкай. У чалавека 2/3 паверхні кары знаходзяцца ў глыбіні разораў. Разоры падзяляюць паўсферы на долі.

БОУДИЧА ЛЕСТНИЦА -- *Боўдзічава сходы (лесвіца):* паступовае

павелічэнне сардэчных скарачэнняў да максімальнай амплітуды, якое назіраецца на ізаляваным, прыпыненым, знясіленым сэрцы пры паслядоўным нанясенні на яго пацьвяляльнікаў пастаяннай сілы.

БОУМЕНА ТЕОРИЯ МОЧЕОБРАЗОВАНИЯ -- *Боўменава тэорыя мочаўтварэння (бруляўтварэння):* тэорыя, якая тлумачыць утварэнне мачы (брулі) фільтрацыяй вадкай часткі крыві ў капілярах клубочка нефрона і сакрэцыяй арганічных рэчываў эпітэліем канальчыкаў.

БРОКА ЦЕНТР РЕЧИ -- *Брокавы цэнтр мовы:* рухальны цэнтр мовы, размешчаны ў лобнай лукавіне (палі 44,45). Пры пашкоджанні б.ц.м. парушаецца каардынацыя функцыі вуснай мовы пры захаванні разумення чужой мовы.

БРОМГОРМОН -- *бромгармон:* гармон гіпофіза. Дзейнічае на клеткі шкарупы (кары) вялікіх паўсфераў і падшкарупавыя (падкоркавыя) ўтварэнні, выклікае надыход сну.

БРОНХИ -- *бронхі:* паветраправодныя шляхі, якія адыходзяць ад трахеі. Яны выдзяляюць сліз, які мае антыбактэрыяльнае і антывіруснае ўздзеянне.

БРОНХИОЛА (-Ы) -- *бранхіёла (-ы):* разгалінаванне дробных бронхаў. Выконвае функцыю праводу паветра, не мае ў сценках храсткоў і залоз.

БУЛЬБАРНОЕ ЖИВОТНОЕ -- *бульбарная жывёліна:* жывёліна ў эксперыменце, у якой перарэзаны нервы мозгу паміж мастом і падоўжаным мозгам.

БУФЕРНЫЕ СИСТЕМЫ -- *буферныя сістэмы:* сукупнасць рэчываў у растворы, якія маюць уласцівасць працідзейнічаць змяненню актыўнай рэакцыі раствору (вадароднага паказчыка) пры развядзенні ці дабаўленні да яго невялікай колькасці моцных кіслаў ці шчолачаў.

ВАЗОДИЛАТАТОРЫ -- *вазадылятатары:* нервовыя і гумаральныя фактары, якія пашыраюць судзіны і паніжаюць судзінны тонус.

ВАЗОКОНСТРИКТОРЫ -- *вазаканстрыктары:* нервовыя і гумаральныя фактары, якія звужваюць крываносныя судзіны.

ВАЗОМОТОРНЫЙ ЦЕНТР -- *вазаматорны цэнтр:* сукупнасць нервовых структураў, размешчаных у розных аддзелах ЦНС.

ВДОХ (ИНСПИРАЦИЯ) -- *удых (інспірацыя):* фізіялагічны працэс, які забяспечвае паступленне паветра ў лёгкія. Ажыццяўляецца за кошт скарачэння дыяфрагмы і вонкавых міжрэберных мускулаў.

ВЕГЕТАТИВНЫЕ ГАНГЛИИ -- *вегетацыйныя гангалі:* структурныя ўтварэнні, якія забяспечваюць сінаптычную перадачу ўзрушання з

прэганглiянарных валокнаў на пастгангліянарныя.

ВЕГЕТАТИВНЫЙ -- *вегетацыйны:* адносіцца да росту і харчавання арганізма, а таксама самарэгулявання вегетацыйнай нервовай сістэмы.

ВЕЗИКУЛА (ПУЗЫРЁК) -- *везікула (пухірык):* утварэнне ў прэсінаптычных заканчэннях, дзе знаходзіцца медыятар.

ВЕНА (-Ы) -- *вена (-ы):* крывяносныя судзіны, якія нясуць кроў да сэрца.

ВЕНОЗНОЕ ДАВЛЕНИЕ -- *вянозны ціск:* ціск крыві, якая рухаецца па венах.

ВЕНТИЛЯЦИЯ ЛЁГКИХ -- *вентыляцыя лёгкіх:* абмен паветра ў альвеолах у працэсе ўдыху і выдыху.

ВЕНУЛА (-Ы) -- *венула (-ы):* дробныя вены, якія ўтвараюцца пры спалучэнні вянозных капіляраў.

ВЕРНИКЕ ЦЕНТР -- *Верніке цэнтр:* моўная сенсарная зона кары, размешчаная ў заднім аддзеле верхняй скроневай звіліны дамінантнай паўсферы.

ВЕРХНИЕ ДЫХАТЕЛЬНЫЕ ПУТИ -- *верхнія дыхальныя шляхі:* частка дыхальных шляхоў, размешчаных вышэй галасавых звязак (паражніна носа, насавая дыхніца, ротавая дыхніца, дыхніца).

ВЕСТИБУЛОРЕЦЕПТОРЫ -- *вестыбуларэцэптары:* рэцэптары, якія ўспрымаюць змяненне хуткасці і напрамак перамяшчэння цела ў прасторы. У чалавека яны знаходзяцца ў валасковых клетках перапончатага лабірынта нутранога вуха.

ВЕСТИБУЛЯРНАЯ МЕМБРАНА (РЕЙСНЕРА МЕМБРАНА) -- *вестыбулярная мембрана (Рэйснера мембрана):* рэцэптарны апарат, які дастаўляе інфармацыю аб палажэнні цела і яго руху ў прасторы.

ВИВИСЕКЦИЯ (ЖИВОСЕЧЕНИЕ) -- *вівісекцыя (жывасячэнне):* метад вывучэння фізіялагічных функцыяў пры анатамаванні жывёліны пад наркозам.

ВИЛИКИНИН -- *вілікінін:* біялагічна актыўнае рэчыва, якое выдзяляецца 12-палай кішкай. Стымулюе рухі варсінак.

ВИСЦЕРАЛЬНЫЙ -- *вісцэральны (нутравы):* адносіцца да нутраных органаў.

ВИТАМИНЫ -- *вітаміны:* складаныя арганічныя рэчывы, якія выконваюць функцыю каферментаў. Падзяляюцца на водараставральныя і тлушчараставральныя.

ВИТАМИНЫ ВОДОРАСТВОРИМЫЕ -- *вітаміны водараставральныя:* $B_6$ (пірыдаксін), $B_{12}$ (цыянакабаламін), $B_c$ (фоліевая кісля), С (ас-

карбінавая кісля), H (біятын), P (біяфлаваноіды), PP (нікацінавая кісля), N (ліпоевая кісля).

ВИТАМИНЫ ЖИРОРАСТВОРИМЫЕ -- *вітаміны тлушчараствараныя:* А (рэцінол), Д (кальцыферол), Е (токаферолы), К (філахінолы).

ВКУСА ТЕОРИЯ -- *смаку тэорыя:* смакавая чуллівасць ўзнікае ў выніку адсорбцыі рэцэптарамі хімічных рэчываў. Рэцэпцыйныя клеткі могуць мець некалькі спецыфічных у адносінах да розных смакавых уласцівасцей рэцэпцыйных участкаў.

ВКУСОВАЯ ЛУКОВИЦА (ВКУСОВАЯ ПОЧКА) -- *смакавая цыбулька (смакавая пупышка):* перыферычны аддзел смакавага аналізатара. Размешчана ў смочках языка, міндалінах, задняй частцы коўтніцы, мяккім паднябенні.

ВКУСОВАЯ ПОРА -- *смакавая сітавіна (смакавая кіпра):* адтуліна на паверхні смочкі языка, якая спалучае смакавую цыбульку з ротавай паражнінай.

ВКУСОВЫЕ РЕЦЕПТОРЫ -- *смакавыя рэцэптары:* адчувальныя клеткі, размешчаныя ў смочках языка і ў слізніцы ротавай паражніны. Яны ўспрымаюць хімічныя (смакавыя) ўласцівасці ежы.

ВНУТРЕННЯЯ СРЕДА ОРГАНИЗМА -- *нутраное асяроддзе арганізма:* комплекс вадкасцей (кроў, лімфа, тканкавая вадкасць). Яны падтрымліваюць гамеастаз арганізма.

ВОДА -- *вада:* уваходзіць у жывыя арганізмы ў якасці растваральніка. У мускулах яе ўтрымліваецца 75%, у касцях - 25-40%, у крыві - 80%, у печані - 75%, у галаўным мазгу - 75-80%. Сутачная патрэба складае 2,0-2,5 л. У арганізме 200-300 мл. вады ўтвараецца эндагенным спосабам.

ВОЗБУДИМОСТЬ -- *узрушлівасць:* здольнасць узбудлівых утварэнняў успрымаць і адказваць на стымулы спецыфічнай рэакцыяй - узрушаннем.

ВОЗБУДИМЫЕ ТКАНИ -- *узрушлівыя тканкі:* тканкі, здольныя ў адказ на дзеянне пацьвяляльніка пераходзіць з стану фізіялагічнага спакою ў стан узрушання.

ВОЗБУЖДАЮЩИЙ ПОСТСИНАПТИЧЕСКИЙ ПОТЕНЦИАЛ (ВПСП) -- *узрушвальны постсінаптычны патэнцыял (УПСП):* патэнцыял, які ўзнікае ў выніку лакальнай дэпалярызацыі постсінаптычнай мембраны пры ўздзеянні на яе ўзрушвальнага медыятара.

ВОЗБУЖДЕНИЕ -- *узрушанне:* актыўны фізіялагічны працэс, які праяўляецца ў змяненні функцыянальнага стану ўзрушлівых тканкаў (скарачэнні мускулаў, выдзяленні сакрэту залозай, праводу ўзру-

шання па нерву). Узрушанне бывае зваротнае, лакальнае, постсінаптычнае.

ВОЗБУЖДЕНИЯ СУММАЦИЯ -- *узрушання сумацыя:* узмацненне рэакцыі ўзрушлівага ўтварэння ў адказ, абумоўленае спалучэннем некалькіх пацьвяляльнікаў.

ВОЗДУХ АТМОСФЕРНЫЙ -- *паветра атмасфернае:* сумесь газаў, якія паступаюць у лёгкія пры ўдыху. П.а. змяшчае 20,95% кіслароду, 0,03% вуглекіслага газу, 0,93% аргону, 78,08 % азоту і інш.

ВОЗДУХ ВЫДЫХАЕМЫЙ -- *паветра выдыханае:* сумесь газаў, якая накапліваецца ў лёгкіх у выніку газаабмену паміж альвеалярным паветрам і крывёю. Пры ўмовах асноўнага абмену п.в. змяшчае 16% кіслароду, 4-5% вуглекіслага газу.

ВОЛОКНА АДРЕНЕРГИЧЕСКИЕ -- *валокны адрэнэргічныя:* нервовыя валокны, у заканчэннях якіх утвараецца медыятар норадрэналін. Да в.а. адносяцца ўсе пастгангліярныя сімпатычныя валокны, акрамя тых, якія падыходзяць да потавых залоз і судзінаў шкілетных мускулаў.

ВОЛОКНА ХОЛИНЕРГИЧЕСКИЕ -- *валокны халінергічныя:* нервовыя валокны, на канцах якіх выпрацоўваецца медыятар ацэтылхалін. Да іх адносяцца ўсе парасімпатычныя нервы і частка сімпатычных валокнаў, што інервуюць потавыя залозы і пашыраюць судзіны.

ВОСПРИЯТИЕ -- *успрыманне:* актыўны працэс пачуццёва-вобразнага адлюстравання прадметаў і з'яў аб'ектыўнай рэчаіснасці ў адзінстве іх уласцівасцяў.

ВРЕДНОЕ ПРОСТРАНСТВО (МЁРТВОЕ ПРОСТРАНСТВО) -- *шкодная прастора (мёртвая прастора):* тыя ўчасткі дыхальнай сістэмы, якія не бяруць удзелу ў газаабмене.

ВРЕМЕННАЯ СВЯЗЬ -- *часовая сувязь:* сувязь паміж структурамі нервовай сістэмы, якая ўзнікае пры зблiжэнні ў часе дзеяння двух пацьвяляльнікаў "адрасаваных" да гэтых структураў.

ВСАСЫВАНИЕ -- *усмоктванне:* актыўны фізіялагічны працэс пераходу розных рэчываў праз клетачную мембрану ў клеткі, а з клетак - у нутраное асяроддзе арганізма.

ВСЁ ИЛИ НИЧЕГО -- *"усё або нічога":* правіла, якое характарызуе ўласцівасць узрушлівых утварэнняў даваць максімальны адказ на дзеянне пацьвяляльнікаў, якія маюць гранічную і вышэй за гранічную сілу (усё). На дзеянне пацьвяляльнікаў сілай, ніжэйшай за гранічную, узрушлівае ўтварэнне не адказвае (нічога).

ВТОРАЯ СИГНАЛЬНАЯ СИСТЕМА -- *другая сігнальная сістэма:* су-

купнасць моўных сігналаў, якія збагульняюць сігналы першай сігнальнай сістэмы. На базе д.с.с. узнікла свядомасць чалавека.

ВЫДЕЛЕНИЕ (ЭКСКРЕЦИЯ) -- *выдзяленне (экскрэцыя):* выдзяленне ў вонкавае асяроддзе прадуктаў канчатковага абмену соляў, вады. Функцыю в. у чалавека выконваюць ныркі, лёгкія, залозы страўніка-кішачнага тракту, скуры, потавыя і тлушчавыя залозы.

ВЫДОХ (ЭКСПИРАЦИЯ) -- *выдых (экспірацыя):* вывядзенне паветра з лёгкіх пры разнявольванні інспірацыйных мускулаў і змяншэнні памераў грудной клеткі.

ВЫСШАЯ НЕРВНАЯ ДЕЯТЕЛЬНОСТЬ -- *вышэйшая нервовая дзейнасць:* спалучэнне ўзаемаабумоўленых нервовых працэсаў, якія адбываюцца ў вышэйшых аддзелах ЦНС. Яны забяспечваюць працяканне паводзін чалавека і жывёліны ў адпаведнасці з умовамі вонкавага асяроддзя. Тэрмін уведзены І.П.Паўлавым.

ГАЗООБМЕН (ОБМЕН ГАЗОВЫЙ) -- *газаабмен (абмен газавы):* сукупнасць працэсаў абмену газаў паміж арганізмам і вонкавым асяроддзем, а таксама ў тканках. У чалавека і жывёлін ён складаецца са спажывання кіслароду і выдзялення вуглекіслага газу.

ГАЗЫ КРОВИ -- *газы крыві:* газападобныя рэчывы (азот, кісларод, вуглекіслы газ), якія змяшчаюцца ў плазме і формавых элементах крыві.

ГАММА-АМИНОМАСЛЯНАЯ КИСЛОТА -- *гама-амінамасляная кіслая:* прыродны метабаліт тканкі мозгу. З'яўляецца тармазным медыятарам у ЦНС. Г.-а. к. не праходзіць праз гематаэнцэфалічны бар'ер.

ГАММА-МОТОНЕЙРОНЫ -- *гама-матанейроны:* нейроны пярэдніх рагоў спінных мазгоў, якія інервуюць інтрафузальныя мускульныя валокны. Г.-м. ажыццяўляюць кантроль за чулліваспю мускульных пачынкаў.

ГАММА-ПЕТЛЯ -- *гама-пятля:* пятля зваротнай сувязі ад мускула да гама-матанейронаў.

ГАММА-РИТМ -- *гама-рытм:* рытмічныя калыханні патэнцыялаў галаўных мазгоў з частатой 3--35 Гц і амплітудай да 15 мкВ.

ГАНГЛИЙ -- *гангаль:* скапленне целаў нейронаў па ходу нерваў. У г. змяшчаюцца нервовыя валокны, нервовыя заканчэнні і крывяносныя судзіны. Існуюць гангалі вегетацыйныя, парасімпацыйныя, сімпацыйныя, спінальныя (паміжхрыбеткавыя).

ГЕЙДЕНГАЙНА ИЗОЛИРОВАННЫЙ ЖЕЛУДОЧЕК МАЛЫЙ -- *Гейдэнгайна ізаляваны страўнічак малы:* штучны дэнерваваны (бязвагусны) страўнічак, утвораны з фундальнай часткі страўніка.

ГЕЛИКОТРЕМА -- *гелікатрэма:* адтуліна ў вяршыні скрутка, якая спалучае бубенныя сходы з сходамі прысення.

ГЕЛЬМГОЛЬЦА ТЕОРИЯ АККОМОДАЦИИ -- *Гельмгольца тэорыя акамадацыі:* тэорыя фізіялагічнага механізма акамадацыі вока, паводле якой пры скарачэнні вейкавага мускула адбываецца разнявольванне цыннавай звязкі і павелічэнне крывізны крышталіка.

ГЕЛЬМГОЛЬЦА ТЕОРИЯ СЛУХА -- *Гельмгольца тэорыя слыху:* тэорыя, паводле якой аналіз гукаў па вышыні тлумачыцца тым, што валокны асноўнай мембраны нацягнуты падобна струнам музыкальнага інструмента і рэзануюць на частотах, што адпавядаюць іх уласнай частаце калыханняў.

ГЕМ -- *гем:* небялковая частка малекулы гемаглабіну - протапарфірын; ён комплексна звязаны з іонамі двухвалентнага жалеза.

ГЕМАТОЭНЦЕФАЛИЧЕСКИЙ БАРЬЕР -- *гематаэнцэфалічны бар'ер (застаўня):* комплекс высокаспецыялізаваных мембран (эндатэлій мазгавых капіляраў, глія), якія маюць выбіральную пранікальнасць. Выконвае абарончую і гомеастатычную функцыі.

ГЕМОГЛОБИН -- *гемаглабін:* дыхальны пігмент, які знаходзіцца ў эрытрацытах. Ён ажыццяўляе транспарт кіслароду з лёгкіх у тканкі і бярэ ўдзел у пераносе вуглекіслага газу з тканак у лёгкія. Складаецца з бялку глабіна і небялковай часткі гема.

ГЕМОЛИЗ -- *гемоліз (крыверазбурэнне):* разбурэнне абалонкі эрытрацытаў і выхад гемаглабіну ў плазму.

ГЕМОПОЭТИНЫ -- *гемапаэтыны:* рэчывы, якія стымулююць працэсы кроваўтварэння. Вылзяляюць эрытра-, лейка- і тромбапаэтыны.

ГЕНЕРАТОРНЫЙ ПОТЕНЦИАЛ -- *генератарны патэнцыял:* змяненне напружання ў рэцэптарнага патэнцыялу да рэцэптарных і праксімальных аддзелаў рэцэптара; ён параджае нервовыя імпульсы. Г.п. падпарадкоўваецца закону "ўсё або нічога".

ГЕПАРИН -- *гепарын:* натуральны процізгусальны фактар крыві. Затрымлівае пераўтварэнне пратрамбіну ў трамбін, фібрынагену ў фібрын, інактывуе трамбін.

ГЕРИНГА НЕРВ (СИНОКАРОТИДНЫЙ НЕРВ) -- *Герынга нерв (сінакаратыдны нерв):* аферэнтная галіна языкаглытнічнага нерва, якая праводзіць імпульсы ад барарэцэптараў і хемарэцэптараў каратыднай зоны ў падоўжаны мозг.

ГЕРИНГА РЕФЛЕКС -- *Герынга рэфлекс:* запавольванне пульсу пры затрымцы дыхання на стадыі глыбокага ўдыху. Запавольванне пульсу на 6 удараў у палажэнні седзячы сведчыць аб павышанай узрушлівас-

ці блукальнага нерва.

ГЕРИНГА ТЕОРИЯ ЦВЕТОВОГО ЗРЕНИЯ -- *Герынга тэорыя каляровага зроку:* тэорыя каляровай чуллівасці, якая тлумачыць успрыманне колеру знаходжаннем ў сеткавіцы трох субстанцыяў, кожная з якіх успрымае па два колеры: чырвоны і зялёны, жоўты і сіні, белы і чорны.

ГИДРОКОРТИЗОН (КОРТИЗОЛ) -- *гідракартызон (картызол):* гармон кары наднырkaвіцы. Стымулюе сінтэз клетачных ферментаў, бялкоў, павялічвае колькасць глікагену ў печані і глюкагону ў крыві.

ГИПЕРВИТАМИНОЗ -- *гіпервітаміноз:* стан арганізма, які ўзнікае ў выніку яго інтаксікацыі пры лішку паступлення вітамінаў.

ГИПЕРПОЛЯРИЗАЦИЯ -- *гіперпалярызацыя:* павелічэнне мембраннай рознасці патэнцыялаў. Узнікае пры павышэнні пранікальнасці мембраны да $K^+$ і $Cl^-$.

ГИПЕРТОНИЯ -- *гіпертанія:* павялічаны тонус сценак крывяносных судзінаў, шкілетных мускулаў і іншых тканак. Гэта праяўляецца іх павышаным супраціўленнем расцягванню.

ГИПНОЗ -- *гіпноз:* стан чалавека, выкліканы штучна, з дапамогай унушэння. Ён характарызуецца павышанай успрымальнасцю да псіхалагічнага ўздзеяння гіпнатызёра і паніжанай чуллівасцю да ўсіх іншых уплываў.

ГИПОВЕНТИЛЯЦИЯ -- *гіпавентыляцыя:* зніжэнне вентыляцыі лёгкіх.

ГИПОВИТАМИНОЗ -- *гіпавітаміноз:* парушэнні, якія вынікаюць з нястачы вітамінаў у арганізме.

ГИПОГЛИКЕМИЯ -- *гіпаглікемія:* зніжэнне ўзроўню глюкозы ў крыві.

ГИПОКАПНИЯ -- *гіпакапнія:* зніжэнне парцыяльнага ціску вуглякіслага газу ў крыві.

ГИПОКИНЕЗИЯ -- *гіпакінезія:* зніжэнне колькасці і аб'ёму руху.

ГИПОКСИЯ -- *гіпаксія:* зніжэнне ўзроўню кіслароду ў тканках.

ГИПОКСЕМИЯ -- *гіпаксемія:* зніжэнне ўзроўню кіслароду ў крыві.

ГИПОТАЛАМУС (ПОДБУГОРНАЯ ОБЛАСТЬ) -- *гіпаталамус (падгрудавая вобласць):* вышэйшы падкоркавы эмацыянальна-вегетацыйны цэнтр.

ГИПОТЕНЗИЯ -- *гіпатэнзія:* зніжэнне ціску ў судзінах і паражнінах.

ГИПОТЕРМИЯ -- *гіпатэрмія:* зніжэнне тэмпературы цела.

ГИПОТОНИЯ -- *гіпатанія:* зніжэнне тонусу судзінаў, мускулаў і г.д.

ГИПОФИЗ (МОЗГОВОЙ ПРИДАТОК) -- *гіпофіз (мазгавы прыдатак):* эндакрынная залоза, размешчаная ў "турэцкім сядле" чэрапа; выпрацоўвае гармоны, якія рэгулююць працу іншых эндакрынных залоз.

ГИППОКАМП -- *гіпакамп:* частка кары галаўных мазгоў, якая ўваходзіць у склад лімбічнай сістэмы.

ГИСА ПУЧОК (ПРЕДСЕРДНО-ЖЕЛУДОЧКОВЫЙ ПУЧОК) -- *Гіса жмутак (прысенна-шлуначкавы жмутак):* частка сістэмы, якая праводзіць імпульсы ў сардэчным мускуле.

ГИСТАМИН -- *гістамін:* нейрамедыятар.

ГЛАЗ -- *вока:* перыферычны аддзел зрокавага аналізатара.

ГЛАЗ ДВИЖЕНИЯ ДИВЕРГЕНТНЫЕ -- *вачэй рухі дывергентныя:* сіметрычныя рухі вачэй з развядзеннем зрокавых восей.

ГЛАЗ ДВИЖЕНИЯ КОНВЕРГЕНТНЫЕ -- *вачэй рухі канвергентныя:* сіметрычныя рухі вачэй са звядзеннем зрокавых восей.

ГЛАЗ ЭММЕТРОПИЧЕСКИЙ -- *вока эметрапічнае:* вока без якіх-небудзь парушэнняў рэфракцыі, у якім адлюстраванне прадмета факусіруецца на сеткавіцы.

ГЛАЗА АБЕРРАЦИЯ -- *вока аберацыя:* скажэнне адлюстравання на сеткавіцы з прычыны недасканаласці аптычнай сістэмы вока.

ГЛАЗА СРЕДНЯЯ ОБОЛОЧКА -- *вока сярэдняя абалонка:* судзінная абалонка вока, у якой выдзяляюць вясёлку, вейкавае цела і ўласна судзінную абалонку.

ГЛИКОГЕН -- *глікаген:* рэзервовы складаны вуглявод.

ГЛИЦИН -- *гліцын:* замяняльная амінакісля.

ГЛИЯ (НЕЙРОГЛИЯ) -- *глія (нейраглія):* дапаможныя элементы нервовай тканкі.

ГЛОБИН -- *глабін:* бялковая частка малекулы гемаглабіну.

ГЛОБУЛИН -- *глабулін:* бялок плазмы крыві.

ГЛЮКАГОН -- *глюкагон:* гармон падстраўніцы, які ўзнімае ўзровень цукру ў крыві.

ГОВЕРСА ПУЧОК -- *Говерса жмутак:* пярэдні спіннамозачкавы шлях.

ГОЛЛЯ ПУЧОК -- *Голя жмутак:* адзін з шляхоў прапрыяцэптыўнай чуллівасці.

ГОЛЬДЖИ АППАРАТ -- *Гольджы апарат:* арганоід клеткі.

ГОЛЬЦА РЕФЛЕКС -- *Гольца рэфлекс:* запавольванне або спыненне сэрца ў выніку падзвялення інтэрарэцэптараў чэраўнай паражні-

ны.

ГОМЕОСТАЗ -- *гомеастаз:* адносная пастаянства нутранога асяроддзя арганізма.

ГОРМОН (-Ы) -- *гармон (-ы):* біялагічна актыўнае рэчыва, якое выпрацоўваюць адмысловыя эндакрынныя тканкі арганізма.

ГОРМОН АНТИДИУРЕТИЧЕСКИЙ (ВАЗОПРЕССИН) -- *гармон антыдыурэтычны (вазапрэсін):* гармон, які выпрацоўвае гіпаталамус.

ГОРМОН ГЛЮКОКОРТИКОИДНЫЙ -- *гармон глюкакартыкоідны:* гармон, які выпрацоўвае кара (шкарупа) наднырквавіцы.

ГОРМОН ЛЮТЕИНИЗИРУЮЩИЙ -- *гармон лютэінізуючы:* ганадатропны гармон, які выпрацоўвае пярэдняя доля гіпофіза.

ГОРМОН ПАРАТИРЕОИДНЫЙ -- *гармон паратырэоідны:* гармон, які выпрацоўваюць парашчытаватыя залозы.

ГОРМОН ЖЕЛУДОЧНЫЙ ГАСТРИН -- *гармон страўнікавы гастрын:* гармон, які выпрацоўвае слізніца страўніка.

ГОРМОН СЛЮННЫХ ЖЕЛЕЗ ПАРОТИН -- *гармон слінных залоз паратын:* гармон, які выпрацоўваюць слінныя залозы.

ГОРМОН 12-ПЕРСТНОЙ КИШКИ СЕКРЕТИН -- *гармон 12-палай кішкі сакратын:* гармон, які выпрацоўвае слізніца дванаццаціпалай кішкі.

ГОРМОН 12-ПЕРСТНОЙ КИШКИ ЭНТЕРОГАСТРИН -- *гармон 12-палай кішкі энтэрагастрын:* гармон, які ўплывае на маторыку страўніка.

ГОРМОН СОМАТОТРОПНЫЙ (ГОРМОН РОСТА) -- *гармон саматапропны (гармон росту):* гармон, які выпрацоўвае пярэдняя доля гіпофіза.

ГОРМОН ТИРЕОТРОПНЫЙ -- *гармон тырэатропны:* гармон, які выпрацоўвае пярэдняя доля гіпофіза.

ГОРМОН ТИРОКСИН -- *гармон тыраксін:* гармон, які выпрацоўвае шчытавіца.

ГОРМОН ФОЛЛИКУЛОСТИМУЛИРУЮЩИЙ (ПРОЛАН А) -- *гармон фалікуластымуляцыйны (пралан А):* гармон, які выпрацоўвае пярэдняя доля гіпофіза.

ГОРМОНАЛЬНАЯ РЕГУЛЯЦИЯ -- *гарманальная рэгуляцыя:* рэгуляцыя функцыяў арганізма праз біялагічна актыўныя рэчывы.

ГОРМОНАЛЬНЫЕ РЕЦЕПТОРЫ -- *гарманальныя рэцэптары:* біяхімічныя структуры, якія знаходзяцца на мембранах клетак.

ГОРМОНЫ АДАПТИВНЫЕ -- *гармоны адаптыўныя:* біялагічна актыўныя рэчывы, якія бяруць удзел у адаптацыі арганізма да дзеяння надзвычайных пацьвяляльнікаў. Да з.г. адносяцца гармоны кары наднырквавіцы (картыкастэрон, гідракартызон), гіпофіза (адрэнакортыкатрапін, гармон росту).

ГОРМОН АДРЕНОКОРТИКОТРОПНЫЙ -- *гармон адрэнакартыкатропны:* гармон гіпофіза, які стымулюе выпрацоўку картыкастэроідаў наднырkавіцай.

ГОРМОНЫ АНДРОГЕННЫЕ -- *гармоны андрагенныя:* мужчынскія палавыя гармоны.

ГОРМОНЫ АНАБОЛИЧЕСКИЕ -- *гармоны анабалічныя:* гармоны, якія стымулююць сінтэз бялку ў арганізме.

ГОРМОНЫ ГОНАДОТРОПНЫЕ -- *гармоны ганадатропныя:* гармоны, якія выпрацоўвае пярэдняя доля гіпофіза.

ГОРМОНЫ КОРТИКОСТЕРОИДНЫЕ -- *гармоны кортыкастэроідныя:* гармоны, якія выпрацоўвае кара (шкарупа) наднырkавіцы.

ГОРМОНЫ МИНЕРАЛОКОРТИКОИДНЫЕ -- *гармоны мінералакартыкоідныя:* гармоны, якія выпрацоўвае кара (шкарупа) наднырkавіцы.

ГОРМОНЫ ПИЩЕВАРИТЕЛЬНЫЕ -- *гармоны стрававальныя:* біялагічна актыўныя рэчывы, якія выпрацоўвае стрававальная сістэма.

ГОРМОНЫ ПОЛОВЫЕ -- *гармоны плоцевыя (палавыя):* гармоны, якія выпрацоўваюць мацічнік, ядро, наднырkавіца, плацэнта.

ГОРМОНЫ СТЕРОИДНЫЕ -- *гармоны стэроідныя:* група гармонаў, якія выпрацоўвае кара (шкарупа) наднырkавіцы і плоцевыя (палавыя) залозы.

ГОРМОНЫ ТКАНЕВЫЕ -- *гармоны тканкавыя:* біялагічна актыўныя рэчывы, якія выпрацоўваюць розныя тканкі арганізма.

ГРАНУЛОЦИТ (-Ы) -- *гранулацыт (-ы):* лейкацыты, якія змяшчаюць у цытаплазме бялковыя гранулы.

ДАВЛЕНИЕ ОНКОТИЧЕСКОЕ -- *ціск анкатычны:* частка асматычнага ціску, якая ствараецца высокамалекулярнымі злучэннямі ў растворы.

ДАВЛЕНИЕ ОСМОТИЧЕСКОЕ -- *ціск асматычны:* ціск, які ствараюць рэчывы ў растворы.

ДАЛЬНОЗОРКОСТЬ (ГИПЕРМЕТРОПИЯ) -- *дальназоркасць (гіперметрапія):* парушэнне рэфракцыі вока, пры якім галоўны фокус аптычнай сістэмы знаходзіцца па-за сеткавіцай.

ДАЛЬТОНИЗМ -- *дальтанізм:* парушэнне каляровай чуллівальнасці.

ДАНЬИНИ-АШНЕРА РЕФЛЕКС (ГЛАЗОСЕРДЕЧНЫЙ РЕФЛЕКС) -- *Даньіні-Ашнера рэфлекс (вокасардэчны рэфлекс):* зніжэнне частаты сардэчных скарачэнняў і артэрыяльнага ціску пры націсканні на вочны яблык.

ДВЕНАДЦАТИПЕРСТНАЯ КИШКА -- *дванаццаціпалая кішка:* пачатковая частка тонкай кішкі.

ДВИГАТЕЛЬНАЯ ЕДИНИЦА -- *рухальная адзінка:* група мускульных

валокнаў, якія інервуе адзін мотанейрон.

ДВИЖЕНИЯ АВТОМАТИЗИРОВАННЫЕ -- *рухі аўтаматызаваныя:* рухі, якія ажыццяўляюцца без рэгулявання праз усведамленне.

ДВИЖЕНИЯ АКТИВНЫЕ -- *рухі актыўныя:* рухі, абумоўленыя працай мускулаў.

ДВИЖЕНИЯ ПЕРИСТАЛЬТИЧЕСКИЕ -- *рухі перыстальтычныя:* хвалепадобныя скарачэнні сценак страваода, страўніка, кішачніка.

ДЕКОРТИКАЦИЯ -- *дэкартыкацыя:* выдаленне коркавага пласта органа.

ДЕНДРИТ (-Ы) -- *дэндрыт (-ы):* атожылкі нервовай клеткі, якія праводзяць імпульсы да цела клеткі.

ДЕНЕРВАЦИЯ -- *дэнервацыя:* парушэнне нервацыі органаў.

ДЕПОЛЯРИЗАЦИЯ -- *дэпалярызацыя:* памяншэнне абсалютнай велічыні мембраннага патэнцыялу.

ДЕРМА -- *дэрма (уласна скура):* злучальна-тканкавая частка скуры.

ДЕЦЕРЕБРАЦИОННАЯ РИГИДНОСТЬ -- *дэцэрэбрацыйная рыгіднасць:* рэзкае павышэнне тонусу мускулаў-разгінальнікаў, звязанае з уплывам чырвонага ядра.

ДЕЦЕРЕБРАЦИЯ -- *дэцэрэбрацыя:* выдаленне пярэдняга аддзела галаўных мазгоў.

ДЕЯТЕЛЬНОСТЬ УСЛОВНО-РЕФЛЕКТОРНАЯ -- *дзейнасць умоўна-рэфлекцыйная:* дзейнасць, абумоўленая ўтварэннем умоўных рэфлексаў у вышэйшых аддзелах ЦНС.

ДИАСТОЛА -- *дыястала:* фаза сардэчнага цыклу - пашырэнне паражніны сэрца.

ДИАФРАГМА -- *дыяфрагма (грудачэраўная перапона):* мускул, які абмяжоўвае грудную паражніну знізу.

ДИОПТРИЯ -- *дыяптрыя:* адзінка вымярэння заламляльнай сілы аптычнай сістэмы.

ДИССИМИЛЯЦИЯ -- *дысіміляцыя:* сукупнасць працэсаў распаду складаных арганічных рэчываў, якія суправаджаюцца выдзяленнем энергіі і канечных прадуктаў.

ДИСТАЛЬНЫЙ -- *дыстальны:* размешчаны далей ад сярэдняй лініі цела.

ДИСТАЛЬНЫЙ ИЗВИТОЙ КАНАЛЕЦ -- *дыстальны звілісты канальчык:* канцавая частка нефрона.

ДИУРЕЗ -- *дыурэз:* працэс ўтварэння і выдзялення мачы.

ДИФФУЗИЯ -- *дыфузія:* распаўсюджанне рэчыва ў асяроддзе, абу-

моўленае рознасцю канцэнтрацыяў.

ДОЛГ КИСЛОРОДНЫЙ -- *пазыка кіслародная:* залішняе спажыванне кіслароду пасля інтэнсіўнай працы.

ДОМИНАНТА -- *дамінанта:* ачаг ўзрушання, які часова пануе, падпарадкоўваючы сабе працу іншых нервовых цэнтраў.

ДОМИНИРОВАНИЕ ПОЛУШАРИЯ ГОЛОВНОГО МОЗГА -- *дамінаванне паўсферы галаўных мазгоў:* адносная перавага функцыянальнай актыўнасці адной з паўсфераў у іх супольнай працы.

ДОНДЕРСА МОДЕЛЬ -- *Дондэрса мадэль:* мадэль, якая дэманструе механізм ўдыху і выдыху.

ДОФАМИН -- *дафамін:* медыятар сімпатычнай нервовай сістэмы.

ДУОДЕНАЛЬНЫЙ СОК -- *дуадэнальны сок:* стрававальны сок дванаццаціпалай кішкі.

ДЫХАНИЕ -- *дыханне:* фізіялагічны працэс, які забяспечвае паступленне ў арганізм кіслароду і выдзяленне вуглякіслага газу і вады.

ДЫХАНИЕ БРЮШНОЕ -- *дыханне чэраўнае:* дыханне, якое ажыццяўляецца пераважна за кошт дыяфрагмы.

ДЫХАНИЕ ВНЕШНЕЕ -- *дыханне вонкавае:* працэс газаабмену паміж вонкавым асяроддзем і арганізмам.

ДЫХАНИЕ ГРУДНОЕ -- *дыханне груднoе:* дыханне, якое ажыццяўляецца пераважна за кошт міжрабрынных мускулаў.

ДЫХАНИЕ ТКАНЕВОЕ -- *дыханне тканкавае:* працэс паглынання тканкамі кіслароду і выдзялення вуглякіслага газу.

ДЫХАТЕЛЬНЫЕ ПИГМЕНТЫ -- *дыхальныя пігменты:* афарбаваныя арганічныя злучэнні, здольныя абарачальна звязваць і пераносіць кісларод.

ДЫХАТЕЛЬНЫЕ ПУТИ -- *дыхальныя шляхі:* парожнія органы, якія праводзяць паветра да лёгачных альвеолаў.

ДЫХАТЕЛЬНЫЙ (-Е) РЕФЛЕКС (-Ы) -- *дыхальны (-я) рэфлекс (-ы):* змена характару вонкавага дыхання ў адказ на змяненне нутранога або вонкавага асяроддзя.

ДЫХАТЕЛЬНЫЙ ОБЪЁМ -- *дыхальны аб'ём:* аб'ём паветра, які ўдыхаецца за адзін дыхальны цыкл.

ДЫХАТЕЛЬНЫЙ ЦЕНТР -- *дыхальны цэнтр:* сукупнасць нервовых клетак, якія адказваюць за чаргаванне ўдыху і выдыху.

ДЮБУА-РАЙМОНА ЗАКОН -- *Дзюбуа-Раймона закон:* закон градыента пацьвялення.

ЕВСТАХИЕВА ТРУБА -- *еўстахіева труба (слыхавая труба):* ка-

нал, які злучае насавую дыхніцу з бубеннай паражнінай.

ЖЕЛЕЗА -- *залоза:* орган, які стварае фізіялагічна актыўныя рэчывы або выводзіць з арганізма прадукты дысіміляцыі.

ЖЕЛЕЗА ВИЛОЧКОВАЯ -- *вілавіца (залоза вілаватая):* лімфоідна-эндакрынны орган.

ЖЕЛЕЗА ПОДЖЕЛУДОЧНАЯ -- *падстраўніца (залоза падстраўнікавая):* залоза эндакрыннай і экзакрыннай сакрэцыі.

ЖЕЛЕЗА ЩИТОВИДНАЯ -- *шчытавіца (залоза шчытаватая):* эндакрынная залоза, якая знаходзіцца на пярэдняй паверхні гартані.

ЖЕЛЕЗЫ ПАРАЩИТОВИДНЫЕ -- *залозы парашчытаватая (каляшчытаватая, парэтырэоідныя):* эндакрынныя залозы, якія знаходзяцца на задняй паверхні шчытавіцы.

ЖЕЛУДОЧЕК ИЗОЛИРОВАННЫЙ МАЛЫЙ -- *страўнічак ізаляваны малы:* штучна аддзеленая ў эксперыменце частка страўніка.

ЖЕЛУДОЧКИ ГОЛОВНОГО МОЗГА -- *каморкі галаўных мазгоў:* паражніны галаўных мазгоў, якія запаўняе цэрэбраспінальная вадкасць.

ЖЕЛУДОЧКИ СЕРДЦА -- *шлуначкі сэрца:* аддзелы сэрца.

ЖЕЛУДОЧКОВЫЙ КОМПЛЕКС ЭЛЕКТРОКАРДИОГРАММЫ -- *шлуначкавы комплекс электракардыяграмы:* зубцы, якія адлюстроўваюць распаўсюджанне ўзрушання па міякарду шлуначкаў.

ЖЕЛУДОЧНОЙ СЕКРЕЦИИ ФАЗЫ -- *страўнікавай сакрэцыі фазы:* паслядоўныя моманты сакрэцыі страўніка ў працэсе харчавання (мазгавая, страўнікавая, кішачная).

ЖЕЛУДОЧНЫЕ ФИСТУЛЫ -- *страўнікавыя фістулы:* штучныя адтуліны ў сценцы страўніка.

ЖЕЛУДОЧНЫЙ СОК -- *страўнікавы сок:* вадкасць, якую прадукуюць залозы страўніка.

ЖЕЛЧЬ -- *жоўць:* сакрэт печані.

ЖИЗНЕННАЯ ЁМКОСТЬ ЛЁГКИХ -- *жыццёвая ёмістасць лёгкіх:* максімальны аб'ём паветра, выдыхнуты пасля максімальнага ўдыху.

ЖЁЛТОЕ ПЯТНО -- *жоўтая пляма:* вобласць сеткавіцы з максімальнай канцэнтрацыяй фотарэцэптараў.

ЖЁЛТОЕ ТЕЛО -- *жоўтае цела:* эндакрынная залоза, якая ўтвараецца ў мацічніку з клетак фалікула пасля авуляцыі.

ЗАКОН ДВУСТОРОННЕГО ПРОВЕДЕНИЯ ВОЗБУЖДЕНИЯ -- *закон двухбаковага праводу ўзрушання:* нервовае валакно здольнае праводзіць ўзрушанне як у дацэнтравым, так і ў адцэнтравым напрамках.

ЗАКОН ИЗОЛИРОВАННОГО ПРОВЕДЕНИЯ ВОЗБУЖДЕНИЯ -- *закон ізаляванага праводу ўзрушання:* ўзрушанне праводзіцца толькі па адным

нервовым валакну, не пераходзячы на іншыя.

ЗАКОН ПОВЕРХНОСТИ ТЕЛА -- *закон паверхні цела:* затраты энергii ў цеплакроўных жывёл прапарцыянальныя плошчы паверхні іх цела.

ЗВУКА ТЕОРИЯ ВОСПРИЯТИЯ -- *гука тэорыя ўспрымання:* гукавыя хвалі ўздзейнічаюць на сістэму слыхавых костачак, што выклікае калыханні перылімфы, эндалімфы, а затым дэфармацыю валаскоў рэцэпцыйных клетак і далейшае ўзрушанне слыхавога нерва.

ЗОБ ЭНДЕМИЧЕСКИЙ -- *валляк эндэмічны:* паталагічнае павелічэнне шчытавіцы пры недахопе ёду ў вадзе і ежы.

ЗОНА РЕФЛЕКСОГЕННАЯ (РЕЦЕПТИВНОЕ ПОЛЕ) -- *зона рэфлексагенная (рэцэптыўнае поле):* зона, вобласць, раздражненне рэцэптараў якой выклікае вызначаны рэфлекс.

ЗОНА РЕЦЕПТОРНАЯ АОРТАЛЬНАЯ -- *зона рэцэпцыйная аартальная:* вялікая колькасць барарэцэптараў ў дузе аорты.

ЗОНА РЕЦЕПТОРНАЯ СИНОКАРОТИДНАЯ -- *зона рэцэпцыйная сінакаратыдная:* вялікая колькасць рэцэптараў ў месцы дзялення агульнай соннай артэрыі.

ЗРАЧОК -- *зрэнка:* адтуліна ў ірысавай (вясёлкавай) абалонцы вока.

ЗРИТЕЛЬНЫЙ ПЕРЕКРЕСТ (ХИАЗМА) -- *зрокавае скрыжаванне (хіязма):* месца скрыжавання зрокавых нерваў.

ЗУБЦЫ ЭЛЕКТРОКАРДИОГРАММЫ -- *зубцы электракардыяграмы:* зубцы крывой, якія адлюстроўваюць электрафізіялагічны працэс, што адбываецца ў міякардзе.

ИЗВИЛИНА БОЛЬШОГО МОЗГА -- *звіліна вялікіх мазгоў:* узвышэнні на паверхні паўсфераў вялікіх мазгоў, абмежаваныя разорамі.

ИЗОТОНИЧЕСКИЙ РАСТВОР -- *ізатанічны раствор:* раствор, асматычны ціск якога роўны асматычнаму ціску плазмы крыві.

ИММУНИТЕТ -- *імунітэт:* здольнасць арганізма абараніцца ад чужародных цел і рэчываў.

ИММУНИТЕТ АКТИВНЫЙ -- *імунітэт актыўны:* імунітэт, які ўзнікае ў адказ на ўвядзенне саслабелых ці забітых мікробаў.

ИММУНИТЕТ ГУМОРАЛЬНЫЙ -- *імунітэт гумаральны:* імунітэт, які звязаны з біялагічна актыўнымі рэчывамі ў нутраным асяроддзі арганізма.

ИММУНИТЕТ ЕСТЕСТВЕННЫЙ -- *імунітэт натуральны (прыроджаны, спадчынны):* імунітэт, які перадаецца ў спадчыну.

ИММУНИТЕТ КЛЕТОЧНЫЙ -- *імунітэт клетачны:* імунітэт, які за-

бяспечваюць клеткі крыві.

ИММУНИТЕТ ПРИОБРЕТЕННЫЙ -- *імунітэт набыты:* імунітэт, які ўзнікае ў адказ на інфекцыйнае захворванне або імунізацыю.

ИНДУКЦИЯ -- *індукцыя:* у вышэйшай нервовай дзейнасці пазначае ўзнікненне нерВовага працэсу, які супрацьпастаўлены па знаку нерВоваму працэсу, выклікаНаму ўмоўным пацьвялялЬнікам.

ИНДУКЦИЯ ВЗАИМНАЯ -- *індукцыя ўзаемная:* паслядоўная змена працэсаў узрушання і тармажэння ў сумежных нервовых цэнтрах.

ИНДУКЦИЯ ОТРИЦАТЕЛЬНАЯ -- *індукцыя адмоўная:* зніжэнне ўзрушлівасці нервовых цэнтраў, сумежных з ачагом ўзрушання.

ИНДУКЦИЯ ПОЛОЖИТЕЛЬНАЯ -- *індукцыя дадатная:* павышэнне ўзрушлівасці нервовых цэнтраў, сумежных з ачагом ўзрушання.

ИНСУЛИН -- *інсулін:* гармон, які выпрацоўваюць бэта-клеткі астраўкоў Лангерганса падстраўніцы.

ИНТЕРОЦЕПТОР (-Ы) (РЕЦЕПТОР ВНУТРЕННИЙ) -- *інтэрацэптар (-ы), рэцэптар нутраны:* група рэцэптараў, размешчаных у нутраных органах, тканках, судзінах.

ИОННЫЕ КАНАЛЫ -- *іонныя каналы:* сістэма мембран клеткі, якія забяспечваюць выбіральнае праходжанне іонаў праз мембрану.

ИОННЫЕ НАСОСЫ -- *іонныя помпы:* структуры мембран клеткі, якія забяспечваюць перанос іонаў у бок больш высокага электрахімічнага патэнцыялу.

ИРРАДИАЦИЯ ВОЗБУЖДЕНИЯ -- *ірадыяцыя ўзрушання:* распаўсюджанне працэсу ўзрушання з аднаго ўчастка ЦНС на іншыя.

КАЛОРИМЕТРИЯ -- *каларыметрыя:* метад даследавання энергетычнага абмену ў арганізме.

КАЛЬЦИТОНИН (тиреокальцитанин)-- *кальцытанін (тырэакальцытанін):* гармон шчытавіцы, антаганіст паратгармона.

КАПИЛЛЯРЫ -- *капіляры:* мікрасудзіны, праз сценкі якіх адбываецца абмен рэчываў.

КАРБОКСИГЕМОГЛОБИН -- *карбоксігемаглабін:* злучэнне гемаглабіну з вокісам вугляроду.

КАРДИОГРАФИЯ -- *кардыяграфія:* метады ацэнкі сардэчнай дзейнасці.

КАТАБОЛИЗМ -- *катабалізм:* сукупнасць працэсаў, якія суправаджаюць распад рэчываў і вызваленне энергіі.

КАТЕХОЛАМИНЫ -- *катэхаламіны:* гармоны наднырказіцы, медыятары сімпатычнай і цэнтральнай нервовай сістэмы.

КИСЛОТНО-ОСНОВНОЕ РАВНОВЕСИЕ -- *кіслінна-асноўная раўнавага,*

*кіслінна-асноўны стан, кіслінна-шчолачны баланс:* адносная нязменнасць вадароднага паказчыка (pH) нутранага асяроддзя арганізма.

КЛАПАН -- *клапан:* частка парожняга органа - складка, якая ўтвараецца з яго нутраной абалонкі.

КЛЕТКИ СТВОЛОВЫЕ -- *клеткі ствалавыя:* родапачынальныя клеткі тканак, з якіх развіваюцца спецыялізаваныя клеткі.

КЛУБОЧЕК ПОЧЕЧНОГО ТЕЛЬЦА -- *клубочак ныркавага цельца, (мальпігіеў ныркавы клубочак):* сплячэнне капіляраў у шкарупным пласту ныркі.

КОЛБОЧКИ СЕТЧАТКИ -- *глячкі сеткавіцы:* перыферычныя фотарэцэпцыйныя клеткі сеткавіцы.

КОЛЕНЧАТЫЕ ТЕЛА -- *каленчастыя целы:* ядры таламуса.

КОНВЕРГЕНЦИЯ -- *канвергенцыя:* сыходжанне на адным нейроне імпульсаў рознай мадальнасці.

КОНСОЛИДАЦИЯ -- *кансалідацыя:* працэс пераходу інфармацыі з кароткачасовай памяці ў доўгачасовую.

КОРА БОЛЬШОГО МОЗГА -- *кара (шкарупа) вялікіх мазгоў, кара (шкарупа) вялікіх паўсфераў, кара (шкарупа) галаўных мазгоў, мантыя, плашч:* вышэйшы аддзел ЦНС.

КОРА ДВИГАТЕЛЬНАЯ -- *кара (шкарупа) рухальная (маторная зона кары (шкарупы):* вобласць кары вялікіх паўсфераў, якая адказвае за рухальную актыўнасць.

КОРОТКОВА СПОСОБ ИЗМЕРЕНИЯ АРТЕРИАЛЬНОГО КРОВЯНОГО ДАВЛЕНИЯ -- *Караткова спосаб вымярэння артэрыяльнага крывяного ціску:* бяскроўны спосаб вымярэння артэрыяльнага крывяного ціску.

КОРТИЕВ ОРГАН (СПИРАЛЬНЫЙ ОРГАН) -- *кортыеў орган (спіральны орган):* рэцэпцыйны апарат, які ўспрымае гук.

КОРТИКОЛИЗАЦИЯ ФУНКЦИЙ -- *картыкалізацыя функцыяў:* узрастанне ролі кары (шкарупы) вялікіх паўсфераў у працэсе філагенезу.

КОРЫ СТОРОЖЕВОЙ ПУНКТ -- *кары (шкарупы) вартавы пункт:* група клетак кары галаўных мазгоў, якія знаходзяцца ў стане ўстойлівага ўзрушання, характэрнага для пераходнага стану паміж бадзёрасцю і сном.

КРАУЗЕ КОЛБЫ -- *Краўзэ глякі:* інкапсуляваныя рэцэптары скуры.

КРИПТЫ КИШЕЧНЫЕ (ЛИБЕРКЮНОВЫЕ ЖЕЛЕЗЫ, КИШЕЧНЫЕ ЖЕЛЕЗЫ) -- *крыпты кішачныя, ліберкюнавыя залозы, кішачныя залозы:* заглыбленні ў слізніцы тонкай кішкі.

КРИТИЧЕСКИЙ УРОВЕНЬ ДЕПОЛЯРИЗАЦИИ МЕМБРАНЫ -- *крытычны ўзро-*

*вень дэпалярызацыі мембраны:* велічыня мембраннага патэнцыялу (МП), пры якой узнікае патэнцыял дзеяння (ПД).

КРОВИ ВРЕМЯ КРУГООБОРОТА -- *крыві час кругазвароту:* час руху крыві па вялікаму і малому колах кровазвароту. У чалавека к.ч.к. раўняецца 17-25 сек.

КРОВИ ВРЕМЯ СВЕРТЫВАНИЯ -- *крыві час згусання:* паказчык актыўнасці згусальнай сістэмы крыві ў часе.

КРОВИ ГРУППЫ (АВО) -- *крыві групы (АВО):* сукупнасць адзнак, якія характарызуюць антыгенную структуру эрытрацытаў.

КРОВИ ЛИНЕЙНАЯ СКОРОСТЬ ДВИЖЕНИЯ -- *крыві лінейная хуткасць руху:* паказчык, які характарызуе хуткасць руху элементаў крыві у ламінарным патоку.

КРОВИ СИСТОЛИЧЕСКИЙ ОБЪЕМ (УДАРНЫЙ ОБЪЕМ КРОВИ) -- *крыві сісталічны аб'ём (ударны аб'ём крыві):* колькасць крыві, якая выкідваецца ў аорту пры кожным скарачэнні сэрца.

КРОВИ ЦВЕТНОЙ ПОКАЗАТЕЛЬ -- *крыві каляровы паказчык:* індэкс, які адлюстроўвае адносіны ўзроўню гемаглабіну да колькасці эрытрацытаў у 1 мкл крыві.

КРОВИ ЩЕЛОЧНЫЙ РЕЗЕРВ -- *крыві шчолачны рэзерв:* колькасць двувокісі вугляроду (у мл), якая можа быць звязана 100 мл плазмы крыві, папярэдне прыведзенай у раўнавагу з газавым асяроддзем, у якім парцыяльны ціск двувокісі вугляроду складае 40 мм ртутнага слупа.

КРОВООБРАЩЕНИЕ -- *кровазварот:* бесперапынны рух крыві па замкнёнай сістэме крывяносных судзінаў і сэрца.

КРОВООБРАЩЕНИЕ ВНУТРИПЕЧЕНОЧНОЕ -- *кровазварот нутрыпечанёвы:* кровазварот, пры якім печань атрымлівае кроў з варотнай вены і пячанёвай артэрыі.

КРОВООБРАЩЕНИЕ ПОЧЕЧНОЕ -- *кровазварот ныркавы:* кровазварот ў нырках, дзе існуюць дзве ровные капілярныя сеткі.

КРОВЬ -- *кроў:* тканка арганізма, якая складаецца з плазмы і формавых элементаў.

КУПУЛА -- *купула:* жэлацінаватая субстанцыя, якая пакрывае валаскі адчувальных эпітэліяльных клетак у ампулах паўкружных каналаў.

ЛАБИЛЬНОСТЬ (ФУНКЦИОНАЛЬНАЯ ПОДВИЖНОСТЬ) -- *лабільнасць, (функцыянальная рухомасць):* хуткасць працякання элементарных фізіялагічных працэсаў.

ЛАБИРИНТ -- *лабірынт:* замкнёная сістэма каналаў, якая скла-

даецца в вестыбулярнага апарату і нутранога вуха.

ЛАНДОЛЬТА ТАБЛИЦА -- *Ландольта табліца:* табліца для вызначэння вастрыні зроку.

ЛЕЙКОЦИТ (БЕЛОЕ КРОВЯНОЕ ТЕЛЬЦЕ) -- *лейкацыт, белае крывяное цельца:* формавы элемент крыві, які мае ядро.

ЛЕЙКОЦИТАРНАЯ ФОРМУЛА -- *лейкацытарная формула:* колькасныя суадносіны асобных відаў лейкацытаў у перыферычнай крыві.

ЛИБЕРИНЫ (РИЛИЗИНГ-ФАКТОРЫ) -- *ліберыны (рылізінг-фактары):* нейрагармоны, якія стымулююць выдзяленне гармонаў гіпофіза.

ЛИЗОЦИМ -- *лізацым:* бактэрыцыдны фермент, які знаходзіцца ў сліне, слязах, страўнікавым соку і інш.

ЛИМФА -- *лімфа:* вадкая тканка арганізма, якая знаходзіцца ў лімфатычных судзінах і лімфатычных вузлах.

ЛИМФОЦИТ -- *лімфацыт:* невялікі лейкацыт з вялікім акруглым ядром; лімфацыты падзяляюць на дзве асноўныя групы: Т і В лімфацыты.

ЛИПАЗА -- *ліпаза:* фермент, які каталізуе расшчапленне тлушчу.

ЛИПИДЫ -- *ліпіды:* тлушчавазтыя рэчывы разнастайнай хімічнай будовы, растваральніках, уваходзяць ў склад біялагічных мембран, ствараюць энергетычны запас, выконваюць гарманальныя функцыі, уплываюць на клетачную пранікальнасць.

ЛИПОПРОТЕИДЫ -- *ліпапратэіды:* складаныя бялкі, прастэтычная група якіх прадстаўлена ліпідамі. Змяшчаюцца ў біялагічных мембранах і бяруць удзел у транспарце рэчываў праз іх.

ЛОКАЛИЗАЦИЯ ФУНКЦИЙ В КОРЕ БОЛЬШОГО МОЗГА -- *лакалізацыя функцыяў у кары (шкарупе) вялікіх мазгоў:* прымеркаванасць пэўных функцыяў да дзейнасці адпаведных зонаў кары.

ЛОМОНОСОВА-ЮНГА-ГЕЛЬМГОЛЬЦА ТЕОРИЯ ЦВЕТООЩУЩЕНИЯ (ТЕОРИЯ ЦВЕТООЩУЩЕНИЯ ТРЁХКОМПОНЕНТНАЯ) -- *Ламаносава-Юнга-Гельмгольца тэорыя колераадчування (тэорыя колераадчування трохкампанентная):* тэорыя колераадчування, якая прадугледжвае існаванне ў сеткавіцы вока трох тыпаў глячкоў: для ўспрымання зялёнага, чырвонага і фіялетавага колераў.

МАЛЫЙ КРУГ КРОВООБРАЩЕНИЯ -- *малы круг кровазвароту:* аддзел крывяноснага рэчышча, які пачынаецца ад правага шлуначка сэрца і заканчваецца судзінамі, што ўпадаюць у левае прысенне.

МЕДИАТОР (НЕЙРОМЕДИАТОР, НЕЙРОТРАНСМИТТЕР) -- *медыятар (нейрамедыятар, нейратрасмітэр):* біялагічна актыўныя рэчывы, якія

выдзяляюцца нервовым канчаткам і з'яўляюцца пасрэднікамі ў працэсе сінаптычнай перадачы.

МЕДИАТОРЫ ВОЗБУЖДАЮЩИЕ -- *медыятары ўзрушальныя:* медыятары, якія выклікаюць дэпалярызацыю постсінаптычнай мембраны і ўзнікненне ЎПСП.

МЕДИАТОРЫ ТОРМОЗНЫЕ -- *медыятары тармазныя (гальмавыя):* медыятары, якія выклікаюць гіперпалярызацыю постсінаптычнай мембраны і ўзнікненне ТПСП.

МЕЗЕНЦЕФАЛЬНОЕ ЖИВОТНОЕ -- *мезенцэфальная жывёліна:* жывёліна, якой у эксперыменце зроблена перарэзка паміж сярэднім і прамежкавым мозгам.

МЕМБРАНА ПОСТСИНАПТИЧЕСКАЯ -- *мембрана постсінаптычная:* частка сінаптычнага кантакту, да якога падыходзіць разгалінаванне другой нервовай клеткі.

МЕМБРАНА ПРЕСИНАПТИЧЕСКАЯ -- *мембрана прэсінаптычная:* частка сінаптычнага кантакту, з якога выдзяляецца медыятар у сінаптычную шчыліну.

МЕМБРАННАЯ ТЕОРИЯ ВОЗБУЖДЕНИЯ -- *мембранная тэорыя ўзрушання:* тэорыя, якая паясняе механізм узнікнення і распаўсюджвання ўзрушання ў ЦНС.

МЕМБРАННЫЙ ПОТЕНЦИАЛ -- *мембранны патэнцыял:* розніца электрычных патэнцыялаў паміж вонкавай і нутраной паверхнямі біялагічнай мембраны.

МАРИОТТА ОПЫТ -- *Марыёта эксперымент:* эксперымент, пры дапамозе якога можна паказаць наяўнасць сляпой плямы (месца сеткавіцы, дзе няма палачак і глячкоў).

МЕТАБОЛИЧЕСКАЯ ФУНКЦИЯ ПОЧЕК -- *метабалічная функцыя нырак:* удзел нырак ў гомеастазе бялкоў, ліпідаў і вугляводаў.

МЕТГЕМОГЛОБИН -- *метгемаглабін:* вытворнае гемаглабіна, пазбаўленае здольнасці пераносіць кісларод у сувязі з тым, што жалеза гема знаходзіцца ў трохвалентнай форме.

МИГРАЦИЯ ВОДИТЕЛЯ РИТМА -- *міграцыя рытмаводцы:* перамяшчэнне месца ўзнікнення ўзрушання ў сэрцы па сістэме праводу.

МИЕЛИНОВАЯ ОБОЛОЧКА -- *міелінавая абалонка:* шматпластовая бялкова-ліпоідная абалонка аксона. Выконвае ізаляцыйную, апорную, бар'ерную, трафічную і транспартную функцыі, палягчае правод нервовага імпульсу.

МИКРОВОРСИНКИ -- *мікраварсінкі:* найтанчэйшыя ніткавыя атожылки на паверхні розных клетак (напрыклад, энтэрацытаў, якія

паскараюць працэсы стрававання і ўсмоктвання ў тонкім кішачніку).

МИКРОФОННЫЙ ЭФФЕКТ УЛИТКИ -- *мікрафонны эфект скрутка:* феномен узнікнення электрычных патэнцыялаў у скрутку нутранога вуха пры ўздзеянні гуку.

МИКРОЦИРКУЛЯЦИЯ -- *мікрацыркуляцыя:* рух крыві ў сістэме дробных крывяносных судзінаў (артэрыёл, венул, капіляраў). У працэсе мікрацыркуляцыі ажыццяўляецца асноўная функцыя кровазвароту.

МИНДАЛЕВИДНОЕ ТЕЛО -- *міндалеватае цела:* складаны комплекс ядраў галаўных мазгоў, размешчаны глыбока ў вентральнай скроневай дзелі вялікіх мазгоў. Удзельнічае ў фармаванні эмацыянальных паводзін.

МИНИАТЮРНЫЕ ПОТЕНЦИАЛЫ КОНЦЕВОЙ ПЛАСТИНКИ (МПКП) -- *мініяцюрныя патэнцыялы канцавой пласцінкі (МКПП):* патэнцыялы, якія ўзнікаюць пры спантанным расшчапленні і ўстанаўленні асобных квантаў ацэтылхаліна; амплітуда іх у 100 разоў менш за амплітуду патэнцыялаў узрушання рухальнай пласцінкі, МПКП рэгіструецца толькі ў вобласці сінапса

МИНУТНЫЙ ОБЪЁМ КРОВИ (МОК) -- *хвілінны аб'ём крыві (ХАК):* колькасць крыві, якая выкідваецца левым (правым) шлуначкам у 1 хвіліну. У спакоі ХАК роўны 4,5 - 5,5 л.

МИОГЕННАЯ ТЕОРИЯ СЕРДЕЧНОЙ АВТОМАТИИ -- *міягенная тэорыя сардэчнай аўтаматыі:* тэорыя, паводле якой аўтаматыя сэрца і яго аддзелаў звязана з аўтаматыяй атыповых мускульных элементаў.

МИОГЛОБИН -- *міяглабін:* пігмент чырвонага колеру, які знаходзіцца ў клетках папярочнапаласатых і сардэчных мускулаў. Складаецца з бялковай часткі - глабіну і небялковай групы - гема. Выконвае функцыю пераносу кіслароду.

МИОЗИН -- *міязін:* бялок скарачальных валокнаў мускулаў. Яго колькасць ў мускулах дасягае 60%.

МИОПИЯ см. БЛИЗОРУКОСТЬ.

МИОРЕЛАКСАНТЫ -- *міярэлаксанты:* рэчывы, пры дапамозе якіх ідзе ўзрушанне з нерва на мускул.

МИОФИБРИЛЛА -- *міяфібрыла:* скарачальная структура мускульных тканак, утвораная з макрамалекул скарачальных бялкоў.

МИОЦИТ -- *міяцыт:* аднаядравая мускульная клетка, якая з'яўляецца структурна-функцыянальнай адзінкай мускульнай тканкі.

МНИМОЕ КОРМЛЕНИЕ -- *уяўнае кармленне:* метад, прапапанаваны І.П. Паўлавым для даследвання рэфлекцыйнай страўнікавай сакрэцыі ва ўмовах хранічнага эксперыменту і для атрымання чыстага страў-

нікавага соку.

МОЗГ ЗАДНИЙ -- *мозаг задні:* частка галаўных мазгоў, якая ўключае падоўжаны мозаг, мост і мозачкі.

МОЗГ ПРОДОЛГОВАТЫЙ -- *мозаг падоўжаны:* частка галаўных мазгоў, размешчаная паміж вароліевым мастом і спіннымі мазгамі. У ім знаходзяцца цэнтры дыхання, кровазвароту, стрававання.

МОЗГ ПРОМЕЖУТОЧНЫЙ -- *мозаг прамежкавы:* аддзел галаўных мазгоў. Уключае таламус, гіпаталамус, эпіталамус, метаталамус.

МОЗГ СПИННОЙ -- *мазгі спінныя:* аддзел цэнтральнай нервовай сістэмы, які знаходзіцца ў спіннамазгавым канале хрыбетнага слупа. Ажыццяўляе рэфлекцыйную, праваднíковую функцыю і рэгуляванне шкілетна-мускульнай і вісцэральнай сістэмаў арганізма.

МОЗГ СРЕДНИЙ -- *мозаг сярэдні:* аддзел ЦНС, які знаходзіцца паміж заднім і прамежкавым мозгам і ўключае чатырохгрудасць, ножкі мозга, ядравыя ўтварэнні. Бярэ ўдзел у рэгуляцыі рухаў і мускульнага тонусу, праводу імпульсаў пры вестыбулярных, гукавых і светавых уздзеяннях.

МОЗГА СТВОЛ -- *мозга ствол:* частка галаўных мазгоў паміж спіннымі мазгамі і паўсферамі галаўных мазгоў. Уключае мозаг падоўжаны, мост, мозачкі і сярэдні мозаг.

МОЗЖЕЧОК -- *мозачкі:* анатамічнае ўтварэнне рамбаватага мозгу, якое ажыццяўляе каардынацыю цэнтральных механізмаў рухальных і вісцэральных функцыяў.

МОЗОЛИСТОЕ ТЕЛО -- *мазолістае цела:* участак белага рэчыва галаўных мазгоў. Змяшчае камісуральныя міэлінізаваныя валокны, якія разыходзяцца ў цемянныя, лобныя, скроневыя і патылічныя дзелі вялікіх паўсфераў. М.ц. злучае абедзве паўсферы і забяспечвае перадачу інфармацыі з адной паўсферы ў другую.

МОНОСАХАРИДЫ -- *монацукрыны:* простыя цукрыны, не здольныя да гідролізу. З'яўляюцца крыніцай энергіі і структурным кампанентам.

МОНОЦИТ -- *манацыт:* спелы лейкацыт, здольны да самостойнага амёбоіднага руху і фагацытозу.

МОТИВАЦИЯ -- *матывацыя:* фізіялагічны механізм актывавання захаваных у памяці адбіткаў знешніх аб'ектаў, здольных задавальняць наяўную ў арганізма патрэбу.

МОТОНЕЙРОН (НЕЙРОН ДВИГАТЕЛЬНЫЙ) -- *матанейрон (нейрон рухальны):* буйныя нервовыя клеткі ў пярэдніх рагах спінных мазгоў. М. падзяляюцца на L і J матанейроны.

МОТОРИКА ЖЕЛУДКА -- *маторыка страўніка:* рухі сценак страўні-

ка, у выніку якіх забяспечваецца змешванне ежы са страўнікавым сокам, яе дэпанаванне, перамяшчэнне і звакуацыя змесціва страўніка ў дванаццаціпалую кішку.

МОТОРИКА КИШЕЧНИКА -- *маторыка кішэчніка:* рухальная актыўнасць кішачніка, накіраваная на перамешванне змесціва, яго рух наперад у каудальным напрамку і эвакуацыю праз кутніцу надвор.

МОТОРНЫЕ ЗОНЫ БОЛЬШИХ ПОЛУШАРИЙ -- *маторныя зоны вялікіх паўсфераў:* участак рухальнай кары (шкарупы), нейроны якой арганізуюць рухальны акт. У м.з.в.п. прадстаўлена мускулатура ўсіх частак цела.

МОЧА -- *мача, брулі:* вадкасць, якая ўтвараецца ў нырках і выводзіцца з арганізма па мачавых шляхах.

МОЧА ВТОРИЧНАЯ -- *мача другасная, брулі другасныя:* канчатковы прадукт работы нырак. Утвараецца ў канальцах нырак у выніку зваротнага ўсмоктвання і сакрэцыі шэрага рэчываў, што прыводзіць да змянення складу і колькасці першаснай мачы.

МОЧА ДЕФИНИТИВНАЯ (КОНЕЧНАЯ) -- *мача дэфініцыйная (канчатковая), брулі канчатковыя:* мача, утвораная з першаснай мачы ў канальцавай сістэме нефрона. Адрозніваецца ад першаснай мачы адсутнасцю такіх рэчываў, як бялок, глюкоза, натрый і іншыя.

МОЧА ПЕРВИЧНАЯ -- *мача першасная, брулі першастныя:* вадкасць, утвораная ў выніку ўльтрафільтрацыі плазмы крыві ў ныркавых клубочках. Гэта безбялковая вадкасць, канцэнтрацыя электралітаў і сумарная канцэнтрацыя асматычна актыўных рэчываў у ёй такая самая, як і ў плазме крыві.

МОЧЕВЫЕ ПУТИ -- *мачавыя шляхі, брулявыя шляхі:* сістэма органаў, у якіх збіраецца і праз якія выводзіцца мача (брулі). Да м.ш. адносяцца ныркавая балейка з кубачкамі, што ўпадаюць ў яе, мачацечнікі (брулецечнікі), мачавы (брулевы) пухір і мочаспускальны (брулеспускальны) канал.

МОЧЕИСПУСКАНИЕ -- *мачаспусканне (брулеспусканне, бруленне):* перыядычнае рэфлекцыйнае вывядзенне мачы, што збіраецца ў мачавым пухіры. У сценцы мачавога пухіра знаходзяцца механарэцэптары, якія ўзрушаюцца пры яго расцяжэнні.

МОЧЕОБРАЗОВАНИЕ -- *мачаўтварэнне (брулеўтварэнне):* працэс утварэння ў нырках мачы шляхам клубочкавай фільтрацыі, канальчыкавай рэабсорбцыі і сакрэцыі.

МУЦИНЫ -- *муцыны:* складаныя бялкі, якія ўваходзяць у склад усіх слізістых залоз і якія абараняюць іх ад механічных пашкодж-

анняў.

НАДПОЧЕЧНИК -- *наднырkавіца (наднырkавая залоза):* парная эндакрынная залоза, размешчаная над верхнім полюсам ныркі. Гармоны наднырkавіцы рэгулююць абмен рэчываў і ажыццяўляюць ахоўныя рэакцыі арганізма.

НАДЁЖНОСТЬ БИОЛОГИЧЕСКИХ СИСТЕМ -- *надзейнасць біялагічных сістэм:* уласцівасць біялагічнай сістэмы выконваць вызначаныя функцыі, захоўваючы свае паказчыкі на працягу пэўнага часу. Арганізм павышае надзейнасць рознымі шляхамі: 1.узмацненнем рэгенерацыйных працэсаў; 2.дубляваннем органаў; 3.падзелам клетак на дзяжурныя і рэзервовыя; 4.выкарыстаннем ахоўнага тармажэння; 5.дасягненнем вынікаў рознымі рэакцыямі паводзін.

НАРУЖНОЕ УХО -- *вонкавае вуха:* гукаўлоўная частка перыферычнага аддзела слыхавога аналізатара. Складаецца з вушніцы, вонкавага слыхавога праходу і бубеннай балоны.

НАСТРОЙКА УСЛОВНОРЕФЛЕКТОРНАЯ -- *настройка ўмоўнарэфлекцыйная:* наяўнасць гатовасці арганізма да дзейнасці.

НЕВРОЗ -- *неўроз:* функцыянальнае парушэнне ВНД, якое характарызуецца неадэкватнасцю рэагавання на дзеянне ўмоўных сігналаў.

НЕЙРОГИПОФИЗ -- *нейрагіпофіз:* задняя доля гіпофіза, якая выдзяляе нейрагармоны - оксітацын і вазапрэсін.

НЕЙРОГЛИЯ -- *нейраглія:* сукупнасць дапаможных клетак нервовай тканкі. Выконвае апорную, трафічную, бар'ерную функцыі, бярэ ўдзел у працэсах узрушання.

НЕЙРОГУМОРАЛЬНАЯ РЕГУЛЯЦИЯ -- *нейрагумаральная рэгуляцыя:* шматэтапная сістэма кіравання, якая складаецца з нервовых механізмаў вядучых звенняў рэгуляцыі і хімічных рэчываў для перадачы інфармацыі паміж клеткамі і ўнутры клетак.

НЕЙРОН (НЕВРОЦИТ, НЕЙРОЦИТ) -- *нейрон (неўрацыт, нейрацыт):* клетка, здольная ўспрымаць пацьвяленне, узрушацца, утвараць нервовыя імпульсы і перадаваць іх да іншых клеткі. З'яўляецца структурнай і функцыянальнай адзінкай нервовай сістэмы.

НЕЙРОН АФФЕРЕНТНЫЙ -- *нейрон аферэнтны:* нейрон, які праводзіць узрушанне ад рэцэптараў да ЦНС.

НЕЙРОН БИПОЛЯРНЫЙ -- *нейрон біпалярны:* нейрон, які мае два атожылкі - аксон і дэндрыт.

НЕЙРОН ВЕГЕТАТИВНЫЙ -- *нейрон вегетацыйны:* агульная назва нейронаў, якія ўваходзяць у склад гангліяў, сплячэнняў нерваў вегетацыйнай нервовай сістэмы.

НЕЙРОН КОРКОВЫЙ -- *нейрон коркавы (шкарупавы):* нейрон, усе аддзелы якога размешчаныя ў коркавым (шкарупавым) рэчыве.

НЕЙРОН МУЛЬТИПОЛЯРНЫЙ -- *нейрон мультыпалярны:* нейрон, які акрамя аксона, мае шматлікія дэндрыты.

НЕЙРОНЫ ВСТАВОЧНЫЕ (ИНТЕРНЕЙРОНЫ) -- *нейроны ўставачныя (інтэрнейроны):* асацыятыўныя нейроны ЦНС, якія ўспрымаюць і перапрацоўваюць аферэнтныя імпульсы, а потым перадаюць іх на наступныя эфекцыйныя нейроны.

НЕЙРОНЫ ПОЛИВАЛЕНТНЫЕ -- *нейроны полівалентныя:* нейроны, якія рэагуюць на пацьвяленне ў межах адзінай агульнай сістэмы, напрыклад, сістэмы скурнага аналізатара.

НЕЙРОНЫ ПОЛИМОДАЛЬНЫЕ -- *нейроны полімадальныя:* нейроны, якія актывізуюцца аферэнтнымі імпульсамі, што ідуць ад розных рэцэптараў. Да іх належаць нейроны неастрыатума, гіпакампа, міндаліны асацыятыўнай кары.

НЕЙРОНЫ ЭФФЕРЕНТНЫЕ -- *нейроны эферэнтныя:* нейроны, у якіх адбываецца перапрацоўка атрыманай інфармацыі і ў якіх фармуецца рэакцыя ў адказ.

НЕЙРОПЕПТИДЫ -- *нейрапептыды:* біялагічна актыўныя рэчывы, якія выконваюць функцыю нейрамедыятараў і нейрамадулятараў.

НЕЙРОСЕКРЕЦИЯ -- *нейрасакрэцыя:* працэс утварэння і выдзялення нейрагармонаў клеткамі гіпаталамусу.

НЕЙРОЭНДОКРИННЫЙ ТРАНСДУКТОР -- *нейраэндакрынны трансдуктар:* орган, які пераўтварае нервовы імпульс у гумаральны (гіпофіз, эпіфіз).

НЕЙТРОФИЛ (ГРАНУЛОЦИТ НЕЙТРОФИЛЬНЫЙ) -- *нейтрафіл (гранулацыт нейтрафільны):* гранулацыт, зярністасць якога выяўляецца пры афарбоўцы нейтральнымі фарбавальнікамі. У крыві дарослага чалавека ўтрымліваецца 63-70% н. ад агульнага ліку лейкацытаў. Здольны да фагацытозу.

НЕКСУС -- *нэксус:* участак устаўнога дыска паміж двюма сарколемамі, дзе няма паміжклеткавай прасторы.

НЕРВ -- *нерв:* анатамічнае ўтварэнне са жмуткоў нервовых валокнаў, акалёных абалонкамі з злучальнай тканкі; забяспечвае праводзенне нервовых імпульсаў.

НЕРВ ДИАФРАГМАЛЬНЫЙ -- *нерв дыяфрагмальны:* нервовы ствол, які інервуе дыяфрагму.

НЕРВИЗМ -- *нервізм:* галіна ў фізіялогіі і медыцыне, якая прызнае за нервовай сістэмай панавальную ролю ў рэгуляцыі жыц-

цыдзейнасці арганізма.

НЕРВНАЯ РЕГУЛЯЦИЯ -- *нервовая рэгуляцыя:* распаўсюджваецца на ўсе функцыі арганізма і аказвае суладны ўплыў, забяспечвае прыстасаванне арганізма да змены ўмоў вонкавага асяроддзя.

НЕРВНАЯ СИСТЕМА -- *нервовая сістэма:* морфафункцыянальная сукупнасць асобных нейронаў, якая забяспечвае ўзгодненую дзейнасць усіх органаў і сістэм, прыстасаванне арганізма да новых умоў існавання.

НЕРВНАЯ СИСТЕМА ВЕГЕТАТИВНАЯ -- *нервовая сістэма вегетацыйная:* частка нервовай сістэмы, якая інервуе нутраныя органы, судзіны, залозы, шкілетныя мускулы, ЦНС, рэцэптары.

НЕРВНАЯ СИСТЕМА СОМАТИЧЕСКАЯ -- *нервовая сістэма саматычная:* частка нярвовай сістэмы, што забяспечвае ўспрыманне знешніх пацьвялялынікаў і арганізацыю рухальных рэакцый, якія выконваюцца шкілетнай мускулатурай.

НЕРВНО-МЫШЕЧНОЕ ВЕРЕТЕНО (МЫШЕЧНОЕ ВЕРЕТЕНО) -- *нервова-мускульны пачынак (мускульны ці цяглічны пачынак):* рэцэптарны прыбор, які знаходзіцца ў шкілетных мускулах.

НЕРВНОЙ СИСТЕМЫ АДАПТАЦИОННО-ТРОФИЧЕСКАЯ ФУНКЦИЯ -- *нервовай сістэмы адаптацыйна-трафічная функцыя:* функцыя сімптаматычнага аддзела нервовай сістэмы, якая забяспечвае прыстасаванне арганізма да ўмоў дзейнасці за кошт рэгуляцыі абмену рэчываў, трофікі ці функцыянальнага стану ЦНС. Пад уплывам сімпацыйнага аддзела вегетацыйнай нервовай сістэмы аднаўляецца працаздольнасць стомленых мускулаў. Фенамен адкрыў Л.А.Арбелі.

НЕРВНЫЙ ИМПУЛЬС -- *нервовы імпульс:* хваля ўзрушання, якая распаўсюджваецца па нервоваму валакну і праяўляецца ў выглядзе электрычных, іонных, механічных, тэрмічных і іншых змяненняў.

НЕРВНЫЙ ЦЕНТР -- *нервовы цэнтр:* функцыянальнае аб'яднанне нейронаў, размешчаных у розных аддзелах ЦНС. Бяруць удзел у ажыццяўленні рэфлексаў і іх рэгуляцыі.

НЕРВЫ ВАЗОМОТОРНЫЕ -- *нервы вазаматорныя:* вегетацыйныя нервы, якія змяняюць тонус судзіннай сценкі ў залежнасці ад змянення імпульснай актыўнасці. Да н.в. адносяцца сімпацыйныя і парасімпацыйныя валокны.

НЕРВЫ ЦЕНТРОБЕЖНЫЕ (ЭФФЕРЕНТНЫЕ НЕРВЫ) -- *нервы адцэнтравыя (эферэнтныя нервы):* нервовыя валокны, якія праводзяць узрушанне ад ЦНС да дзейных органаў.

НЕРВЫ ЦЕНТРОСТРЕМИТЕЛЬНЫЕ (АФФЕРЕНТНЫЕ, ЧУВСТВИТЕЛЬНЫЕ НЕР-

ВЫ) -- *нервы дацэнтравыя (аферэнтныя, чуллівыя нервы):* нервовыя валокны, якія праводзяць узрушанне ад рэцэптараў да ЦНС.

НЕРВЫ ЧЕРЕПНЫЕ -- *нервы чэрапныя:* 12 пар нерваў, якія адыходзяць ад пярэдняй паверхні ствала галаўных мазгоў і інервуюць пераважна органы і тканкі галавы, шыі, груднай і чэраўнай паражнінаў.

НЕРВЫ ЧЕРЕПНЫЕ 1 -- *нервы чэрапныя 1:* нюхавыя, сэнсорныя, нясуць імпульсы да ЦНС ад нюхавага эпітэлія носа.

НЕРВЫ ЧЕРЕПНЫЕ 2 -- *нервы чэрапныя 2:* зрокавыя, сэнсорныя, нясуць імпульсы ад рэцэптараў сеткавіцы носа.

НЕРВЫ ЧЕРЕПНЫЕ 3 -- *нервы чэрапныя 3:* вокарухальныя, інервуюць мускулы вока і мускулы, што ўзнімаюць павека.

НЕРВЫ ЧЕРЕПНЫЕ 4 -- *нервы чэрапныя 4:* блокавыя, рухальныя, інервуюць верхні касы мускул вока.

НЕРВЫ ЧЕРЕПНЫЕ 5 -- *нервы чэрапныя 5:* трайчастыя, змяшаныя, інервуюць жавацельную мускулатуру і нацяг бубеннай балоны.

НЕРВЫ ЧЕРЕПНЫЕ 6 -- *нервы чэрапныя 6:* адводныя, інервуюць вонкавы прамы мускул вока.

НЕРВЫ ЧЕРЕПНЫЕ 7 -- *нервы чэрапныя 7:* змяшаныя, інервуюць мімічную мускулатуру твару, слёзныя, падсківічныя і пад'язычныя залозы.

НЕРВЫ ЧЕРЕПНЫЕ 8 -- *нервы чэрапныя 8:* прысенна-скруткавыя, праводзяць узрушанне ад рэцэптараў кортыева органа.

НЕРВЫ ЧЕРЕПНЫЕ 9 -- *нервы чэрапныя 9:* языкаглотнічныя, інервуюць мускулатуру паднябення, коўтніцы, галасавых звязак.

НЕРВЫ ЧЕРЕПНЫЕ 10 -- *нервы чэрапныя 10:* блукальныя, змяшаныя. Рухальныя нейроны інервуюць мускулатуру стрававальнага тракту, трахеі, бронхаў, некаторых крывяносных судзінаў і мускул сэрца.

НЕРВЫ ЧЕРЕПНЫЕ 11 -- *нервы чэрапныя 11:* дадатковыя, рухальныя, інервуюць грудзінна-ключычна-смочкаватыя і трапецаватыя мускулы свайго боку.

НЕРВЫ ЧЕРЕПНЫЕ 12 -- *нервы чэрапныя 12:* пад'язычныя, рухальныя, інервуюць усе мускулы языка свайго боку.

НЕФРОН -- *нефрон:* структурна-функцыянальная адзінка ныркі, якая мае ныркавае цельца з выгнутымі і прамымі канальчыкамі, якія адыходзяць ад яго.

НЕФРОН ЮКСТАМЕДУЛЯРНЫЙ -- *нефрон юкстамедулярны:* нефрон, у якога капсула, праксімальны і дыстальны аддзелы размешчаны ў шка-

рупавым (коркавым) рэчыве, а пятля - у мазгавым рэчыве ныркі.

НЕФРОН ЮКСТАМЕДУЛЯРНЫЙ -- *нефрон юкстамедулярны:* нефрон, клубочкі якога знаходзяцца ў шкарупе (кары) на самай мяжы з мазгавым рэчывам. Асаблівасці будовы ю.н. спрыяюць больш высокай гламерулярнай фільтрацыі і існаванню механізма проціцячэння.

НИСТАГМ -- *ністагм:* рытмічная вестыбулазакуламаторная рэакцыя. Праяўляецца ў калыханнях вачэй, абумоўленых вярчэннем галавы (пацьвяленне паўкружных каналаў). Выражаецца ў адначасовым і павольным паварочванні абодвух вочных яблыкаў у бок супрацьлеглы вярчэнню і іх скачкападобным вяртанні ў зыходнае становішча (у напрамку руху).

НОРАДРЕНАЛИН -- *норадрэналін:* рэчыва, якое з'яўляецца гармонам мазгавога пласта наднырkавіцы.

НОРМОЦИТ -- *нармацыт:* спелы эрытрацыт, які мае форму двойчавагнутага дыска з роўнымі контурамі дыяметрам 7-8 млм.

НОРМЫ ПИТАНИЯ -- *нормы харчавання:* навукова абгрунтаваныя і рэкамендаваныя сутачныя дозы пажыўных рэчываў.

ОБЛАСТЬ АККОМОДАЦИИ -- *вобласць акамадацыі:* адлегласць паміж далёкім і блізкім пунктамі яснага бачання.

ОБЛЕГЧЕНИЕ (ПРОТОРЕНИЕ) -- *аблягчэнне (пратарэнне):* паляпшэнне праводу нервовага імпульсу. Абумоўліваецца падгранічным узрушаннем нейрона імпульсам, які прыйшоў раней.

ОБМЕН АЗОТИСТЫЙ -- *абмен азоцісты:* сукупнасць працэсаў пераўтварэння бялкоў і рэчываў, якія ўтрымліваюць азот.

ОБМЕН ВЕЩЕСТВ (МЕТАБОЛИЗМ) -- *абмен рэчываў (метабалізм):* сукупнасць хімічных і фізічных пераўтварэнняў, якія адбываюцца ў жывым арганізме і забяспечваюць яго жыццядзейнасць. Складаецца з працэсаў асіміляцыі і дысіміляцыі.

ОБМЕН ОСНОВНОЙ -- *абмен асноўны:* паказчык інтэнсіўнасці энергетычнага абмену арганізма пры поўным фізічным і псіхічным спакоі.

ОБОНЯНИЕ -- *нюх:* здольнасць чалавека і жывёл успрымаць і аналізаваць пахучыя рэчывы.

ОБОНЯНИЯ СТЕРЕОХИМИЧЕСКАЯ ТЕОРИЯ -- *нюху стэрэахімічная тэорыя:* тэорыя, у адпаведнасці з якой успрыманне пахучых пацьвяляльнікаў ажыццяўляецца шляхам адсорбцыі малекул пахучых рэчываў рэцэптарнымі ўчасткамі мембраны клетак нюху.

ОБРАТНАЯ СВЯЗЬ ОТРИЦАТЕЛЬНАЯ -- *зваротная сувязь адмоўная:* сувязь, якая пры адхіленні сістэмы ад раўнавагі выклікае дзеянне,

скіраванае на нейтралізацыю гэтага адхілення.

ОБРАТНАЯ СВЯЗЬ ПОЛОЖИТЕЛЬНАЯ -- *зваротная сувязь станоўчая:* сувязь, якая пры адхіленні сістэмы ад раўнавагі выклікае дзеянне, што спрыяе ўзрастанню адхілення.

ОБРАТНАЯ СВЯЗЬ -- *зваротная сувязь:* паток імпульсаў ад рабочага органа па аферэнтных шляхах да цэнтраў кіравання, які ажыццяўляе кантроль за ступенню карыснасці ў момант дзеяння.

ОБЩАЯ ЁМКОСТЬ ЛЁГКИХ -- *агульная ёмістасць лёгкіх:* аб'ём паветра ў лёгкіх пасля максімальнага ўдыху.

ОБЩИЙ АДАПТАЦИОННЫЙ СИНДРОМ (СТРЕСС) -- *агульны адаптацыйны сіндром (стрэс):* неспецыфічная нейрагумаральная рэакцыя арганізма на дзеянне неадэкватных фактараў (стрэсаў) вонкавага асяроддзя. Тэрмін прапанаваны Г.Сэлье (1936).

ОБЩИЙ КОНЕЧНЫЙ ПУТЬ -- *агульны канчатковы шлях:* прынцып арганізацыі эфектарнай рэакцыі, пры якой да адной і той самай эфектарнай клеткі сыходзіцца шэраг аферэнтных імпульсаў ад розных рэфлексагенных зон.

ОБЪЁМ ДИАСТОЛИЧЕСКИЙ -- *аб'ём дыясталічны:* аб'ём паражніны сэрца (шлуначка), які займае кроў перад чарговай сісталай. У норме роўны 100-130 мл для левага шлуначка.

ОБЪЁМ СЕРДЦА ОСТАТОЧНЫЙ -- *аб'ём сэрца рэшткавы:* аб'ём крыві ў паражнінах (шлуначках) сэрца, які застаецца пры поўнай рэалізацыі рэзервовага аб'ёму па ходу максімальнага сісталічнага скарачэння. У норме а.с.р. складае 40-50% дыясталічнага аб'ёму.

ОБЪЁМ СЕРДЦА РЕЗЕРВНЫЙ -- *аб'ём сэрца рэзервовы:* аб'ём крыві, які застаецца ў шлуначках сэрца пасля нармальнай сісталы пры поўным спакоі арганізма. А.с.р. у норме складае 15-20% дыясталічнага аб'ёму.

ОБЪЁМ ЦИРКУЛИРУЮЩЕЙ КРОВИ -- *аб'ём абягальнай крыві:* колькасць крыві, якая заканчвае поўнае абяганне за адносна кароткі адрэзак часу.

ОБЪЁМНАЯ СКОРОСТЬ ДВИЖЕНИЯ КРОВИ -- *аб'ёмная хуткасць руху крыві:* паказчык, які характарызуе колькасць крыві, што працякае праз папярочнае сячэнне судзіны за адзінку часу.

ОККЛЮЗИЯ -- *аклюзія:* узаемадзеянне двух імпульсных патокаў паміж сабой. Сутнасць а. заключаецца ва ўзаемным прыгнечанні рэфлекцыйных рэакцыяў, пры якім сумарны вынік значна меншы, чым сума ўзаемадзейных рэакцыйяў.

ОКНО ПРЕДДВЕРИЯ (ОВАЛЬНОЕ ОКНО) -- *акно прысення (авальнае*

*акно):* адтуліна на медыяльнай сценцы бубеннай паражніны сярэдняга вуха, закрытая асновай страмяна, калыханні якога перадаюцца на перылімфу сходаў прысення.

ОКНО УЛИТКИ (КРУГЛОЕ ОКНО) -- *акно завітка (круглае акно):* адтуліна, зацягнутая эластычнай мембранай, якая размяжоўвае паражніну сярэдняга вуха і бубенныя сходы нутранога вуха.

ОКСИГЕМОГЛОБИН -- *воксігемаглабін:* форма гемаглабіну, у якой ён абарачальна злучаны з кіслародам і забяспечвае яго перанос крывёю ад лёгкіх да тканак.

ОКСИТОЦИН -- *аксітацын:* гармон гіпаталамуса.

ОПЕРЕЖАЮЩЕЕ ОТРАЖЕНИЕ ДЕЙСТВИТЕЛЬНОСТИ -- *апераджальнае адлюстраванне рэчаіснасці:* уласцівасць усёй жывой матэрыі на аснове механізма памяці прадбачыць будучыя падзеі. Паняцце ўвёў П.К.Анохін.

ОПИАТЫ ЭНДОГЕННЫЕ -- *апіяты эндагенныя:* група злучэнняў пептыднай прыроды, якія валодаюць марфінападобным эфектам.

ОПТИМУМ -- *оптымум:* максімальны ўзровень дзейнасці нервовай і мускульнай тканак, які можа быць стабільна ўзноўлены як у самім нерве, так і ў выглядзе сінхронных скарачэнняў мускула, які ён інервуе.

ОРГАНИЗМ -- *арганізм:* самастойна існуючая адзінка арганічнага свету, уяўляе сабой сістэму, якая самарэгулюецца і рэагуе як адзінае цэлае на розныя змяненні вонкавага асяроддзя.

ОРГАНЫ ЛИМФОИДНЫЕ -- *органы лімфоідныя:* органы імунагенезу; да іх адносяць цімус, касу, лімфатычныя вузлы, лімфоідную тканку органаў стрававання, лімфоідную тканку касцявога мозгу (шпіку).

ОСАНКА -- *пастава:* звычайнае становішча цела, якое чалавек захоўвае пры стаянні і руху. Залежыць ад стану хрыбетніцы, становішча галавы, плячэй.

ОСТАТОЧНЫЙ ОБЪЁМ ЛЁГКИХ -- *рэшткавы аб'ём лёгкіх:* аб'ём паветра ў лёгкіх пасля максімальнага выдыху; роўны 1000-1500 мл.

ОСТРОТА ЗРЕНИЯ -- *вастрыня зроку:* гранічная магчымасць зрокавай сістэмы паасобна адлюстроўваць у зрокавай прасторы дзве максімальна прыбліжаныя, але разнесеныя кропкі.

ОСЯЗАНИЕ -- *дотык:* фізіялагічны працэс, скіраваны на ўспрыманне фактараў вонкавага асяроддзя кантактнымі рэцэптарамі скуры і слізніцаў.

ОТДЫХ -- *адпачынак:* стан пакою пасля якой-небудзь дзейнасці.

ОТОЛИТОВЫЙ АППАРАТ -- *аталітавы апарат:* крышталічныя ўклю-

чэнні, апушчаныя ў жэлеватую мембрану, якая ўваходзіць у склад купулы.

ОЧАГ ВОЗБУЖДЕНИЯ -- *ачаг узрушання:* сукупнасць найбліжэйшых і адначасова фізіялагічна актыўных нервовых элементаў ЦНС.

ОЩУЩЕНИЕ -- *адчуванне:* адлюстраванне ўласцівасцяў прадметаў аб'ектыўнай рэчаіснасці; узнікае ў выніку ўплыву на органы пачуццяў і ўзрушання нервовых цэнтраў шкарупы галаўных мазгоў.

ПАВЛОВА ИЗОЛИРОВАННЫЙ ЖЕЛУДОЧЕК МАЛЫЙ -- *Паўлаў ізаляваны страўнічак малы:* штучны страўнічак, утвораны з фундальнай часткі страўніка пры дапамозе аперацыі, распрацаванай І.П.Паўлавым.

ПАВЛОВА УЧЕНИЕ -- *Паўлава вучэнне:* сукупнасць тэарэтычных палажэнняў, паводле якіх прыстасаванне арганізма да новых умоў ажыццяўляецца пераважна на аснове ўтварэння ўмоўных рэфлексаў.

ПАЛОЧКИ СЕТЧАТКИ -- *палачкі сеткавіцы:* фотарэцэптары сеткавіцы, якія забяспечваюць зрок у прыцемках.

ПАМЯТЬ -- *памяць:* здольнасць індывідуума да аднаўлення падзей з мінулага досведу.

ПАМЯТЬ ДОЛГОВРЕМЕННАЯ -- *памяць доўгачасовая:* падсістэма памяці, якая забяспечвае працяглае захоўванне інтэграванай інфармацыі.

ПАМЯТЬ ИММУНОЛОГИЧЕСКАЯ -- *памяць імуналагічная:* здольнасць арганізма адказваць інтэнсіўнай імуналагічнай рэакцыяй на паўторны кантакт з антыгенам.

ПАМЯТЬ КРАТКОВРЕМЕННАЯ -- *памяць кароткачасовая:* падсістэма памяці, якая забяспечвае захоўванне часовай інфармацыі на працягу адносна кароткага часу.

ПАРАБИОЗ -- *парабіёз:* рэакцыя ўзрушлівай тканкі на дзеянне пацьвяляльнікаў, пры якой зменены ўчастак нерва (мускула) набывае нізкую лабільнасць і таму ня здольны да праводу зададзенага рытму пацьвялення. Выклікаецца супермаксімальнымі пацьвяляльнікамі.

ПАРАСИМПАТИЧЕСКАЯ ЧАСТЬ ВЕГЕТАТИВНОЙ НЕРВНОЙ СИСТЕМЫ -- *парасімпатычная частка вегетацыйнай нервовай сістэмы:* частка вегетацыйнай нервовай сістэмы, гангалі якой размешчаны ў непасрэднай блізкасці да інервальных органаў або ў іх сценцы. П.н.с. інервуе мускулы вока, слёзныя і сліэныя залозы, сэрца, бронхі, страўнікава-кішачны тракт, мачавы пухір, плоцевыя (палавыя) органы, рэгулюе іх стан і падтрымлівае гомеастаз.

ПАРЕНТЕРАЛЬНО -- *парэнтэральна:* увядзенне рэчываў у арганізм, мінуючы стрававальны тракт.

ПАССИВНЫЙ ТРАНСПОРТ -- *пасіўны транспарт:* перанос рэчываў праз клеткавую мембрану без страт энергіі.

ПЕПСИН -- *пепсін:* протэалітычны фермент страўнікавага соку.

ПЕПТИДГИДРОЛАЗЫ -- *пептыдгідралазы:* протэалітычныя ферменты, якія каталізуюць расшчапленне пептыдных сувязяў у бялках.

ПЕРВАЯ СИГНАЛЬНАЯ СИСТЕМА -- *першая сігнальная сістэма:* сістэма адлюстравання рэчаіснасці ў выглядзе адчуванняў і ўспрыманняў, агульная для жывёл і чалавека.

ПЕРВИЧНОЧУВСТВУЮЩИЕ РЕЦЕПТОРЫ -- *першаснаадчувальныя рэцэптары:* рэцэптары, у якіх субстрат успрымання знаходзіцца ў сенсорным нейроне, а адчувальная нервовая клетка непасрэдна ўзрушаецца пацьвяляльнікам.

ПЕРЕКЛЮЧЕНИЕ УСЛОВНОРЕФЛЕКТОРНОЕ -- *пераключэнне ўмоўнарэфлекцыйнае:* форма ўмоўнарэфлекцыйнай дзейнасці, пры якой умоўны пацьвяляльнік у выніку мены абставін змяняе сваё сігнальнае значэнне.

ПЕРЕЛИМФА -- *перылімфа:* вадкасць, якая запаўняе прастору паміж касцявым і балонавым (перапончатым) лабірынтамі нутранога вуха. Бярэ ўдзел у праводу гукавых калыханняў.

ПЕРИОД (ФАЗА) ИЗГНАНИЯ -- *перыяд (фаза) выгнання:* перыяд сардэчнага цыкла, на працягу якога кроў выкідваецца с шлуначкаў. Уключае фазу хуткага і павольнага выгнання.

ПЕРИОД (ФАЗА) НАПОЛНЕНИЯ -- *перыяд (фаза) напаўнення:* перыяд сардэчнага цыкла, на працягу якога адбываецца напаўненне шлуначкаў крывёю за кошт розніцы ціскаў паміж поўнымі прысеннямі і парожнімі шлуначкамі.

ПЕРИОД (ФАЗА) НАПРЯЖЕНИЯ -- *перыяд (фаза) напружання:* перыяд сардэчнага цыкла, на працягу якога адбываецца напружанне сценак шлуначкаў без змянення аб'ёму іх паражнінаў.

ПЕССИМУМ (ТОРМОЖЕНИЕ, ТОРМОЖЕНИЕ ПЕССИМАЛЬНОЕ ПО ВВЕДЕНСКОМУ) -- *песімум (тармажэнне, тармажэнне песімальнае паводле Увядзенскага):* стан узрушанай тканкі, які ўзнікае пры павялічванні сілы або частаты стымуляцыі вышэй за значэнні, што выклікаюць максімальную рэакцыю.

ПЕТЛЯ ГЕНЛЕ (ПЕТЛЯ НЕФРОНА) -- *пятля Генле (пятля нефрона):* аддзел нефрона ў выглядзе эпітэліяльнай трубачкі, якая мае абежную тонкую і ўзыходную тоўстую часткі. У п.Г. адбываецца рэабсорбцыя вады і іонаў.

ПЕЧЕНЬ -- *печань:* самая буйная залоза, якая выконвае шэраг

важных функцыяў. П. сакрэтуе жоўць і бярэ ўдзел у тлушчавым, бялковым і вугляводным абмене.

ПИНОЦИТОЗ -- *пінацытоз:* актыўнае ўсмоктванне клеткай вадкасці з вонкавага асяроддзя. Суправаджаецца фарміраваннем у цытаплазме пухіркоў, якія ўтрымліваюць гэтую вадкасць.

ПИТАНИЕ -- *жыўленне (харчаванне):* сукупнасць працэсаў, якія забяспечваюць паступленне і засваенне арганізмам рэчываў, неабходных для энергетычнага і пластычнага абмену, пабудовы і аднаўлення тканак, а таксама рэгуляцыі функцыяў.

ПИЩЕВАРЕНИЕ -- *страваванне:* фізіялагічны працэс, які забяспечвае механічную і хімічную апрацоўку ежы і пераўтварэнне яе ў рэчывы, даступныя для засваення тканкамі.

ПИЩЕВАРЕНИЕ ВНЕКЛЕТОЧНОЕ -- *страваванне пазаклеткавае:* тып страравання, пры якім сінтэзаваныя сакрэцыйнымі клеткамі ферменты выдзяляюцца ў пазаклеткавае асяроддзе.

ПИЩЕВАРЕНИЕ ВНУТРИКЛЕТОЧНОЕ -- *страваванне нутрыклеткавае:* усмоктванне клеткай нерасчлянаваных або часткова расчлянаваных стрававальных рэчываў, якія далей распадаюцца пад уплывам ферментаў цытаплазмы.

ПИЩЕВАРЕНИЕ МЕМБРАННОЕ (ПРИСТЕНОЧНОЕ) -- *страваванне мембраннае (прысценкавае):* тып страравання, які ажыццяўляе гідроліз рэчываў ферментамі, адсарбаванымі паверхняй мембраны клеткі.

ПИЩЕВОЙ ЦЕНТР -- *спажыўны цэнтр:* сукупнасць нервовых утварэнняў, размешчаных у розных аддзелах галаўных мазгоў, якія рэгулююць стрававальныя паводзіны, а таксама складанарэфлекцыйную рэгуляцыю і каардынацыю дзейнасці стрававальнага тракту як адзінага цэлага.

ПИЩИ СПЕЦИФИЧЕСКОЕ ДИНАМИЧЕСКОЕ ДЕЙСТВИЕ -- *ежы спецыфічнае дынамічнае дзеянне:* паскарэнне абмену рэчываў у параўнанні з узроўнем асноўнага абмену, абумоўленае прыняццем, пераатраўленнем і засваеннем ежы.

ПЛАЗМА КРОВИ -- *плазма крыві:* вадкая частка крыві.

ПЛАЗМАТИЧЕСКИЕ КЛЕТКИ -- *плазматычныя клеткі:* клеткі, якія сакрэтуюць імунаглабулін. Знаходзяцца ў касцявым мозгу (шпіку), лімфатычных вузлах, касе.

ПЛАСТИЧНОСТЬ НЕРВНЫХ ЦЕНТРОВ -- *пластычнасць нервовых цэнтраў:* здольнасць нервовых цэнтраў змяняць сваю рэактыўнасць пад уплывам паслядоўных пацьвяленняў.

ПЛАСТИЧНОСТЬ СВЯЗЕЙ В СЕНСОРНОЙ СИСТЕМЕ -- *пластычнасць су-*

*вявяў у сэнсарнай сістэме:* перабудова сувязі паміж нейронамі за кошт пераключэння інфармацыі з адных шляхоў на другія або шляхам утварэння ці павышэння эфектыўнасці новых сувязяў у працэсе трэніроўкі, навучэння.

ПЛАТО ПОТЕНЦИАЛА ДЕЙСТВИЯ (ПД) СЕРДЦА (ФАЗА МЕДЛЕННОЙ РЕПОЛЯРИЗАЦИИ ПОТЕНЦИАЛА ДЕЙСТВИЯ) -- *плато патэнцыялу дзеяння (ПД) сэрца (фаза павольнай рэпалярызацыі патэнцыялу дзеяння):* фаза ПД сэрца, на працягу якой мембранны патэнцыял (МП) доўга трымаецца на ўзроўні каля нуля; абумоўлена павольным уваходным токам.

ПОДВИЖНОСТЬ НЕРВНЫХ ПРОЦЕССОВ -- *рухавасць нервовых працэсаў:* хуткасць змянення пацьвяляльнага працэсу тармазным і ўзрушвальным. Крытэрам з'яўляецца таксама згасанне і аднаўленне ўмоўнага рэфлексу.

ПОДВИЖНОСТЬ ФУНКЦИОНАЛЬНАЯ (ЛАБИЛЬНОСТЬ) -- *рухавасць функцыянальная (лабільнасць):* уласцівасць, якая характэрызуе магчымасць узрушлівай тканкі ўзнаўляць максімальную колькасць патэнцыялаў дзеяння за адзінку часу.

ПОЛЕ ЗРЕНИЯ -- *поле зроку:* участак прасторы, зрокаваўспрымальны чалавекам пры адсутнасці рухаў вачыма і галавой.

ПОЛЕЗНОЕ ВРЕМЯ -- *карысны час:* мінімальны час, на працягу якога электрычны ток гранічнай сілы павінен уплываць на тканку, каб выклікаць яе ўзрушанне.

ПОЛОСАТОЕ ТЕЛО -- *паласатае цела:* вялікая колькасць шэрага рэчыва ў глыбіні паўсфераў пярэдняга мозгу; складаецца з сачыўкаватага і хвастатага ядраў.

ПОЛУКРУЖНЫЕ КАНАЛЫ -- *паўкружныя каналы:* частка нутранога вуха, якая ўдзельнічае ў рэгуляцыі раўнавагі руху і ў змяненні становішча галавы ў прасторы.

ПОЛЯРИЗАЦИЯ МЕМБРАНЫ -- *палярызацыя мембраны:* адхіленне рознасці патэнцыялаў ад раўнаважнага значэння пры наяўнасці дадатнага зараду на паверхні клеткі і адмоўнага ўнутры клеткі ў стане спакою.

ПОРОГ -- *граніца:* мінімальная інтэнсіўнасць пацьвяляльніка, які выклікае спецыфічную рэакцыю ўзрушлівай структуры.

ПОРОГОВЫЙ ПОТЕНЦИАЛ -- *гранічны патэнцыял:* мінімальны зрух мебраннага патэнцыялу (МП), пры якім дэпалярызацыя мембраны дасягае крытычнага ўзроўню, дастатковага для ўзнікнення пашыральнага патэнцыяла дзеяння (ПД).

ПОРТАЛЬНОЕ КРОВООБРАЩЕНИЕ -- *партальны кровазварот:* сістэма

кровазабеспячэння органаў чэраўнай паражніны і гіпаталама-гіпафізарнай часткі, для якой характэрны праход крыві праз дзве паслядоўна размешчаныя капілярныя сеткі.

ПОСЛЕДЕЙСТВИЕ -- *паслядзеянне:* змяненне функцыянальнага стану арганізма (органа або тканкі), якое працягваецца пасля перапынення дзеяння фактару, што выклікаў гэта дзеянне.

ПОСТЦЕНТРАЛЬНАЯ ИЗВИЛИНА -- *постцэнтральная звіліна:* вертыкальна размешчаная звіліна шкарупы (кары) мазгоў, якая праходзіць звзаду цэнтральнай разоры.

ПОТЕНЦИАЛ ДЕЙСТВИЯ (ПД) (ПИКОВЫЙ ПОТЕНЦИАЛ) -- *патэнцыял дзеяння (ПД) (пікавы патэнцыял):* хуткае калыханне мебраннага патэнцыялу (МП), якое ляжыць у аснове распаўсюджвання ўзрушэння. Узнікае на фоне дэпалярызацыі мембраны, якая дасягнула крытычнага ўзроўню.

ПОТЕНЦИАЛ ДЕЙСТВИЯ (ПД) ДВИГАТЕЛЬНОЙ ЕДИНИЦЫ -- *патэнцыял дзеяння (ПД) рухальнай адзінкі:* алгебраічная сума ПД, якія ўваходзяць у яе мускульныя валокны.

ПОТЕНЦИАЛ ДЕЙСТВИЯ КОНЦЕВОЙ ПЛАСТИНКИ -- *патэнцыял дзеяння канцавой пласцінцы:* ВПСП характарызуецца змяненнем мебраннага патэнцыялу (МП) мускульнага валакна пры пацьвяленні рухальнага нерва.

ПОТЕНЦИАЛ ДЕЙСТВИЯ ПЕЙСМЕКЕРНОЙ КЛЕТКИ -- *патэнцыял дзеяння пейсмекернай клеткі:* характарызуецца дыпалярызацыяй мембран у перадімпульсны перыяд.

ПОТЕНЦИАЛ ОЩУЩЕНИЯ (ЧУВСТВИТЕЛЬНЫЙ) -- *патэнцыял адчування (чуллівы):* мінімальная велічыня асноўных параметраў пацьвялльніка, якая выклікае азначанае адчуванне.

ПОТЕНЦИАЛЬНЫЕ ВОДИТЕЛИ РИТМА -- *патэнцыяльныя рытмаводы:* комплекс утварэнняў праводнай сістэмы сэрца, размешчаны ў вобласці сінуснага і атрыавентрыкулярнага вузлоў.

ПОЧЕЧНЫЕ КАНАЛЬЦЫ -- *ныркавыя канальчыкі:* эпітэліяльныя канальчыкі, якія ўваходзяць у склад нефрона.

ПОЧКИ -- *ныркі:* парны орган мочаўтварэння, мочавывядзення і інкрэцыі. Бяруць удзел у осмарэгуляцыі, валюмарэгуляцыі, іоннай рэгуляцыі і атрыманні кіслінна-шчолачнай раўнавагі.

ПРЕДСЕРДНО-ЖЕЛУДОЧКОВЫЙ УЗЕЛ -- см. АТРИОВЕНТРИКУЛЯРЫЙ УЗЕЛ.

ПРИНЯТИЕ РЕШЕНИЯ -- *прыняцце рашэння:* працэс выбару адной рэакцыі з мноства магчымых пры арганізацыі паводзіннага акту.

ПРОВОДЯЩАЯ СИСТЕМА СЕРДЦА -- *праводная сістэма сэрца:* сукупнасць утварэнняў атыпічнай мускулатуры, здольных генераваць імпульс узрушання і праводзіць яго да ўсіх аддзелаў міякарда.

ПРОВОДЯЩИЕ ПУТИ ЦЕНТРАЛЬНОЙ НЕРВНОЙ СИСТЕМЫ -- *праводныя шляхі цэнтральнай нервовай сістэмы:* групы нервовых валокнаў ЦНС, якія звязваюць яе розныя аддзелы, аб'яднаныя марфалагічна, тапаграфічна і функцыянальна.

ПРОГРАММА ДЕЙСТВИЯ -- *праграма дзеяння:* стадыя функцыянальнай сістэмы. Узнікае пасля прыняцця рашэння аб дасягненні выніку і характарызуецца ўзрушэннем розных структураў ЦНС.

ПРОЕКЦИОННЫЕ ЗОНЫ КОРЫ -- *праекцыйныя зоны кары:* сенсорныя або аналізатарныя зоны, якія забяспечваюць успрыманне, аналіз і дынамічную перапрацоўку ўзрушанняў з уласцівай ім мадальнасцю.

ПРОКСИМАЛЬНЫЙ КАНАЛЕЦ -- *праксімальны канальчык:* у нырцы ўтварае пачатковую частку нефрона, якая ідзе ўслед за капсулай клубочку.

ПРОТИВОСВЕРТЫВАЮЩАЯ СИСТЕМА КРОВИ -- *процізгусальная сістэма крыві:* частка сістэмы згусання крыві, якая перашкаджае ўтварэнню крывянога згустка і якая можа яго раствараць.

ПРОТРОМБИН -- *пратрамбін:* складаны бялок плазмы крыві, папярэднік трамбіна, кампанент сістэмы згусання крыві.

ПУЛЬС -- *пульс:* штуршковыя калыханні судзінаў сэрца і прылеглых тканак, якія выклікаюцца скарачэннямі сэрца.

ПУТИ ДВИГАТЕЛЬНЫЕ -- *шляхі рухальныя:* жмуткі рухальных нервовых валокнаў, якія звязваюць нервовыя цэнтры і шкілетныя мускулы.

ПУТИ ЗРИТЕЛЬНЫЕ -- *шляхі зрокавыя:* нервовыя валокны, па якіх імпульсы ад сеткавіцы ідуць да зрокавых цэнтраў.

ПУТИ КОМИССУРАЛЬНЫЕ НЕРВНЫЕ -- *шляхі камісуральныя нервовыя:* нервовыя шляхі, якія злучаюць сіметрычныя часткі вялікіх паўсфераў, мозачкаў, спінных мазгоў.

РАВНОВЕСИЕ АЗОТИСТОЕ -- *раўнавага азоцістая:* наяўнасць азоцістага абмену ў арганізме, пры якім колькасць уваднога і вываднога азоту аднолькавая.

РАЗДРАЖИМОСТЬ -- *пацьвяляльнасць:* здольнасць жывых клетак, тканак, або ўсяго арганізма рэагаваць на вонкавыя або нутраныя ўплывы ўсеагульнай, агульнабіялагічнай прыстасавальнай рэакцыяй.

РАЗДРАЖИТЕЛИ АДЕКВАТНЫЕ -- *пацьвяляльнікі адэкватныя:* прыродныя пацьвяляльнікі, якія ўплываюць на строга вызначаныя рэцэп-

тары, прыстасаваныя ў працэсе эвалюцыі да ўспрымання спецыфічнага пацьвяплення. Напрыклад, для вока а.р. з'яўляюцца прамяні бачнай часткі спектра. Для а.р. характэрна малая інтэнсіўнасць дзеяння пацьвяляльніка.

РАЗДРАЖИТЕЛЬ -- *пацьвяляльнік:* стымул, любы ўплыў, здольны выклікаць біялагічную рэакцыю жывой тканкі, змяненне яе структуры і функцыі.

РАСТВОР ФИЗИОЛОГИЧЕСКИЙ -- *раствор фізіялагічны:* ізатанічны раствор, які па сваім якасным складзе і канцэнтрацыі соляў адпавядае складу плазмы крыві.

РАСТОРМАЖИВАНИЕ УГАШЕННОГО УСЛОВНОГО РЕФЛЕКСА -- *растарможванне заглушанага ўмоўнага рэфлексу:* аднаўленне заглушанага ўмоўнага рэфлексу дзеяннем пабочнага пацьвяляльніка ўмеранай сілы ў час дзеяння ўмоўнага сігналу.

РЕГУЛЯЦИЯ -- *рэгуляцыя:* сукупнасць фізіялагічных механізмаў, якія забяспечваюць функцыянаванне арганізма як адзінага цэлага і ўзгодненасць яго функцыяў у працэсе ўзаемадзеяння з вонкавым асяроддзем.

РЕГУЛЯЦИЯ ГУМОРАЛЬНАЯ -- *рэгуляцыя гумаральная:* рэгуляцыя фізіялагічных працэсаў праз біялагічна-актыўныя рэчывы.

РЕЗЕРВ ДЫХАНИЯ -- *рэзерв (запас) дыхання:* розніца паміж велічынёй максімальнай вентыляцыі лёгкіх і хвілінным аб'ёмам дыхання ў спакоі.

РЕЗЕРВНЫЙ ОБЪЁМ ВДОХА (ДОПОЛНИТЕЛЬНЫЙ ВОЗДУХ) -- *рэзервовы (запасны) аб'ём удыхання (дадатковае паветра):* максімальны аб'ём паветра, якое чалавек можа ўдыхнуць пасля звычайнага ўдыхання. Роўны 1200-1600 мл.

РЕЗЕРВНЫЙ ОБЪЁМ ВЫДОХА (РЕЗЕРВНЫЙ ВОЗДУХ) -- *рэзервовы (запасны) аб'ём выдыхання (рэзервовае паветра):* максімальны аб'ём паветра, якое чалавек можа выдыхнуць пасля звычайнага выдыхання. Роўны 800-1200 мл.

РЕЗИСТЕНТНОСТЬ (СОПРОТИВЛЯЕМОСТЬ) -- *рэзістэнтнасць (супраціўляльнасць):* устойлівасць арганізма да ўплыву розных фактараў асяроддзя, якая рэалізуецца на аснове агульнабіялагічнага прынцыпу гомеастаза.

РЕЗУС-ФАКТОР -- *рэзус-фактар:* антыген, які знаходзіцца ў эрытрацытах чалавека і макакі-рэзуса.

РЕНИН -- *рэнін:* протэалітычны фермент, які ўтвараецца ў юкстагламерулярным апараце ныркі.

РЕОГРАФИЯ -- *рэаграфія:* метад даследавання пульсавых калыханняў крованапаўнення судзінаў розных органаў і тканак, а таксама канцавінаў і тулава ў цэлым. Заснаваны на графічнай рэгістрацыі змяненняў поўнага электрычнага супраціўлення тканак.

РЕПОЛЯРИЗАЦИЯ -- *рэпалярызацыя:* вяртанне розніцы патэнцыялаў на мембране жывой клеткі да ўзроўню, папярэдняму яе дэпалярызацыі.

РЕСНИЧНОЕ ТЕЛО (ЦИЛИАРНОЕ ТЕЛО) -- *вейкавае цела (цыліярнае цела):* частка судзіннай абалонкі вока, размешчаная ў выглядзе кругавога валіка ў пярэдняй частцы вока.

РЕТИКУЛЯРНАЯ ФОРМАЦИЯ -- *рэтыкулярная фармацыя:* сетка дыфузна размешчаных і пераплеценых паміж сабой нейронаў у вобласці спінных мазгоў і мазгавога ствала.

РЕФЛЕКС -- *рэфлекс:* змяненне або спыненне функцыянальнай актыўнасці органаў, тканак або цэлага арганізма, якое адбываецца пры ўдзеле ЦНС, ці без яе ў адказ на пацьвяленне рэцэптараў.

РЕФЛЕКС БЕЗУСЛОВНЫЙ -- *рэфлекс безумоўны:* прыроджаная, генетычна запраграмаваная рэакцыя арганізма на нутраныя і вонкавыя пацьвяляльнікі.

РЕФЛЕКС КОЛЕННЫЙ -- *рэфлекс каленны:* рэфлекс, які выклікае разгінанне нагі ў каленным суставе пры ўдары па сухажыле чатырохгаловага мускула сцягна.

РЕФЛЕКС ОРИЕНТИРОВОЧНЫЙ -- *рэфлекс арыентацыйны:* адказ арганізма на змяненне вонкавага асяроддзя ў форме выканання шэрага прыстасаваных дзеянняў, скіраваных на лепшае ўспрыманне змяненняў вонкавага або нутранога асяроддзя.

РЕФЛЕКС СИНОКАРОТИДНЫЙ -- *рэфлекс сінакаратыдны:* рэфлекцыйнае павышэнне артэрыяльнага ціску за кошт звужэння перыферычных судзінаў у адказ на сціcканне сонных артэрый.

РЕФЛЕКС УСЛОВНЫЙ -- *рэфлекс умоўны:* індывідуальныя рэакцыі, набытыя арганізмам у працэсе індывідуальнага развіцця на падставе досведу.

РЕФЛЕКС УСЛОВНЫЙ ВЫСШИХ ПОРЯДКОВ -- *рэфлекс умоўны вышэйшых парадкаў:* умоўны рэфлекс, які ўтвараецца на падставе іншага ўмоўнага рэфлексу.

РЕФЛЕКС УСЛОВНЫЙ НА ВРЕМЯ -- *рэфлекс умоўны на час:* умоўны рэфлекс, для якога ўмоўным пацьвяляльнікам з'яўляецца прамежак часу.

РЕФЛЕКС УСЛОВНЫЙ НАЛИЧНЫЙ -- *рэфлекс умоўны наяўны:* умоўны

рэфлекс, пры якім падмацаванне ўжываецца адразу пасля ўздзеяння ўмоўнага пацьвялялыніка.

РЕФЛЕКС УСЛОВНЫЙ НАТУРАЛЬНЫЙ -- *рэфлекс умоўны натуральны:* умоўны рэфлекс, які ўтвараецца на натуральную прыкмету безумоўнага пацьвялялыніка.

РЕФЛЕКС УСЛОВНЫЙ ОТРИЦАТЕЛЬНЫЙ -- *рэфлекс умоўны адмоўны:* умоўны рэфлекс без вонкавых рухальных або сакрэцыйных эфектаў; у гэтых рэфлексаў умоўны пацьвялялынік выклікае спыненне рэакцыі адказу.

РЕФЛЕКС УСЛОВНЫЙ ПЕРВОГО ПОРЯДКА -- *рэфлекс умоўны першага парадку:* звычайны ўмоўны рэфлекс, выпрацаваны на прад'яўлены безумоўны пацьвялялынік.

РЕФЛЕКСА ВРЕМЯ (ЛАТЕНТНЫЙ ПЕРИОД) -- *рэфлексу час (латэнтны перыяд):* час ад моманту пацьвялення рэцэптара да пачатку рэфлекцыйнай рэакцыі.

РЕФЛЕКСА УСЛОВНОГО СПЕЦИАЛИЗАЦИЯ -- *рэфлексу ўмоўнага спецыялізацыя:* механізм выдзялення асноўнага сігналу ў працэсе замацавання ўмоўнага рэфлексу, дзякуючы ўзнікненню дыферэнцыйнага тармажэння.

РЕФЛЕКСЫ БУЛЬБАРНЫЕ -- *рэфлексы бульбарныя:* рэфлексы, якія ўзнікаюць пры ўдзеле падоўжанага мозгу.

РЕФЛЕКСЫ ВАЗОВАЗАЛЬНЫЕ -- *рэфлексы вазавазальныя:* рэфлекцыйныя змяненні тонусу адных судзінаў у адказ на пацьвяленне інтэрарэцэптараў іншых судзінаў.

РЕФЛЕКСЫ ВАЗОКАРДИАЛЬНЫЕ -- *рэфлексы вазакардыяльныя:* рэфлексы змянення сардэчнай дзейнасці пры пацьвяленні перыферычных судзінаў.

РЕФЛЕКСЫ ВИСЦЕРО-ВИСЦЕРАЛЬНЫЕ -- *рэфлексы вісцэра-вісцэральныя:* рэфлексы, якія змяняюць дзейнасць нутраных органаў у адказ на пацьвяленне інтэрарэцэптараў.

РЕФЛЕКСЫ ВИСЦЕРОСЕНСОРНЫЕ -- *рэфлексы вісцэрасэнсарныя:* праяўляюцца ў змяненні функцыянальнага стану органаў пачуццяў у адказ на пацьвяленне нутраных органаў.

РЕФЛЕКСЫ КАРДИОВАСКУЛЯРНЫЕ -- *рэфлексы кардыяваскулярныя:* рэфлексы, якія ўзнікаюць ад рэцэптараў сэрца і змяняюць тонус сасудаў.

РЕФЛЕКСЫ КУТАННО-ВИСЦЕРАЛЬНЫЕ -- *рэфлексы кутанна-вісцэральныя:* праяўляюцца ў змяненні нутраных органаў пры пацьвяленні пэўных участкаў скуры.

РЕФЛЕКСЫ СТАТИЧЕСКИЕ -- *рэфлексы статычныя:* рэфлексы, якія перараэмяркоўваюць мускульны тонус у залежнасці ад становішча тулава і не звязаныя з яго перамяшчэннем у прасторы.

РЕФЛЕКСЫ СТАТОКИНЕТИЧЕСКИЕ -- *рэфлексы статакінетычныя:* рэфлексы, скіраваныя на захаванне і падтрымку вызначанага становішча тулава ў час прамалінейнага вярчальнага руху.

РЕФЛЕКСЫ СУХОЖИЛЬНЫЕ -- *рэфлексы сухажыльныя:* рэфлекцыйныя рэакцыі, якія ўзнікаюць у адказ на пацьвяленне рэцэптараў сухажылаў і адпаведных мускулаў.

РЕФЛЕКТОРНАЯ ДЕЯТЕЛЬНОСТЬ МНОГОЭТАЖНАЯ -- *рэфлекцыйная дзейнасць шматпавярховая:* рэфлекцыйная дзейнасць, якая падключае ўсе аддзелы ЦНС у адказ на пацьвяленне.

РЕФЛЕКТОРНАЯ ДЕЯТЕЛЬНОСТЬ МОНОСИНАПТИЧЕСКАЯ (ДВУХНЕЙРОННАЯ) -- *рэфлекцыйная дзейнасць монасінаптычная (двухнейронная):* улучае адзін сінапс, праз які ўзрушанне ад аферэнтнага нейрона перадаецца на эферэнтны.

РЕФЛЕКТОРНАЯ ДЕЯТЕЛЬНОСТЬ ПОЛИСИНАПТИЧЕСКАЯ -- *рэфлекцыйная дзейнасць полісінаптычная:* улучае два і больш сінапсы.

РЕФЛЕКТОРНАЯ ДУГА -- *рэфлекцыйная лука:* сукупнасць утварэнняў, якія неабходны для ажыццяўлення рэфлексаў. Складаецца з рэцэптара, аферэнтнага нейрона, адцэнтравага нейрона і эфектара.

РЕФЛЕКТОРНОЕ КОЛЬЦО -- *рэфлекцыйнае кальцо:* сукупнасць утварэнняў для ажыццяўлення рэфлексаў і перадачы інфармацыі пра характар і сілу рэфлекцыйнага дзеяння ў ЦНС (кругавая сувязь).

РЕФРАКТЕРНОСТЬ -- *рэфрактэрнасць:* кароткачасовае зніжэнне ўзрушлівасці нервовай і мускульнай тканак у час і ўслед патэнцыяла дзеяння.

РЕФРАКТЕРНОСТЬ АБСОЛЮТНАЯ -- *рэфрактэрнасць абсалютная:* рэфрактэрнасць ў выглядзе поўнага знікнення ўзрушлівасці, якая паяўляецца адразу пасля ўзрушання.

РЕФРАКТЕРНОСТЬ ОТНОСИТЕЛЬНАЯ -- *рэфрактэрнасць адносная:* стан, які характарызуецца аднаўленнем узрушлівасці са зваротам да першапачатковага ўзроўню.

РЕЦЕПТИВНОЕ ПОЛЕ -- *рэцэпцыйнае поле:* вобласць, якая займае сукупнасць усіх рэцэптараў, стымуляцыя якіх прыводзіць да змянення актыўнасці вызначанага элемента эферэнтнага валакна або нерва.

РЕЦЕПТОР (МОНИТОР, СЕНСОР) -- *рэцэптар (манітор, сэнсар):* высокаспецыялізаванае ўтварэнне, якое трансфармуе энергію вонкавага пацьвялення ў энергію нервовага імпульсу, не скажаючы зместу

інфармацыйнага паведамлення.

РЕЦЕПТОРНЫЙ ПОТЕНЦИАЛ -- *рэцэпцыйны патэнцыял:* патэнцыял, які ўзнікае ў рэцэпцыйных утварэннях пры дзеянні адэкватнага стымулу з прычыны змянення іоннай пранікальнасці рэцэпцыйнай мембраны.

РЕЦЕПТОРЫ ВТОРИЧНОЧУВСТВУЮЩИЕ -- *рэцэптары другаснаадчувальныя:* яны размяшчаюцца на спецыялізаваных рэцэпцыйных (не нервовых) клетках некаторых аналізатараў: смакавым, зрокавым, слыхавым і вестыбулярным. У іх генерыруюцца патэнцыялы (рэцэпцыйны і генератарны).

РЕЦИПИЕНТ -- *рэцыпіент:* суб'ект, якому пераліваецца донарская кроў бо перасаджваецца донарскі орган.

РИТМА ВОЗБУЖДЕНИЯ ТРАНСФОРМАЦИЯ -- *рытму ўзрушання трансфармацыя:* здольнасць нейронаў змяняць рытм імпульсаў, якія да іх паступаюць.

РОГОВИЦА -- *празарока (рагавіца):* пярэдняя празрыстая частка вонкавай абалонкі вока (працяг склеры).

РОДОПСИН (ЗРИТЕЛЬНЫЙ ПУРПУР) -- *радапсін (зрокавы пурпур):* пігмент палачак сеткавіцы чалавека і жывёл.

САМОРЕГУЛЯЦИЯ -- *самарэгуляцыя:* аўтаматычная здольнасць арганізма падтрымліваць жыццёвававажныя канстанты арганізма на адносна пастаянным узроўні за кошт селекцыйнай мабілізацыі асобных частак адпаведнай функцыянальнай сістэмы.

САРКОМЕР -- *саркзмер:* структурны і функцыянальны элемент міяфібрылы, абмежаваны суседнімі цёмнымі лініямі (мембранамі Z).

САРКОПЛАЗМАТИЧЕСКИЙ РЕТИКУЛУМ -- *саркаплазматычны рэтыкулум:* нутрыклетачная транспартная сістэма, якая звязвае арганоіды клеткі. Складаецца з сеткі падоўжаных і папярочных пальчыкаў і цыстэрнаў, абмежаваных мембранамі, якія ахопліваюць міяфібрылы.

СВОБОДНЫЕ НЕРВНЫЕ ОКОНЧАНИЯ -- *свабодныя нервовыя канчаткі:* разгалінаванні дэндрытаў сэнсарных нейронаў, якія страцілі міялін і знаходзяцца паміж клеткамі эпітэлію ў эпідэрмісе.

СВЁРТЫВАНИЕ КРОВИ -- *згусанне крыві:* абарончая рэакцыя арганізма, якая забяспечвае ператварэнне вадкай крыві ў эластычны згустак у выніку пераходу раствoранага ў плазме крыві фібрынагену ў нерастваральны фібрын.

СЕКРЕЦИЯ -- *сакрэцыя:* утварэнне і вывад рэчываў з клеткі.

СЕКРЕЦИЯ ВНЕШНЯЯ -- *сакрэцыя вонкавая:* утварэнне спецыфічных рэчываў (сокі, сліз) залозамі і іх выдзяленне ў вывадныя пратокі.

Да іх адносяцца стрававальныя, слінявыя, потавыя, малочныя, тлушчавыя залозы, а таксама залозы слізніц абалонак насавай дыхніцы, трахеі і інш.

СЕКРЕЦИЯ ВНУТРЕННЯЯ -- *сакрэцыя нутраная:* выдзяленне клеткамі эндакрынных залоз біялагічна актыўных рэчываў непасрэдна ў кроў ці ў лімфу.

СЕНСОРНЫЕ ПОЛЯ -- *сэнсарныя палі:* картыкальныя палі, у якіх праекуюцца рэцэпцыйныя аддзелы сэнсарных сістэм.

СЕРДЕЧНО-ЛЁГОЧНЫЙ ПРЕПАРАТ -- *сардэчна-лёгачны прэпарат:* мадэль ізаляванага сэрца, якую распрацавалі І.П.Паўлаў і А.С.Чыстовіч і якую мадыфікаваў Э.Старлінг. Складаецца з сэрца і штучна перфузаваных лёгкіх.

СЕРДЕЧНО-СОСУДИСТАЯ СИСТЕМА -- *сардэчна-судзінная сістэма:* сукупнасць органаў (сэрца і крывяносныя судзіны), якія забяспечваюць абег (цыркуляцыю) крыві.

СЕРДЕЧНЫЙ ИНДЕКС (МИНУТНЫЙ ИНДЕКС) -- *сардэчны індэкс (хвілінны індэкс):* паказчык помпавай функцыі сэрца.

СЕРДЕЧНЫЙ ТОЛЧОК -- *сардэчны штуршок:* калыханне ўчастка груднай клеткі ў вобласці пятага міжрабрыння, сінхроннае рытму сардэчных скарачэнняў.

СЕРДЕЧНЫЙ ЦИКЛ -- *сардэчны цыкл:* сукупнасць электрычных, біяхімічных і механічных працэсаў, што адбываюцца ў перыяд, які ахоплівае адно скарачэнне і паслабленне сэрца.

СЕРДЦА ВОДИТЕЛЬ РИТМА -- *сэрца рытмаводца:* участак атыпічнай тканкі сэрца (сінаатрыяльны вузел), дзе ўзнікаюць нервовыя імпульсы.

СЕРДЦА НЕРВ УСИЛИВАЮЩИЙ -- *сэрца нерв узмацняльны:* адгалінаванне сімпатычнага нерва, пры пацьвяленні якога ўзмацняюцца сардэчныя скарачэнні.

СЕРДЦА НЕРВ УСКОРЯЮЩИЙ -- *сэрца нерв прыспешвальны:* адгалінаванне сімпатычнага нерва, пры пацьвяленні якога павялічваецца частасць сардэчных скарачэнняў.

СЕРДЦЕ -- *сэрца:* парожні чатырохкамеравы цэнтральны орган сістэмы кровазвароту. Забяспечвае рытмічны нагнет крыві ў артэрыяльную сістэму.

СЕРОТОНИН -- *серататнін:* біялагічна актыўнае рэчыва, якое валодае множным фізіялагічным дзеяннем і з'яўляецца медыятарам нервовай сістэмы.

СЕТЧАТКА -- *сеткавіца:* перыферыйны аддзел зрокавай сістэмы,

у які ўваходзяць пігменты, эпітэлій, пласт палачак і глячкоў.

СЕТЧАТКИ ЦЕНТРАЛЬНАЯ ЯМКА -- *сеткавіцы цэнтральная ямінка:* паглыбленне ў цэнтры жоўтай плямы, якая ўтрымлівае найбольшую колькасць фотарэцэптараў.

СЕЧЕНОВСКОЕ ТОРМОЖЕНИЕ -- *Сечанаўскае тармажэнне:* фенамен, які адкрыў І.М.Сечанаў (1862). Праяўляецца ў тармажэнні спінна-мазгавых рэфлексаў пры хімічным пацьвяленні пэўных аддзелаў галаўных мазгоў.

СИМПАТИЧЕСКАЯ ЧАСТЬ ВЕГЕТАТИВНОЙ НЕРВНОЙ СИСТЕМЫ (СИМПАТИЧЕСКАЯ НЕРВНАЯ СИСТЕМА) -- *сімпацыйная частка вегетацыйнай нервовай сістэмы (сімпацыйная нервовая сістэма):* частка вегетацыйнай нервовай сістэмы, цэнтр якой размешчаны ў бакавых рагах шэрага рэчыва спінных мазгоў. Стымулюе сардэчна-судзінную і дыхальную сістэмы, прыгнятае сакрэцыю страўніка-кішэчнага тракту.

СИНАПС -- *сінапс:* спецыялізаванае ўтварэнне, якое забяспечвае функцыянальныя кантакты, перадачу ўзрушання з канчатка аднаго нейрона на другі або на рабочы орган.

СИНАПС АДРЕНЕРГИЧЕСКИЙ -- *сінапс адрэнергічны:* сінапс, медыятарам якога з'яўляецца норадрэналін.

СИНАПС АКСО-АКСОНАЛЬНЫЙ -- *сінапс акса-аксанальны:* сінапс паміж двума аксонамі нейронаў, утвараецца па ходу аксона ў вобласці перасмыкаў Ранв'е.

СИНАПС АКСОВАЗАЛЬНЫЙ -- *сінапс аксавазальны:* сінапс, утвораны тэрміналямі аксона нейрасакрацыйнай клеткі і капіляраў.

СИНАПС АКСОДЕНДРИТИЧЕСКИЙ -- *сінапс аксадэндрытычны:* сінапс паміж аксонам аднаго нейрона і дэндрытам другога.

СИНАПС АКСОСОМАТИЧЕСКИЙ -- *сінапс аксасаматычны:* сінапс паміж аксонам аднаго нейрона і целам другога.

СИНАПС ВОЗБУЖДАЮЩИЙ -- *сінапс узрушвальны:* сінапс, які ўзрушвае постсінаптычную мембрану.

СИНАПС ДЕНДРО-ДЕНДРИТИЧЕСКИЙ -- *сінапс дэндра-дэндрытычны:* сінапс паміж дэндрытамі двух або некалькіх нейронаў.

СИНАПС НЕЙРОСЕКРЕТОРНЫЙ -- *сінапс нейрасакрацыйны:* сінапс паміж нервам і знаакрыннай або эндакрыннай залозай.

СИНАПС НЕРВНО-МЫШЕЧНЫЙ (АППАРАТ НЕРВНО-МЫШЕЧНЫЙ) -- *сінапс нервова-мускульны (апарат нервова-мускульны):* сінапс паміж аксонам мотанейрона і шкілетным мускульным валакном.

СИНАПС ТОРМОЗНОЙ -- *сінапс тармазны:* сінапс, які выклікае тармажэнне.

СИНАПС ХИМИЧЕСКИЙ -- *сінапс хімічны:* сінапс, у якім узрушанне ад перад- да паслясінаптычнай мембраны перадаецца пры дапамозе медыятара,

СИНАПС ХОЛИНЕРГИЧЕСКИЙ -- *сінапс халінергічны:* сінапс, медыятарам у якога з'яўляецца ацэтылхалін.

СИНАПС ЭЛЕКТРИЧЕСКИЙ -- *сінапс электрычны:* сінапс, у якім узрушанне перадаецца ад прэсінаптычнай мембраны да постсінаптычнай электрычным шляхам без удзелу медыятара.

СИНАПТИЧЕСКАЯ ЗАДЕРЖКА -- *сінаптычная затрымка:* прамежак часу, на працягу якога затрымліваецца распаўсюджванне ўзрушання з прэсінаптычнага канчатка да постсінаптычнай мембраны, што выклікаецца працягласцю выдзялення медыятара, яго дыфузіяй па сінаптычнай шчыліне і ўздзеяннем на постсінаптычную мембрану.

СИНАПТИЧЕСКАЯ ПЕРЕДАЧА -- *сінаптычная перадача:* распаўсюджванне ўзрушання праз сінапс.

СИНАПТИЧЕСКАЯ ЩЕЛЬ -- *сінаптычная шчыліна:* прастора паміж прэсінаптычнай і постсінаптычнай мембранамі, праз якую медыятар перадаецца ад прэ- да постсінаптычнай мембраны.

СИНТЕЗ АФФЕРЕНТНЫЙ -- *сінтэз аферэнтны:* працэс інтэграцыі ў ЦНС, адбору і аналізу розных па функцыянальных прыкметах аферэнтных імпульсаў у адпаведнасці з патрэбай арганізма, на аснове чаго фармуецца мэта дзеяння.

СИНТЕЗ ЭФФЕРЕНТНЫЙ -- *сінтэз эферэнтны:* стадыя функцыянальнай сістэмы, якая ўзнікае пасля стадыі прыняцця рашэння; уяўляе сабой комплекс узрушанняў, які заканчваецца дзеяннем.

СИНУСНО-ПРЕДСЕРДНЫЙ (СИНОАУРИКУЛЯРНЫЙ УЗЕЛ, КИСА-ФЛЕКА УЗЕЛ) -- *сінусна-прысенневы вузел (сінаўрыкулярны вузел, Кіса-Флека вузел):* морфа-функцыянальнае ўтварэнне, якое знаходзіцца на задняй сценцы правага прысення ў месцы ўпадзення верхняй парожняй вены і выконвае ролю вядучага цэнтра аўтаматыі сэрца.

СИСТЕМА ЛИМБИЧЕСКАЯ -- *сістэма лімбічная:* сістэма, якая аб'ядноўвае гіпакамп, грушападобную дзелю, поясную звіліну, міндалепадобны комплекс, ядры таламуса, гіпаталамуса, лімбічную частку сярэдняга мозгу. Л.с. адказвае за вегетацыйныя функцыі, эмоцыі, матывацыі, інстынкты.

СИСТЕМА ЛИМФАТИЧЕСКАЯ -- *сістэма лімфатычная:* сістэма, у якую ўваходзяць лімфатычныя судзіны і лімфатычныя вузлы.

СИСТЕМА СЕНСОРНАЯ -- *сістэма сэнсарная:* сукупнасць вызначаных структураў ЦНС, звязаных нервовымі шляхамі з рэцэптарным апа-

ратам, дае іх функцыяй з'яўляецца аналіз пацьвяляльнікаў адной фізічнай прыроды.

СИСТЕМА ФУНКЦИОНАЛЬНАЯ -- *сістэма функцыянальная:* шырокае функцыянальнае аб'яднанне па-рознаму лакалізаваных структураў, якія садзейнічаюць дасягненню канчатковага прыстасавальнага эфекту, неабходнага ў пэўны момант (функцыянальная сістэма дыхання, крывяного ціску, перамяшчання цела ў прасторы).

СИСТЕМА ЭКСТРАПИРАМИДНАЯ -- *сістэма экстрапірамідная:* сукупнасць утварэнняў галаўных мазгоў, якая каардынуе рухальную актыўнасць, мускульны тонус, эмацыянальныя праяўленні. У яе склад уваходзяць нейроны пэўных шкарупавых структураў, надшкарупных ядраў, рэтыкулярнай фармацыі, гіпаталамуса, сярэдняга мозгу і мозачкаў.

СКОЛЬЖЕНИЯ НИТЕЙ ТЕОРИЯ -- *слізгання нітак тэорыя:* у аснове мускульнага скарачэння ляжыць слізганне актынавых нітак уздоўж міязінавых. Скарачэнню мускула папярэднічае выдзяленне медыятара, які выклікае шэраг паслядоўных біяхімічных рэакцыяў, у выніку якіх расшчапляецца АТФ з выдзяленнем энергіі, якая выкарыстоўваецца пры слізганні мускульных бялковых нітак.

СКОРОСТЬ ОСЕДАНИЯ ЭРИТРОЦИТОВ (СОЭ) -- *хуткасць ападання эрытрацытаў (ХАЭ):* вышыня неафарбаванага слупка плазмы крыві ў выніку ападання эрытрацытаў. Вымяраецца ў мм/гадз.

СЛЕДОВОЙ ПОТЕНЦИАЛ -- *следавы патэнцыял:* марудная змяненне мембраннага патэнцыялу адносна зыходнага патэнцыялу спакою пасля заканчэння патэнцыялу дзеяння. Следавы патэнцыял бывае станоўчым і адмоўным.

СЛЕДОВЫЕ УСЛОВНЫЕ РЕФЛЕКСЫ -- *следавыя ўмоўныя рэфлексы:* умоўныя рэфлексы, пры выпрацоўцы якіх умоўны пацьвяляльнік і падмацаванне аддзяляюцца адзін ад аднаго доўгім інтэрвалам часу.

СЛЕПОЕ ПЯТНО -- *сляпая пляма:* месца выхаду зрокавага нерва з вока. Не мае фотарэцэптараў і таму нячуйная да святла.

СЛУХОВЫЕ КОСТОЧКИ -- *слыхавыя костачкі:* тры паслядоўна злучаныя костачкі (малаточак, кавадлачка і стрэмяно), якія знаходзяцца ў сярэднім вуху і выконваюць функцыю праводу гуку.

СЛУХОВЫЕ РЕЦЕПТОРЫ -- *слыхавыя рэцэптары:* рэцэптары, лакалізаваныя ў кортыевым органе нутранога вуха, якія ўспрымаюць акустычныя пацьвяленні.

СЛЮНООТДЕЛИТЕЛЬНЫЙ ЦЕНТР -- *слінавылучальны цэнтр:* сукупнасць нейронаў падоўжанага мозгу, гіпаталамуса і шкарупы галаўных

мазгоў, якія рэгулююць працэсы слінавылучэння.

СНОВИДЕНИЯ -- *снабачэнні:* суб'ектыўна перажываныя псіхічныя з'явы ў час натуральнага сну.

СОЗНАНИЕ -- *свядомасць:* сукупнасць псіхічных працэсаў, якія забяспечваюць успрыманне і разуменне акаляючай рэчаіснасці.

СОК КИШЕЧНЫЙ -- *кішачны сок:* сакрэт залоз тонкай і тоўстай кішак.

СОКРАТИМОСТЬ -- *скарачальнасць:* здольнасць мускульных валокнаў скарачацца або змяняць сваё напружанне.

СОКРАЩЕНИЕ -- *скарачэнне:* змяншэнне даўжыні або напружанасці мускульных валокнаў, якія ўтвараюць мускул.

СОКРАЩЕНИЕ ИЗОМЕТРИЧЕСКОЕ -- *скарачэнне ізаметрычнае:* скарачэнне, пры якім даўжыня мускульных валокнаў застаецца нязменнай, а напружанне павялічваецца.

СОКРАЩЕНИЕ ИЗОТОНИЧЕСКОЕ -- *скарачэнне ізатанічнае:* скарачэнне, пры якім мускульныя валокны скарачаюцца і патаўшчаюцца, а іх напружанне не змяняецца.

СОН -- *сон:* фізіялагічны стан, які прыходзіць на змену бадзёрасці і характарызуецца ў чалавека адсутнасцю свядомасці. Сон з'яўляецца адначасова працай і адпачынкам для нервовай сістэмы і ўсяго арганізма.

СОСУДОДВИГАТЕЛЬНЫЙ ЦЕНТР -- *судзіннарухальны цэнтр:* цэнтр, які знаходзіцца ў падоўжаным мазгу і рэгулюе прагал крывяносных судзінаў.

СОСУДЫ -- *судзіны:* парожнія трубкі, па якіх рухаецца кроў або лімфа. Адрозніваюць артэрыёлы, капіляры, венулы, вены.

СОСУДЫ ШУНТИРУЮЩИЕ КРОВЕНОСНЫЕ -- *судзіны шунтавальныя крывяносныя:* анастамозы, якія злучаюць між сабою артэрыёлы і венулы, артэрыі і вены.

СПИРОМЕТРИЯ -- *спіраметрыя:* метад вызначэння жыццевай ёмістасці лёгкіх.

СТАННИУСА ОПЫТ -- *Станіуса эксперымент:* паслядоўнае накладанне трох лігатураў на ізаляванае сэрца жабы на мяжы венознага сінусу і прысення, прысення і шлуначка і на верхавіну сэрца. Эксперымент даказвае існаванне градыента аўтаматыі.

СТАРЛИНГА ЗАКОН (ЗАКОН СЕРДЦА) -- *Старлінга закон (закон сэрца):* фізіялагічны закон, у адпаведнасці з якім сіла скарачэнняў валокнаў міякарда прапарцыянальна першапачатковай велічыні іх расцяжэння.

СТАТИНЫ -- *статыны:* гіпаталамічныя фактары, якія тармозяць сакрэцыю гармонаў гіпофіза.

СТЕРЕОТИП ДИНАМИЧЕСКИЙ -- *стэрэатып дынамічны:* адносна ўстойлівая сістэма ўмоўных рэфлексаў, якія ўзнікаюць у адказ на дзеянне сістэмы пацьвяляльнікаў і паўтараюцца ў пэўнай паслядоўнасці.

СТРЕСС -- *стрэс:* агульная неспецыфічная нейрагарманальная рэакцыя арганізма на дзеянне экстрэмальных фактараў, скіраваная на адаптацыю арганізма.

ТАКТИЛЬНОГО ВОСПРИЯТИЯ ТЕОРИЯ -- *тактыльнага ўспрымання тэорыя:* існуе некалькі тэорый паходжання тактыльнага ўспрымання. Тэорыя спецыфічнай энергіі Мюлера сцвярджае, што характар рэакцыі ў адказ вызначаецца не пацьвяляльнікамі, а рэцэптарам або органам пачуццяў, які ўтрымлівае спецыфічную, уласцівую толькі яму энергію, якая выззваляецца пры дзеянні пацьвяляльніка і перадаецца ў ЦНС. Існуе тэорыя наяўнасці спецыфічных і неспецыфічных рэцэптараў. Сучасная тэорыя лічыць, што шматлікія пацьвяляльнікі незалежна ад спецыфікі рэцэптара выклікаюць серыю аферэнтных нервовых імпульсаў, прасторавае і тэрміновае размеркаванне якіх абумоўлівае розныя адчуванні.

ТАЛАМИЧЕСКИЕ ПУТИ НЕСПЕЦИФИЧЕСКИЕ И СПЕЦИФИЧЕСКИЕ -- *таламічныя шляхі неспецыфічныя і спецыфічныя:* таламічныя шляхі неспецыфічныя - шляхі таламa-шкарупавай сістэмы, якія праводзяць аферэнтныя імпульсы без пэўнай мадальнасці на клеткі ўсіх пластоў шкарупы, што аблягчае або затрымлівае сінаптычную перадачу; таламічныя шляхі спецыфічныя - шляхі, якія праводзяць імпульсы пэўнай мадальнасці на клеткі чацвёртага пласта шкарупы мозгу, што забяспечвае хуткія і дакладныя адказы.

ТАЛАМУС (ЗРИТЕЛЬНЫЙ БУГОР) -- *таламус (зрочны груд):* група ядраў прамежкавага мозгу, да якіх ідуць сенсарныя шляхі, у якіх фармуюцца прымітыўныя адчуванні.

ТАХИКАРДИЯ -- *тахікардыя:* павелічэнне частасці сардэчных скарачэнняў.

ТЕКТОРИАЛЬНАЯ МЕМБРАНА -- *тэктарыяльная мембрана:* тонкі пласток, які знаходзіцца ў сярэднім праходзе скрутка над валасковымі клеткамі.

ТЕЛЕЭЛЕКТРОКАРДИОГРАФИЯ -- *тэлеэлектракардыяграфія:* метад рэгістрацыі ЭКГ на адлегласці з дапамогай радыёсувязі.

ТЕЛО СТЕКЛОВИДНОЕ -- *цела шклістае:* празрыстая гелявaтая ма-

са, якая запаўняе задні аддзел паражніны вока і садзейнічае захаванню яго формы, падтрымлівае нутрывочны ціск. Адносіцца да заламляльнай сістэмы вока.

ТЕМПЕРАМЕНТ -- *тэмперамент:* сукупнасць індывідуальных асаблівасцяў эмацыянальных рэакцый і валявой дзейнасці чалавека.

ТЕМПЕРАМЕНТ МЕЛАНХОЛИЧЕСКИЙ -- *тэмперамент меланхалічны (смутны, сумны):* характарызуецца перавагай тужлівага настрою, няўпэўненасцю і нерашучасцю.

ТЕМПЕРАМЕНТ САНГВИНИЧЕСКИЙ -- *тэмперамент сангвінічны (запальчывы):* характарызуецца раўнавагай эмацыянальных рэакцыяў і ўзважанасцю валявых праяўленняў.

ТЕМПЕРАМЕНТ ФЛЕГМАТИЧЕСКИЙ -- *тэмперамент флегматычны:* характарызуецца запаволенасцю эмацыянальных рэакцыяў і валявых дзеянняў.

ТЕМПЕРАМЕНТ ХОЛЕРИЧЕСКИЙ -- *тэмперамент халярычны (запальны):* характарызуецца павышанай ўзрушлівасцю рэакцыяў, бурнымі пачуццямі і валявымі праяўленнямі.

ТЕМПЕРАТУРА ТЕЛА -- *тэмпература цела:* інтэгральны паказчык цеплавога стану чалавека, які вызначае суадносіны прадукцыі і аддання цяпла ў акаляючае асяроддзе.

ТЕПЛООТДАЧА -- *цеплааддание:* вылучэнне арганізмам цяпла ў наваколле, якое ажыццяўляецца шляхам выпарэння, канвекцыі, цеплавыпраменьвання.

ТЕПЛОПРОДУКЦИЯ -- *цеплапрадукцыя (цеплавыпрацоўка):* выпрацоўка цяпла ў арганізме за кошт абменных працэсаў, якія абумоўлены працай мускулаў, працэсамі стрававання і дыхання.

ТЕРМОРЕГУЛЯЦИЯ -- *тэрмарэгуляцыя:* складаная нейрагумаральная рэгуляцыя, якая падтрымлівае тэмпературу цела на адносна пастаянным узроўні за кошт раўнавагі цеплапрадукцыі і цеплааддання.

ТЕРМОРЕЦЕПТОРЫ -- *тэрмарэцэптары:* рэцэптары для ўспрымання тэмпературы вонкавага і нутранага асяроддзя.

ТЕТА-РИТМ -- *тэта-рытм:* рытмічнае калыханне біяпатэнцыялаў мозгу з частатой 4-8 Гц і амплітудай 100-150 мкВ - пераважна рытм ЭЭГ у здаровых дзетак ва ўзросце 2-8 гадоў.

ТЕТАНУС -- *тэтанус:* моцнае і працяглае скарачэнне мускула, якое ідзе ў адказ на высокачастотныя пацьвяленні. Тэтанус бывае гладкі (суцэльны), пры якім адсутнічае частковае паслабленне, і зубчасты (няпоўны), у якім выяўляюцца перыяды паслаблення, што вядуць да новага скарачэння.

ТИП ВНД МЫСЛИТЕЛЬНЫЙ -- *тып ВНДа аналітычны (мыслевы):* характарызуецца пераватай другой сігнальнай сістэмы, схільнасцю да аналізу, сінтэзу сігналаў нутранага і вонкавага асяроддзя.

ТИП ВНД СИЛЬНЫЙ, НЕУРАВНОВЕШЕННЫЙ -- *тып ВНДа моцны, неўраўнаважаны:* характарызуецца вялікай сілай, рухавасцю і неўраўнаважанасцю працэсаў узрушання і тармажэння ў шкарупе галаўных маагоў.

ТИП ВНД СИЛЬНЫЙ, УРАВНОВЕШЕННЫЙ, ИНЕРТНЫЙ -- *тып ВНДа моцны, ураўнаважаны, інертны:* характарызуецца вялікай сілай, ураўнаважанасцю і малай рухавасцю працэсаў узрушання і тармажэння ў шкарупе галаўных маагоў.

ТИП ВНД СИЛЬНЫЙ, УРАВНОВЕШЕННЫЙ, ПОДВИЖНЫЙ -- *тып ВНДа моцны, ураўнаважаны, рухавы:* характарызуецца вялікай сілай, ураўнаважанасцю і высокай рухавасцю асноўных нервовых працэсаў.

ТИП ВНД СЛАБЫЙ -- *тып ВНДа слабы (кволы):* характарызуецца слабасцю нервовых працэсаў.

ТИП ВНД СРЕДНИЙ -- *тып ВНДа сярэдні:* характарызуецца ўраўнаважанасцю сігнальных сістэм.

ТИП ВНД ХУДОЖЕСТВЕННЫЙ -- *тып ВНДа мастацкі:* характарызуецца пераватай першай сігнальнай сістэмы, здольнасцю непасрэднага ўспрымання рэчаіснасці і адносна слабай схільнасцю да аналізу і сінтэзу.

ТИП ВЫСШЕЙ НЕРВНОЙ ДЕЯТЕЛЬНОСТИ (ВНД) -- *тып вышэйшай нервовай дзейнасці (ВНДа):* сукупнасць асноўных уласцівасцяў нервовай сістэмы, якія вызначаюцца спадчыннасцю і ўплывам вонкавага асяроддзя. Асноўнымі паказчыкамі пры вызначэнні тыпу ВНДа з'яўляюцца сіла, раўнавага і рухомасць працэсаў узрушання і тармажэння.

ТОНУС -- *тонус:* стан некаторага ўзрушання нервовых цэнтраў і мускулаў.

ТОРМОЖЕНИЕ -- *тармажэнне:* актыўны нервовы працэс процілеглы ўзрушанню.

ТОРМОЖЕНИЕ АНТИДРОМНОЕ (ВОЗВРАТНОЕ) -- *тармажэнне антыдромнае (зваротнае):* працэс рэгуляцыі нервовымі клеткамі велічыні нервовых імпульсаў, што трапляюць да іх.

ТОРМОЖЕНИЕ БЕЗУСЛОВНОЕ -- *тармажэнне безумоўнае:* тармажэнне ўмоўнага рэфлексу, якое ўзнікае пры ўздзеянні любога безумоўнага пацьвялялыніка.

ТОРМОЖЕНИЕ ВНУТРЕННЕЕ (УСЛОВНОЕ) -- *тармажэнне нутранае (умоўнае):* тармажэнне ўмоўнага рэфлексу, якое ўзнікае ў межах яго

сістэмы.

ТОРМОЖЕНИЕ ГАСНУЩЕЕ -- *тармажэнне гаслае:* аслабленне тармазнога дзеяння рабочнага пацьвяляльніка на ўмоўныя рэфлексы пры шматразовым яго паўтарэнні, пры адсутнасці падмацавання безумоўным пацьвяляльнікам.

ТОРМОЖЕНИЕ ДИФФЕРЕНЦИРОВОЧНОЕ -- *тармажэнне дыферэнцыйнае:* від нутранага тармажэння, якое развіваецца ў выніку непадмацавання пацьвяляльнікаў блізкіх да падмацаваных.

ТОРМОЖЕНИЕ ЗАПАЗДЫВАЮЩЕЕ -- *тармажэнне спазняльнае:* тармажэнне, якое выпрацоўваецца шляхам адставання (спазнення) падмацавання ад пачатку дзеяння станоўчага ўмоўнага пацьвяляльніка.

ТОРМОЖЕНИЕ ЗАПРЕДЕЛЬНОЕ (ОХРАНИТЕЛЬНОЕ) -- *тармажэнне загранічнае (ахоўнае):* тармажэнне, якое ўзнікае пры дзеянні ўмоўнага пацьвяляльніка празмерна павялічанай сілы або ў выніку працяглых пацьвяленняў.

ТОРМОЖЕНИЕ КОРКОВОЕ -- *тармажэнне шкарупнае:* нервовы працэс у клетках шкарупы, які ў суадносінах з узрушаннем вызначае характар рэакцыі ў адказ.

ТОРМОЖЕНИЕ ЛАТЕРАЛЬНОЕ -- *тармажэнне латэральнае:* тармажэнне нейронаў, якія знаходзяцца побач з узрушанымі нейронамі.

ТОРМОЖЕНИЕ ПЕССИМАЛЬНОЕ -- *тармажэнне песімальнае:* тармажэнне, якое ўзнікае ва ўзрушвальных сінапсах пры перавышэнні аптымальнай частасці пацьвялення і суправаджаецца дэпалярызацыяй постсінаптычнай мембраны.

ТОРМОЖЕНИЕ ПОСТСИНАПТИЧЕСКОЕ -- *тармажэнне постсінаптычнае:* тармажэнне, абумоўленае генерацыяй постсінаптычнай мембраны і тармазнога постсінаптычнага патэнцыялу (ТПСП) у выніку складаных змен іоннай праводнасці постсінаптычнай мембраны.

ТОРМОЖЕНИЕ ПРЕСИНАПТИЧЕСКОЕ -- *тармажэнне прэсінаптычнае:* тармажэнне, якое развіваецца ў прэсінаптычным звяне шляхам прыгнятання працэсу вызвалення медыятара ўзрушвальнымі нервовымі канчаткамі.

ТОРМОЖЕНИЕ РЕЦИПРОКНОЕ -- *тармажэнне рэцыпрокнае:* тармажэнне адной групы нервовых клетак і ўзрушэнне другой групы пры ўдзеле адзіных аферэнтных шляхоў.

ТОРМОЖЕНИЕ УГАСАТЕЛЬНОЕ -- *тармажэнне згасальнае:* тармажэнне ўмоўнага рэфлексу пры прымяненні ўмоўнага пацьвяляльніка без падмацавання.

ТОРМОЗ УСЛОВНЫЙ -- *тормаз умоўны:* дадатковы пацьвяляльнік,

які выкарыстоўваецца ў спалучэнні з умоўным без падмацавання і выклікае тармажэнне ўмоўнага рэфлексу.

ТОРМОЗНОЙ ПОСТСИНАПТИЧЕСКИЙ ПОТЕНЦИАЛ (ТПСП) -- *тармазны постсінаптычны патэнцыял (ТПСП):* патэнцыял, які ўзнікае ў выніку гіперпалярызацыі постсінаптычнай мембраны, выкліканай дзеяннем тармазнога медыятара.

ТОРМОЗНЫЕ НЕЙРОНЫ -- *тармазныя нейроны:* нейроны, у якіх вырацоўваецца тармазны медыятар з далейшай гіперпалярызацыяй постсінаптычнай мембраны.

ТРИПСИН -- *трыпсін:* протэалітычны фермент падстраўніцы, які каталізуе распад бялкоў і пептыдаў.

ТРОМБИН (ТРОМБАЗА, ФИБРИН-ФЕРМЕНТ) -- *трамбін (трамбаза, фібрын-фермент):* фермент, які паскарае ператварэнне растваральнага ў крыві бялка фібрынагену ў нерастваральны фібрын.

ТРОМБОЦИТ (КРОВЯНАЯ ПЛАСТИНКА) -- *трамбацыт (крывяны пласток):* без'ядзерны элемент крыві.

УЛИТКА -- *завіток, скрутак:* частка нутранога вуха, якая мае 2,50-2,75 скруткі і з'яўляецца месцам знаходжання кортыева органа.

УСВОЯЕМОСТЬ ПИЩЕВЫХ ВЕЩЕСТВ -- *засваяльнасць спажыўных рэчываў:* частка спажыўных рэчываў, ужытых арганізмам.

УТОМЛЕНИЕ -- *стома, змора:* часовы стан органа або цэлага арганізма, які характарызуецца зніжэннем яго працаздольнасці ў выніку працяглай або празмернай нагрузкі.

УХО ВНУТРЕННЕЕ -- *вуха нутранае:* марфалагічнае ўтварэнне, у якім размешчаны рэцэптары двух аналізатараў: вестыбулярнага (прысенне і паўкружныя каналы) і слыхавога (скрутак з кортыевым органам).

УХО СРЕДНЕЕ -- *вуха сярэдняе:* частка слыхавай сістэмы, якая ўключае тры злучаныя між сабою костачкі для забеспячэння перадачы гукавых хваляў ад вонкавага вуха да нутранога вуха.

ФАЗА -- *фаза:* перыяд у развіцці якога-небудзь працэсу.

ФЕРМЕНТ(-Ы) (БИОКАТАЛИЗАТОР, ЭНЗИМ) -- *фермент(-ы) (біякаталізатар, энзім):* біялагічныя каталізатары бялковай прыроды, якія ажыццяўляюць пераўтварэнні рэчываў у арганізме, кіруючы і рэгулюючы абмен.

ФЕРМЕНТЫ ПАНКРЕАТИЧЕСКИЕ -- *ферменты панкрэатычныя:* ферменты, якія сінтэзуюцца падстраўніцай. Важнейшымі з іх з'яўляюцца трыпсін, хіматрыпсін, карбоксіпептыдаза, ліпаза, амілаза.

ФЕРМЕНТЫ ПИЩЕВАРИТЕЛЬНЫЕ -- *ферменты стрававальныя:* ферменты, якія выпрацоўваюцца залозамі стрававальнай сістэмы і каталізуюць распад бялкоў, тлушчоў і вугляводаў.

ФИБРИН -- *фібрын:* бялок, які не раствараецца ў вадзе.

ФИБРИНОГЕН -- *фібрынаген:* растваральны бялок крыві, які ператвараецца ў фібрын пад уплывам трамбіна.

ФИЗИОЛОГИЧЕСКИЙ ИДЕАЛИЗМ -- *фізіялагічны ідэалізм:* вучэнне, якое сцвярджае, што адчуванні не адлюстроўваюць аб'ектыўную карціну свету, а з'яўляюцца сімваламі, якія вызначаюцца станам і асаблівасцямі органаў пачуццяў.

ФИЗИОЛОГИЯ -- *фізіялогія:* навука аб функцыях цэлага арганізма і асобных яго частак, аб працэсах у іх і механізмах дзейнасці.

ФИЗИОЛОГИЯ ВОЗРАСТНАЯ -- *фізіялогія ўзроставая:* раздзел фізіялогіі, які вывучае заканамернасці станаўлення і развіцця фізіялагічных функцыяў арганізма на працягу яго жыццёвага шляху ад апладнення да канца жыцця.

ФИЗИОЛОГИЯ ОБЩАЯ -- *фізіялогія агульная:* вывучае фізіялагічныя функцыі, уласцівыя ўсім жывым арганізмам, заканамернасці метабалізму, праблемы росту, старэння і смерці.

ФИЗИОЛОГИЯ СРАВНИТЕЛЬНАЯ -- *фізіялогія параўнальная:* навука аб параўнальным вывучэнні функцыяў арганізмаў, якія належаць да розных відаў, на працягу іх развіцця.

ФИЗИОЛОГИЯ ЧАСТНАЯ -- *фізіялогія прыватная:* навука аб асаблівасцях функцыяў асобных органаў і сістэмаў, розных сістэматычных груп жывёлаў.

ФИЗИОЛОГИЯ ЭВОЛЮЦИОННАЯ -- *фізіялогія эвалюцыйная:* раздзел фізіялогіі, які вывучае заканамернасці развіцця функцыяў у філагенезе.

ФИЛЬТРАЦИЯ КЛУБОЧКОВАЯ (ФИЛЬТРАЦИЯ ГЛОМЕРУЛЯРНАЯ) -- *фільтрацыя клубочкавая (фільтрацыя гламерулярная):* фільтрацыя крыві праз сценку капіляраў клубочка ныркі ў паражніну яго капсулы, што прыводзіць да ўтварэння першаснай мачы.

ФИСТУЛА ЭКСПЕРИМЕНТАЛЬНАЯ -- *фістула эксперыментальная:* эксперыментальнае злучэнне паражніны органа або пратокі залозы з паверхняй цела.

ФОТОРЕЦЕПТОР (-Ы) -- *фотарэцэптар (-ы):* рэцэптары, якія ўспрымаюць зрокавыя пацьвяляльнікі (палачкі і глячкі).

ФУНКЦИЯ -- *функцыя:* спецыфічнае праяўленне ўласцівасцяў клетак, тканак, органаў і іх сістэмаў.

ХЕМОРЕФЛЕКСЫ СОСУДИСТЫЕ -- *хемарэфлексы судзінныя:* рэфлексы з судзінных хемарэцэптараў на сістэму кровазвароту і дыхання пры зменах газавага складу крыві.

ХЕМОРЕЦЕПТОР (-Ы) -- *хемарэцэптар (-ы):* рэцэптары, якія ўзрушваюцца хімічнымі рэчывамі.

ХИМОТРИПСИН -- *хіматрыпсін:* проатэалітычны фермент падстраўніцы, які сінтэзуецца ў неактыўнай форме ў выглядзе хіматрыпсінагену і актывізуецца трыпсінам.

ХИМУС -- *хімус:* змесціва страўніка, кішачніку, якое ўяўляе сумесь прадуктаў пераатраўлення ежы, стрававальных сокаў, сліву, адарваных клетак, мікраарганізмаў.

ХОЛИНОРЕЦЕПТОР (-Ы) -- *халінарэцэптар (-ы):* рэцэптары, чулівыя да ацэтылхаліну.

ХОРЕЯ -- *харэя:* моцныя хаатычныя рухі мускулатуры пры пашкоджанні паласатага цела мозгу.

ХРОНАКСИЯ -- *хранаксія:* мінімальны час дзеяння на тканку пацьвяляльніка з падвоенай гранічнай сілай, дастатковай для ўзнікнення ўзрушання.

ХРУСТАЛИК -- *крышталік:* празрыстае двоякавыпуклае цела вока, якое заломляе светавыя праменні і факусуе іх.

ЦЕНТР (-Ы) НЕРВНОЙ СИСТЕМЫ -- *цэнтр (-ы) нервовай сістэмы:* сукупнасць нервовых клетак, размешчаных на розных узроўнях ЦНС, якія забяспечваюць ажыццяўленне той ці іншай функцыі арганізма.

ЦИТОАРХЕТОНИЧЕСКИЕ ПОЛЯ КОРЫ ГОЛОВНОГО МОЗГА -- *цытаархетанічныя палі шкарупы галаўных мазгоў:* участкі шкарупы мозгу, якія характарызуюцца пэўнымі асаблівасцямі будовы.

ЧЕТВЕРОХОЛМИЕ (КРЫША СРЕДНЕГО МОЗГА) -- *чатырохгрудасць (дах сярэдняга мозгу):* утварэнне сярэдняга мозгу, у якім адрозніваюць верхняе двухгрудавае цела, якое з'яўляецца цэнтрам аналізу зрокавых пацьвяляльнікаў, і ніжняе двухгрудавае цела - цэнтр аналізу слыхавых пацьвяляльнікаў.

ЧИХАНИЕ -- *чыханне (чханне):* ахоўны дыхальны рэфлекс, які ўзнікае ў выніку пацьвялення рэцэптараў носавай паражніны.

ЧУВСТВИТЕЛЬНОСТЬ ТАКТИЛЬНАЯ -- *чуллівасць тактыльная (дотыкавая):* адчуванне, якое ўзнікае пры ўздзеянні на скуру розных механічных пацьвяляльнікаў.

ШАТЕРНИКОВА КАМЕРА -- *Шатэрнікава камора:* камора для даследавання газаабмену на аснове ўліку спажытага кіслароду.

ШЕРРИНГТОНА ВОРОНКА -- *Шэрынгтонава лейка:* сыходжанне мност-

ва аферэнтных валокнаў па меры набліжэння да эферэнтных нейронаў у агульны шлях, які мае выгляд лейкі.

ШИПИКИ -- *пыжыкі (шыпкі):* бакавыя атожылкі дэндрытаў нервовых клетак шкарупы мозгу.

ШОК СПИНАЛЬНЫЙ -- *шок спінальны:* аніжэнне ўзрушлівасці і тармажэнне рэфлекцыйных функцыяў нервовых цэнтраў спінных мазгоў, якія внаходзяцца ніжэй месца перарэзкі ў выніку тармажэння імпульсаў, што ідуць да спінных мазгоў ад аддзелаў цэнтральнай нервовай сістэмы.

ШУМЛЯНСКОГО-БОУМЕНА КАПСУЛА -- *Шумлянскага-Боўмена капсула:* капсула клубочка ныркі, пачатковая частка нефрона.

ЭКВИПОТЕНЦИАЛЬНОСТЬ КОРЫ МОЗГА -- *эквіпатэнцыяльнасць шкарупы мозгу:* тэорыя, у адпаведнасці з якой усе ўчасткі шкарупы з'яўляюцца раўназначнымі ў ажыццяўленні функцыяў.

ЭКЗОФАГОТОМИЯ -- *экзафагатамія:* аперацыя рассячэння стрававода сабакі для ажыццяўлення эксперыментаў з уяўным харчаваннем, якая выкарыстоўваецца для вывучэння страўнікавай сакрэцыі.

ЭКЗОЦИТОЗ -- *экзацытоз:* выдзяленне рэчываў праз клетачную мембрану ў пазаклеткавае асяроддзе.

ЭКСКРЕЦИЯ -- *экскрэцыя:* вывядзенне з арганізма канчатковых прадуктаў абмену рэчываў.

ЭКСПЕРИМЕНТ АССОЦИАТИВНЫЙ -- *эксперымент асацыятыўны:* метад даследавання псіхікі, пры якім рэгіструецца і вывучаецца змест і хуткасць адказаў паддоследнага на пытанні эксперыментатара.

ЭКСТЕРОРЕЦЕПТОР (-Ы) -- *экстэрарэцэптар (-ы):* рэцэптары, якія ўспрымаюць пацьвяленні з вонкавага асяроддзя (рэцэптары зрокавыя, слыхавыя, нюху і г.д.).

ЭКСТРАПОЛЯЦИЯ -- *экстрапаляцыя:* распаўсюджанне вынікаў, атрыманых шляхам назірання над адной часткай з'явы на яе другую частку. Адзін са спосабаў апераджальнага адлюстравання рэчаіснасці.

ЭКСТРАСИСТОЛА -- *экстрасістала:* скарачэнне сэрца або яго часткі ў час адноснай рэфрактэрнай фазы ў выніку дапаўняльнага ўзрушання.

ЭЛЕКТРОКАРДИОГРАФИЯ -- *электракардыяграфія:* метад даследавання сэрца шляхам графічнай рэгістрацыі біяэлектрычных патэнцыялаў.

ЭЛЛИПТИЧЕСКИЙ МЕШОЧЕК (МАТОЧКА) -- *эліптычная торбачка (матачка):* аталітавы орган вестыбулярнага апарату, які ўспрымае лі-

нейныя паскарэнні, што ўзнікаюць пры рухах галавы.

ЭМОЦИЯ -- *эмоцыя:* рэакцыя арганізма на ўздзеянне вонкавых і нутраных пацьвялялынікаў, якія маюць выражаную суб'ектыўную афарбоўку і ахопліваюць усе віды чуллівасці.

ЭНГРАММА -- *энграма:* сістэма нейронаў, у якой захоўваюцца сляды навучання ў выглядзе аднолькавых прасторава-тэрміновых комплексаў ўзрушання, структурных зменаў адпаведных сінапсаў і нутранейронных метабалічных перабудоў.

ЭНДОКАРД -- *эндакард:* тонкая абалонка, якая высцілае нутраную паражніну сэрца і складаецца са злучальнай тканкі, гладкіх мускулаў і эндатэлію.

ЭНДОЛИМФА -- *эндалімфа:* вадкасць, якая запаўняе замкнёную прастору касцявога лабірынта і ўдзельнічае ў перадачы гукаў, прамалінейных і вярчальных рухаў.

ЭНДОРФИНЫ (ЭНДОГЕННЫЕ МОРФИНЫ) -- *эндарфіны (эндагенныя марфіны):* фізіялагічна актыўныя поліпептыды, якія выпрацоўваюцца ў ЦНС, звязваюцца з мембраннымі рэцэптарамі марфіну і іншых апіятаў і выконваюць функцыю міжклеткавых і міжтканкавых нейрарэгулятараў.

ЭНКЕФАЛИНЫ -- *энкефаліны:* фізіялагічна актыўныя поліпептыды, якія выпрацоўваюцца ў розных участках ствала мозгу і бяруць ўдзел у механізмах болесуцішвання.

ЭНУРЕЗ (НОЧНОЕ НЕДЕРЖАНИЕ МОЧИ) -- *энурэз (начное нетрыманне мачы):* міжвольнае выдзяленне мачы ў час сну.

ЭОЗИНОФИЛ (-Ы) -- *эазінафіл (-ы):* форма зярністых лейкацытаў крыві.

ЭПИДЕРМИС -- *эпідэрміс:* паверхні слой скуры, які складаецца са шматпластовага пляскатага эпітэлію.

ЭПИКАРД -- *эпікард:* вонкавая серозная абалонка сэрца, якая шчыльна прылягае да яго.

ЭПИТАЛАМУС (НАДБУГОРЬЕ, НАДТАЛАМИЧЕСКАЯ ОБЛАСТЬ) -- *эпіталамус (надгруд, надталамічная вобласць):* частка таламічнага мозгу, куды ўваходзіць эпіфіз і яго вуздзечка. Шчыльна злучаны з лімбічнай сістэмай.

ЭПИФИЗ (ШИШКОВИДНОЕ ТЕЛО) -- *эпіфіз (шышкаватае цела, шышкавіца):* залоза нутраной сакрэцыі, якая знаходзіцца ў эпіталамусе і бярэ ўдзел у рэгуляцыі біялагічных рытмаў.

ЭРГОГРАФИЯ -- *эргаграфія:* метад графічнай рэгістрацыі мускульнага скарачэння, які прымяняецца пры вывучэнні работы муску-

лаў.

ЭРИТРОПОЭТИНЫ -- *эрытрапаэтыны:* рэчывы, якія стымулююць эрытрапаэз.

ЭРИТРОФАГОЦИТОЗ -- *эрытрафагацытоз:* працэс паглынання ратыкулярнымі клеткамі эрытрацытаў, якія закончылі жыццёвы цыкл.

ЭРИТРОЦИТ (-Ы) (КРАСНЫЕ КРОВЯНЫЕ ТЕЛЬЦА) -- *эрытрацыт (-ы) (чырвоныя крывяныя цельцы):* бяз'ядзерныя клеткі крыві, якія пераносяць кісларод.

ЭСТРОГЕНЫ -- *эстрагены:* гармоны жаночых плоцевых (палавых) залозаў і наднырказіцы, якія вызначаюць развіццё другасных жаночых плоцевых прыкметаў і забяспечваюць выкананне плоцевых функцыяў.

ЭФФЕКТОР -- *эфектар:* спецыялізаваны орган, які адказвае на імпульсы, што паступаюць да яго па эферэнтных нервовых валокнах і вызначае канчатковы эфэкт.

ЭФФЕРЕНТНОЕ ЗВЕНО -- *эферэнтнае звяно:* частка рэфлекцыйнай дугі, па якой перадаюцца імпульсы ЦНС да эфектара.

ЭХОКАРДИОГРАФИЯ -- *рэхакардыяграфія:* ультрагукавы метад даследавання функцыі сэрца.

ЯДРА БАЗАЛЬНЫЕ -- *ядры базальныя:* скапленне шэрага рэчыва ў тоўшчы белага рэчыва вялікіх паўсфераў галаўных мазгоў. Б.я. улучаюць бледнае ядро, паласатае цела, агароджу, міндаліну і інш.; забяспечваюць дапаможныя аўтаматычныя рухі, эмацыянальныя рэакцыі, бяруць удзел у працэсах памяці.

ЯДРА ДВИГАТЕЛЬНЫЕ -- *ядры рухальныя:* рухальныя цэнтры ў мазгавым ствале.

ЯДРО КОРКОВОГО КОНЦА АНАЛИЗАТОРА -- *ядро шкарупавага канца аналізатара:* цэнтральная частка шкарупавага прадстаўніцтва аналізатара.

ЯДРО ХВОСТАТОЕ -- *ядро хвастатае:* складовая частка ядраў галаўных мазгоў, якая бярэ ўдзел у каардынацыі дапаможнай рухальнай актыўнасці, працэсах навучання і памяці.

## СКАРЫСТАНАЯ ЛІТАРАТУРА

1. Байкоў М., Некрашевіч С. Беларуска-расійскі слоўнік. -Менск: ДВБ. -1926. -356 с.

2. Биологический энциклопедический словарь / Под ред. М.С.Гилярова. -М.:Сов. энциклопедия. -1989. - 864 с.

3. Газенко О.Г. Словарь физиологических терминов. -М.: Наука. -1987. -446 с.

4. Костюк П.Г. Физиология человека. Т. 1-4. -М.: Мир. -1985.

5. Ластоўскі В. Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. -Коўна: Міністэрства беларускіх спраў у Літве. -1924. -832 с.

6. Ноздрачев А.Д. Физиология человека и животных. В 2-х книгах. -М.: Высшая школа. -1991. -Кн. 1. -512 с. -Кн. 2. -528 с.

7. Руска-беларускі слоўнік.-Мн.: БелСЭ.-1991.-Т. 1.-642 с.

8. Руска-беларускі слоўнік.-Мн.: БелСЭ.-1991.-Т. 2.-919 с.

9. Санюкевич Л.И. Краткий словарь физиологических терминов. -Мн.: Вышэйшая школа. -1992. -206 с.

10. Стасевіч А., Варыёцкі С. Кароткі расейска-беларускі фізыялягічны слоўнік. -Менск: Тэхналогія. -1993. -50 с.

11. Фениш Х. Карманный атлас анатомии человека на основе Международной номенклатуры /При участии В. Даубера; Пер. с англ. С.Л. Кабак, В.В. Руденок; Пер. под ред. С.Д. Денисова. -Мн.: Вышэйшая школа. -1996. -464 с.

12. Эккерт Р., Рэнделл Д., Огастин Дж. Физиология животных. Механизмы и адаптации. -М.: Мир. Т.1. -1991. -424 с.; Т.2. -1992. -343 с.

13. Ярашевіч С.П., Лабко П.У., Каваленя Д.К., Байцоў Л.М. Анатамічны слоўнік. -Мн.: 1995, рукапіс.

14. Ятусевіч А.І., Капліч В.М. Слоўнік заапаразіталагічных тэрмінаў. -Мн.: Навука і тэхніка. -1993. - 292 с.

Вучэбнае выданне

# РУСКА-БЕЛАРУСКІ ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК ПА ФІЗІЯЛОГІІ ЧАЛАВЕКА І ЖЫВЁЛ

Складальнікі: Александровіч Алег Радаслававіч,
Амуросьева Сафія Пятроўна,
Байцоў Леў Мікалаевіч і інш.

Падпісана да друку 14.10.97. Фармат 60x84 1/16.
Папера друкар. N 2. Афсетны друк. Ум.друк.арк. 4,3
Ум. фарм.-адб. 4,4 Ул.-выд.арк. 3,8
Тыраж 100 экз. Заказ 917. Кошт 18000 р.

Беларускі дзяржаўны педагагічны
універсітэт імя Максіма Танка
Ліцэнзія ЛВ N 394 ад 26.02.93

Ратапрынт БДПУ імя М. Танка. 220809 г. Мінск, вул. Савецкая, 18.